КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну).
КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

Пролетарыі Ўсіх краёў, злучайцеся!
פּראָלעטאַריער פֿון אַלע לענדער, פֿאַראייניקט זיך!
Proletarjusze wszystkich krajów, łączcie się!
Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
Visú šalių proletarai, vienykitės!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.



СЬНЕЖАНЬ
1931 год.

№ 4 (45)

КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну.)

Пралетарыі ўсіх краёў злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

№ 4 (45) Вільня, Сьнежань 1931 г. № 4 (45)

## Напярэдадні рашаючых баёў.

Надыходзячая зіма мае выключнае значэньне. Сусьветны крызыс уступае ў новую рашаючую фазу, хістаючы самымі падставамі капіталістычнага ладу, абвастраючы да нябывалых разьмераў усе ўнутраныя і вонкавыя супярэчнасьці імпэрыялістычных дзяржаў. Яскравымі паказальнікамі гэтага зьяўляюцца такія факты, як фінансавы крах у Нямеччыне, Англіі і шэрагу іншых краёў. Абвастрэньне клясавых супярэчнасьцяў выяўляецца ў магутным уздыме рэвалюцыйнага руху ва ўсіх важнейшых капіталістычных краінах і калёніях. Рэвалюцыйны крызыс насьпявае ў паскораным тэмпе ў Нямеччыне і Польшчы. Бунт у ангельскай ваеннай флёце, побач з баявымі выступленьнямі безработных, сыгналізуюць набліжэньне вялікіх клясавых баёў у аднэй з найбольш магутных імпэрыялістычных дзяржаў і мае сусьветнае палітычнае значэньне. Абвастраецца грамадзянская вайна ў Гішпаніі. Посьпехі кітайскіх чырвоных арміяў забясьпечваюць угрунтаваньне савецкае ўлады ў шэрагу буйнейшых правінцыяў у Кітаі. У варунках вострага гаспадарчага крызысу і шалёнае барацьбы за рынкі небясьпека імпэрыялістычных войнаў устае ва ўсёй вострацы. Задыхаючыся ў абцугох крызысу, капіталізм бачыць сваё збаўленьне ад немінучае пагібелі ў крывавым душэньні рэвалюцыйнага руху, у новых імпэрыялістычных войнах за перадзел сьвету, у разгроме бацькаўшчыны міжнароднага пралетарыяту — СССР, які шпарка ідзе па шляху пасьпяховага выкананьня пяцігодкі і заканчэньня будовы фундамэнту сацыялізму. Адгэтуль — узмацненьне крывавага тэрару супроць рэвалюцыйнага руху, паскарэньне тэмпаў фашызацыі дзяржаўнага ладу, гарачковая падрыхтоўка да ваеннае інтэрвэнцыі супроць СССР, жорсткая кампанія за гаспадарчую і фінансавую блёкаду СССР. Акупацыя Японіяй Манджурыі — гэта першая ластаўка набліжаючайся новай паласы імпэрыялістычных войнаў, яшчэ адзін крок да арганізацыі ваеннага нападу на СССР.

Фашыстоўская Польшча займае адно з першых мейсц па глыбіні і вастраце гаспадарчага крызысу, па сіле і напружанасьці рэвалюцыйнага руху. Занепад прамысловасьці ідзе ў ногу з разьвіцьцём вострага фінансавага крызысу, з глыбокімі трэшчынамі ў дзяржаўным бюджэце, з шалёным узростам беспрацоўя, руйнаваньнем масаў сялянства і дробнай буржуазіі. Зіма нясе новае катастрафічнае пагаршэньне, нясе новыя нячуваныя злыбеды пралетарыяту і шырокім масам працоўных.

З яшчэ большай жорсткасьцю рэзультаты крызысу праяўляюцца ў Зах. Беларусі. Ужо ў 1930 г. прамысловасьць Зах Беларусі скарацілася ў сярэднім на 30-40%. Першая палова 1931 г. прывяла да новага масавага закрыцьця новых прамысловых прадпрыемстваў, галоўным чынам у галіне дрэваапрацовачнай, мінэральнай і харчовай прамысловасьці. У Беластоку, пасьля лёгкага летняга ажыўленьня, зноў масава закрываюцца тэкстыльныя фабрыкі. Заработная плата ва ўсіх галінах зьніжана на 25-40%. На вуліцу выкідваюцца новыя дзясяткі тысячаў беспрацоўных. Сялянскія масы задыхаюцца ў лешчотках аграрнага крызысу, грабежніцкіх падаткаў, даўгоў і нядоімак. Ураджай у сёлетнім годзе ў Зах. Беларусі нідзе не перавышае 50% сярэдняга ўраджаю, а ў шмат раёнах дасягае ледзь10%. Пры існуючых нізкіх цэнах на прадукты сельскай гаспадаркі, пры шалёным націску фіскальнага апарату, які з патроенай энэргіяй выціскае падаткі і недаімкі, бядняцкія і серадняцкія масы сялянства фактычна змушаны пускаць з малатка ўвесь свой ураджай, а самі літэральна засуджаны на голад. Выкідваюцца тысячы ніжэйшых дзяржаўных і камунальных урадоўцаў, вучцялёў;

пазбаўляюцца заработкаў рамесьнікі, саматужнікі, да шчэнту руйнуецца гарадзкая беднята, папаўняючы рады люмпэн-пралетарыяту.

Сапхнутыя на дно нэндзы, даведзеныя да голаду і адчаю масы ня хочуць ужо больш пакорліва пераносіць узвальваемыя на іх горб цяжары ўсё ўзмагаючайся эксплёатацыі і ўціску. Як ва ўсёй Польшчы, так і ў Зах. Беларусі мінулы пэрыяд зьяўляецца пэрыядам значнага рэвалюцыйнага ўздыму. Забастовачная барацьба шырокай хваляй пракацілася па ўсёй Зах. Беларусі. Усьлед за пераможнай стачкай рабочых шкляных гутаў у Вільні, агульнай забастоўкай тэкстыльшчыкаў у Беластоку і агульнай забастоўкай у Горадні, забастовачная барацьба ахоплівае цэлы шэраг другіх прадпрыемстваў па ўсёй Зах. Беларусі. Гэтая хваля шырокага забастовачнага руху, побач з бурлівымі выступленьнямі беспрацоўных, галоўным чынам у Вільні, якія даходзілі да крывавых сутычак з паліцыяй і звальненьня арыштаваных, дала стойкі адпор атакам капіталу, прыводзячы ў значнай частцы да поўнай альбо частковай перамогі.

Нацыянальна-вызваленчая барацьба паняволеных народных мас Зах. Беларусі проціў польскае акупацыі ўваходзіць у новую фазу. Нянавісьць даведзеных да голаду і роспачы мас прарываецца ў бурлівых узрывах, якія ахопліваюць усё больш шырокія масы. Адмова ад плацяжа падаткаў і даўгоў, выкананьня прыгонных шарваркаў, барацьба супроць фашыстоўскай зямельнай палітыкі, актыўны адпор экзэкутарам—прыймаюць шырокі масавы характар, захопліваючы шмат дзе цэлыя раёны. Пашыраюцца падпалы абшарніцкіх двароў, самачыннае карыстаньне абшарніцкімі і дзяржаўнымі лясамі, забойствы лясьнічых. Нянавісьць мас супроць акупацыі ўсё часьцей праяўляецца ў форме замахаў на найбольш зьненавіджаных прадстаўнікоў акупацыйнае ўлады і дзяржаўныя ўстановы (замахі на афіцэраў, паліцэйскіх, дэфэнзыўшчыкаў і канфідэнтаў, напады на паштовыя касы, нішчэньне тэлеграфаў, тэлефонаў, чыгуначныя замахі і г д.). Усё больш яскрава выступае імкненьне масаў да ўзбраеньня. Узмацняецца цяга да тварэньня самаабароны. У паасобных выпадках стыхійна паўстаюць тэрорыстычныя і партызанскія групы. Часьцей-гусьцей спатыкаюцца выпадкі збройнага адпору паліцыі і карным экспэдыцыям (Волчын, Домачова, Ракітніца). Перад пагрозай галоднай сьмерці і фашыстоўскага тэрору сяляне ў пагранічных раёнах Зах. Беларусі з аружжам у руках групамі звыш сотні чалавек пераходзяць у БССР, у крывавых сутычках прарываючы кардоны польскай пагранічнай ахраны.

Пануючыя клясы здаюць сабе ясна справу з сытуацыі: яны ўжо адкрыта гавораць, што зямля гарыць у іх пад нагамі, што надыхозячая зіма можа быць пераломным пунктам у настроях прыгнечаных і эксплёатаваных масаў, што трэба не адкладаючы ні хвіліны, прыймаць усе меры, каб разьбіць рэвалюцыйны рух. Выхаду з клешчаў крызысу фашыстоўскі ўрад шукае ва ўзмацненьні да апошняй магчымасьці эксплёатацыі і грабежства, ва ўзмацненьні крывавага тэрору, у арганізацыі вайны проці СССР. Паўсюлешнее скарачэньне заработнай платы і рэдукцыі ідуць у пары з пазбаўленьнем безработных дзяржаўных дапамогаў, за ўзможаным выкалачваньнем падаткаў, даўгоў і недаімак, якія дасягнулі ужо звыш мільярда злотых. Уводзяцца дзясяткі новых падаткаў, патройваецца армія падатковых экзэкутараў, якія распрадаюць з малатка нэндзныя рэшткі маемасьці зруйнаваных суздром працоўных масаў гораду і вёскі.

Тэрор становіцца ўсё больш галоўным аружжам у барацьбе з масамі. Па ўсёй Польшчы уведзены палявыя суды, пагражаючыя карай сьмерці за ўсялякае выступленьне проціў атакаў капіталу і фашыстоўскага ўціску. Шыбеніца пагражае за ўдзел у забастоўцы, дэманстрацыі, адпоры падатковым экзэкуцыям, за выступленьне проціў акупацыйнага рэжыму. У шмат якіх раёнах ужо фактычна ўведзена асаднае палажэньне. Мэтады крывавай пацыфікацыі, сутнасьць якіх ляжыць у масавых арыштах, пагалоўным катаваньні, падпале вёсак, нішчэньні сялянскай маемасьці і расстрэлах — становяцца штодзённым зьявішчам. Сям-там фашызм ужо пачынае браць закладнікаў з мясцовага рэвалюцыйнага актыву, пагражаючы забойствам у выпадку рэвалюцыйных выступленьняў. Абвастрэньне карнага кодэксу, вастрожнага рэжыму, катаваньні і забойствы палітзьняволеных (пыткі ў Пінскай турме, забойства т.т. Скэльчыка і Мэнакэра у Горадзенскай турме, т. Шышэля ў Беластоцкай і інш.), вышуканая сыстэма правакацыі маюць на мэце фізычна зьнішчыць і маральна разлажыць рэвалюцыйны авангард. Абвостраным тэрарам фашызм імкнецца ізаляваць кампартыю і рэвалюцыйны авангард ад масаў, пазбавіць іх кіраўніцтва, задушыць і ўтапіць у крыві рэвалюцыйны рух, перш чым дасьпеюць усе прадпасылкі рэвалюцыйнага крызісу ў Польшчы.

Стасуючы крывавы тэрар і ўзможаную эксплёатацыю масаў, як падставовы спосаб барацьбы з рэвалюцыйным рухам, фашызм ад-

начасна стасуе і шэраг манэўраў, якія маюць на мэце падтрымліваць шпарка занікаючыя ілюзіі ў масах і раскладаць баявы фронт працоўных, нацкоўваючы адну частку на другіх. Адным з найбольш яскравых прыкладаў гэтага зьяўляецца так званая акцыя дапамогі беспрацоўным, якая сапраўды мае на мэце не дапамогу безработным, а ўзмацненьне экспл́ёатацыі і грабежы масаў, сеяньне антаганізму паміж рабочай клясай і працоўнымі масамі сялянства. З наглым цынізмам запраўдную сутнасьць гэтай акцыі ўскрывае віленскі фашыстоўскі орган «Слово»:

«На самперш трэба даць работу тым, хто хоча працаваць, хаця-б толькі за кавалак хлеба, і даць ім надзейную абарону ад тых, хто не дапушчае да працы інакш, як на выпрацаваных праз іх варунках... Ня можна раздаваць дапамогі для безработных, трэба абмежаваць сацыяльныя забясьпячэньні, а заставіць працаваць тых, хто толькі гавора аб працы (чытай: безработных. П. К.)... Калі караблю пагражае гібель, дык усе павінны ўзяцца за працу, хаця-б прышлося працаваць без адпачынку 3-4 сутак, а адзін сухар павінен выстарчыць за ежу».

Вось у чым сутнасьць усяе акцыі «помачы безработным»! Бізуном змусіць безработных за міску гнілое зупы ці кавалак сухара працаваць круглыя суткі для ратаваньня тонучага караблю капіталістычнай дзяржавы, змусіць яго за гэтую міску пойла стаць штрэйкбрэхэрам пад аховай паліцэйскіх штыкоў, змусіць яго за кавалак сухара стаць удзельнікам фашыстоўскіх карных экспэдыцыяў для выкалачываньня з галадуючых сялян апошняга фунта хлеба ці бульбы за нядоімкі.

Узмацняючы нацыянальны ўціск і абвастраючы рэжым акупацыі, фашыстоўскі урад усё мацней заціскае узы свайго саюзу з беларускай буржуазіяй і кулацтвам у барацьбе проці нац. вызваленчага руху, у рыхтаваньні нападу на СССР. Луцкевічы, Астроўскія, Трэпкі далі новы яркі прыклад гэтага праз свой удзел у ўрачыстасьці, прысьвечанай памяці ката нац. вызваленчага руху—Голувкі, праз свае вернападданьніцкія завярэньні адданасьці акупацыі пры праводзінах другога ката б. віленскага ваяводы Кіртыкліса. У адказ на закрыцьцё беларускіх школаў, на разгром Клецкае беларускае гімназіі супольнікі Луцкевічаўскай хэўры пакорна ліжуць акупанцкую лапу, абяцаючы патроіць свае стараньні па барацьбе з камунізмам, па барацьбе з нац. вызваленчым рухам, які «раскладае» шэрагі вучнёўскай моладзі. Абвастрэньне акупацыйнага рэжыму адбываецца пры поўным падтрыманьні і актыўным удзеле беларускага нацыянал-фашызму.

Пад ударамі рэвалюцыйнага напору масаў курчацца фашыстоўскія трансмісіі да масаў. Сацыял-фашызм удасканаляе сваё мастацтва, каб захаваць свае уплывы на масы, каб затамаваць іх актыўнасьць і паралізаваць узрастаючы уплыў кампартыі. На арэну выпускаюцца Зарэмбы і іншыя майстры ад левае фразы і апазыцыйных жэстаў. Пэпэсяцкі гэршт на крэсах—прахадзімец **Махай—каб падшыцца ў даверые масаў, на мітынгу у Слоніме выступае нават пад маскаю абаронцы СССР. ППС і Бунд, вычарпаўшы** ўсе спосабы паўстрымаць масы ад барацьбы, становяцца на чале забастовачнай барацьбы пралетарыяту, але толькі для таго, каб здрадзіць і зламаць яе, а тым самым аблягчыць новыя атакі капіталу. Гэтая іх роль асабліва яскрава сказалася у часе забастоўкі тэкстыльшчыкаў у Беластоку і агульнае забастоўкі у Гарадні.

Усе прыведзеныя намі вышэй факты сьведчаць аб тым, што мы стаімо перад **буйнымі рашаючымі клясавымі баямі. Мы стаімо перад крутым рэвалюцыйным уздымам як у Польшчы, так і ў Зах. Беларусі.** Значэньне гэтага рэвалюцыйнага ўздыму павялічваецца тым, што гэта не ізаляванае зьявішча, а адбываецца на фоне і ў выніку крызісу капіталізму і магутнага рэвалюцыйнага ўздыму ва ўсім сьвеце. Нашы сілы растуць, у той час, як сілы нашага клясавага ворага слабеюць с кожным днём. Фашыстоўская дыктатура і пануючыя клясы здаюць сабе ясна з гэтага справу. Перад абліччам надыходзячай рэвалюцыі контр-рэвалюцыя яднае свае сілы і пераходзіць да усё больш вострых формаў барацьбы, каб разьбіць рэвалюцыйны рух, пакуль ён яшчэ не ўвайшоў у рашаючую стадыю. Дзеля таго, каб суздром падняць гэтыя пляны фашыстоўскай дыктатуры, не дапусьціць, хаця-б толькі да часовага, аслабленьня рэвалюцыйнага руху, трэба спаралізаваць удары клясавага ворага, **адказаць на яго раз'юшаныя атакі магутнымі контр-атакамі, дэзарганізаваць лягер контр-рэвалюцыі і разгарнуць шырокае наступленьне па ўсяму фронту.** Толькі пад гэтым варункам абвостраны фашыстоўскі тэрар ня толькі ня зможа ўнясьці замяшаньне у рэвалюцыйны лягер, а наадврот, будзе спрыяць згуртаваньню масаў навакола іх правадыра — кампартыі, выкліча пераход масаў да больш вострых формаў барацьбы на яшчэ больш шырокай масавай базе. Гэтая сітуацыя акрэсьлівае нашы падставовыя задачы і тактыку на дадзенай стадыі рэвалюцыйнага руху —перарастаньня частковых баёў у рашаючыя бітвы:

1) **Расшырэньне фронту барацьбы шляхам уцягваньня ў барацьбу як найшырэйшых масаў на падставе іх штодзённых патрэбаў,** у першую чаргу, рабочых буйных прадпрыемстваў і важнейшых галін прамысловасьці, безработных, а таксама шырокіх масаў эксплёатаванага сялянства, салдат, моладзь і жанчын. Расшырэньне фронту барацьбы патрабуе ўцягваньня ў барацьбу новых пластоў дзяржаўных і камунальных служачых, працоўнае інтэлігенцыі, зруйнаваных масаў гарадзкое дробнае буржуазіі. Усё гэта патрабуе абвастрэньня барацьбы з сацыял- нацыянал і народніцка-фашыстоўскімі партыямі, умелага і канкрэтнага іх дэмаскаваньня для вырываньня масаў з-пад іх уплываў.

2) **Абвастрэньне формаў барацьбы на больш шырокай масавай базе,** адпаведна дадзенай стадыі руху. Гэта вымагае сваечасовай модыфікацыі нашых частковых лёзунгаў і мэтадаў барацьбы. Мы павінны класьці больш нацiск на арганізацыю выступленьняў, скіраваных беспасрэдна процiў фашыстоўскай дыктатуры, на арганізацыю масавых палітычных стачак, баявых дэманстрацыяў і барацьбы за вуліцу, мабілізацыю галадуючых і беспрацоўных масаў на захват хлеба з абшарніцкіх свіранаў, на арганізацыю адпору карным экспэдыцыям, агульнай адмовы ад плацежа падаткаў і адпору экзэкуцыям, абвастрэньне барацьбы проціў акупацыі і яе агентаў.

**3) Каардынацыя і аб'яднаньне барацьбы на паасобных вучастках рэвалюцыйнага фронту,** расшырэньне барацьбы на другія фабрыкі, галіны прамысловасьці, вёскі, гарады і раёны; арганізацыя акцыі салідарнасьці, узаемнае падтрыманьне ў барацьбе з боку рабочых, сялян і народных масаў паняволеных народаў, неадкладнае рэагаваньне на найбольш буйныя баі і выпадкі ў Польшчы і Зах. Украіне, ставячы сваёй мэтай арганізацыю і канцэнтрацыю сваіх сілаў для нанясеньня ворагу магутнага ўдару, калі дасьпеюць варункі рашаючай барацьбы за ўладу — момант узбройнага паўстаньня.

Аб'ектыўныя варункі дзейнічаюць на нашу карысьць. Аб'ектыўныя варункі рэвалюцыйнага крызысу шпарка насьпяваюць. Але ня ўсякая рэвалюцыйная сытуацыя прыводзе да рэвалюцыі. Рашаючую ролю грае наяўнасьць партыі, здольнай павясьці працоўныя масы пад кіраўніцтвам пралетарыяту на штурм дыктатуры капіталу. Сіла, актыўнасьць, мабілізуючая здольнасьць партыі — у канчатковым выніку зьяўляецца рашаючым фактарам. Адгэтуль выцякае неабходнасьць **канцэнтрацыі высілкаў на падняцьце баявое актыўнасьці і палітычнае ініцыятывы нашай партыі** і выразнае вызначэньне тых канкрэтных задач, зьдзейсьненьне якіх забясьпечыла-б пасьпяховую мабілізацыю масаў, расшырэньне фронта барацьбы і падняцьцё яе на вышэйшую ўсходку. Трэба няшчадна і сьмела выкрываць нашыя слабыя бакі, шпарка і рашуча выпраўляць недахопы, на хаду папраўляць памылкі.

Высілкі партыі павінны быць скіраваны перш за ўсё на **арганізацыю барацьбы пралетарыяту і ўзмацненьне яго гегемоніі ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху, у барацьбе шырокіх народных масаў Зах. Беларусі процiў акупацыі. Арганізацыя і самастойнае кіраўніцтва забастовачнай барацьбой рабочае клясы і выступленьнямі безработных** павінна быць у цэнтры ўвагі ўсяе нашае партыі. Верасьнёвая рэзалюцыя ЦК КПП зусім слушна падкрэсьлівае, што адным з найбольш слабых вучасткаў у рабоце нашай партыі зьяўляецца кіраўніцтва барацьбой гарадзкога пралетарыяту. Шырокі размах забастовачнага руху, выявіўшаяся вялікая актыўнасьць рабочае клясы ня была ў выстарчальнай меры выкарыстана для арганізацыі і расшырэньня фронту барацьбы, для заваяваньня большасьці рабочае клясы і вырываньня масаў з-пад уплыву сац.-фашызму. Найбольш буйныя і важныя забастоўкі, як забастоўка тэкстыльшчыкаў у Беластоку, агульная забастоўка ў Горадні, забастоўка на тартаках у Вільні праходзілі без нашага кіраўніцтва. Партыя не патрафіла даць адпор фашыстоўскім і сацыял-фашыстоўскім правадыром, якія змаглі апанаваць гэтымі буйнейшымі баямі, каб у канчатковым выніку здрадзіць іх. Посьпехі ў галіне самастойнага кіраўніцтва забастовачнаю барацьбою выявіліся толькі ў забастоўцы на шкляных гутах у Вільні, у шэрагу сельска-гаспадарчых забастовак і некаторых дробных забастоўках. Партыя моцна адстае ў галіне арганізацыі барацьбы безработных, ды й то далёка ня вычарпала ўсіх магчымасьцяў для пашырэньня фронту барацьбы, для ўцягваньня ў барацьбу найбольш шырокіх масаў безработных. У справе мабілізацыі масаў на барацьбу за вуліцу і арганізацыі масавых баявых дэманстрацыяў, як паказвае дасьлед 1-га мая і 1-га жніўня, мы цягнемся ў хвасьце ўсіх буйнейшых арганізацый ў КПП. Як правіла, ні ў водным буйным цэнтры ЗБ партарганізацыі не змаглі стаць на чале баявое актыўнасьці масаў і арганізаваць масавыя баявыя дэманстрацыі, хаця масы самі йшлі на вуліцу і шукалі партыйнага кіраўніцтва. Ні водная гарадзкая арганізацыя не змагла арганізаваць баявых выступленьняў пралетарыяту для падтрыманьня абвастраючайся ба-

рацьбы на вёсцы, для пратэсту супроць разгулу карных экспэдыцый. У той час, калі ва ўсёй Польшчы сацыял-фашызм шпарка траціць грунт пад нагамі, у важнейшых цэнтрах ЗБ ППС і Бунд без адпаведнага адпору з боку нашай партыі разгортваюць сваю здрадніцкую дзейнасьць, узмацняючы ў паасобных выпадках свае ўплывы (Беласток, Горадня). Нават там, дзе масы, на ўласным досьледзе, пераканаўшыся ў здрадніцтве ППС і Бунду, масава адыходзяць ад сац.-фашызму і самі шукаюць нашу партыю, партарганізацыі выказваюць часта недапушчальную пасыўнасьць у галіне ліквідацыі ўплываў сац.-фашызму і ахопу нашым уплывам адыходзячых ад сац.-фашызму рабочых і шэраговых членаў сац.-фашыстоўскіх партыяў (Вільня, Слонім).

Прычыны гэтых буйнейшых недахопаў ляжаць ва ўсё яшчэ слабай сувязі з масамі, асабліва з рабочымі буйных прадпрыемстваў важнейшых галін прамысловасьць у недаацэнцы глыбіні рэвалюцыйных падзеяў ва ўсёй краіне, у нявер'і ў рэвалюцыйную актыўнасьць мас, у стаўцы на самацёк, у недаацэнцы небясьпекі з боку сац.-фашызму і невыстарчаючай барацьбе з імі. Некаторыя нашы гарадзкія і мястэчковыя арганізацыі (Бярэсьце, Кобрын) прасякнуты сац.-дэмакратычнымі і бундаўскімі перажыткамі, якія зьяўляюцца запорай у разьвязваньні рэвалюцыйнай актыўнасьці масаў.

Партыя павінна сканцэнтраваць свае высілкі, каб **перамагчы грознае адставаньне на гэтым вучастку** і зьдзейсьніць дырэктывы V пленуму у справе арганізацыі забастовачных баёў пралетарыяту, узмацненьня нашай апоры на фабрыках, стварэньня і пашырэньня нашых трансмісій да масаў. **Арганізацыя забастовачнай барацьбы проціў зьніжэньня зарплаты, за яе павялічэньне, за скарачэньне рабочага** дня пры захаваньні ў поўным разьмеры заработнае платы — вось шлях для адбіцьця атак капіталу, які прабуе знайсьці выхад з крызысу шляхам усіленьня вызыску. Арганізуючы і каардынуючы эканамічную барацьбу рабочае клясы, трэба накіраваць яе ў рэчышча **палітычных выступленьняў, накіраваных беспасрэдна супроць фашыстоўскага ўраду, як дыктатуры капіталу, як ураду акупацыі, шляхам арганізацыі масавых палітычных стачак, баявых масавых дэманстрацый і ўзмацненьня барацьбы за вуліцу.**

У надыходзячы зімні час, калі новыя дзесяткі тысяч рабочых будуць выкінуты на вуліцу, калі фашыстоўскі ўрад і яго агенты напружаць усе высілкі, каб выкарыстаць узрастаючае безрабоцьце для новых атак на рабочую клясу, для ўнясеньня дэзарганізацыі і дэмаралізацыі ў шэрагі пралетарыяту, — усе партарганізацыі павінны надаць асаблівую ўвагу **арганізацыі барацьбы безработных у цеснай увязцы з забастовачнай барацьбой рабочае клясы.** Высоўваючы дамаганьні дзяржаўнай дапамогі для безработных і галадуючых масаў гораду і вёскі, конфіскаты хлеба ў абшарнікаў і тавараў у фабрыкантаў і падзела іх сярод безработных і галадуючых, партыя дэмаскуе фашыстоўскую акцыю «помачы безработным», **арганізуе баявыя дэманстрацыі безработных і галадуючых і мабілізуе масы на захват хлеба і рэчаў першай патрэбы ў абшарнікаў, фабрыкантаў і спэкулянтаў з дзяржаўных, магістрацкіх і ваенных складаў.**

Чутка сочучы за разьвіцьцём падзеяў у вёсцы, партарганізацыі павінны арганізоўваць **актыўныя выступленьні пралетарыяту для падтрыманьня барацьбы народных масаў Зах. Беларусі супроць акупацыі.** У адказ на карныя экспэдыцыі і іншыя крывавыя мерапрыемствы фашыстоўскай дыктатуры ў мэтах пацыфікацыі ЗБ і ЗУ, партыя наша заклікае пралетарыят да масавых палітычных стачак і дэманстрацый, заклікае чыгуначнікаў да адмовы перавозіць карныя атрады і амуніцыю, разгортваючы адначасна шырокую агітацыю сярод салдат з заклікам да адмовы ад удзелу ў акцыі пацыфікацыі. Толькі шляхам падняцьця актыўнасьці партыі ў галіне арганізацыі барацьбы рабочае клясы супроць атакаў капіталу, арганізацыі шырокага контрнаступленьня і актыўных выступленьняў на падтрыманьне абвастраючайся барацьбы мас у вёсцы, нацыянальна-вызваленчай барацьбы проціў акупацыі, партыя зможа узмоцніць гегемонію пралетарыяту ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху.

Абвастраючаяся барацьба масаў проціў акупацыйнага рэжыму, бурлівыя выбухі на вёсцы, шырокі антыпадатковы рух таксама невыстарчаюча ахоплены кіраўніцтвам нашае партыі і працякаюць пераважна стыхійна. Да гэтага часу **партыя не дабілася павароту ў кіраўніцтве нацыянальна-вызваленчым рухам** у духу пастановаў III пленуму ЦК КПП і V пленуму ЦК КПЗБ. Прычыны гэтага ляжаць у недаацэнцы сытуацыі, нявер'і ў рэвалюцыйную актыўнасьць мас, права-апартуністычнай баязьні завастрэньня формаў барацьбы і нэгатыўных адносінах да стыхійных формаў барацьбы мас, а такжа ў левацкім сэктанцтве і адарваным прапагандызме, якія выяўляюцца ў недаацэнцы разгортваньня масавых выступленьняў на падставе штодзённых патрэбаў мас і падмене іх альбо адарванай прапагандай нашых канчатковых лёзун-

гаў, альбо адарванымі ад масавай барацьбы актамі тэрору.

Змагаючыся, як проціў правага апартунізму, так і проціў праяваў левацкага сэктанцтва, партыя павінна скіраваць свае высілкі на **разгортваньне масавых актыўных выступленьняў, на ахват стыхійнай барацьбы масаў і скіраваньне яе ў рэчышча магутных арганізаваных масавых выступленьняў, своечасова завастраючы формы барацьбы, адпаведна да настрояў і актыўнасьці масаў і агульных абставінаў ва ўсім краі.** На чале ўсіх акцый на вёсцы трэба паставіць арганізацыю **агульнага неплацяжу ўсялякага роду падаткаў, нядоімак, даўгоў, штрафаў, збораў** як грашыма, так і натурай, агульнай адмовы ад выхаду на шарваркі і арганізацыю **масавага адпору падатковым экзэкуцыям пад лёзунгам «ні граша фашыстоўскаму ўраду — ураду крывавай акупацыі, голаду, безрабоцьця, тэрору і вайны».** Пры арганізацыі антыпадатковай кампаніі партыйныя арганізацыі павінны не абмяжоўвацца гэтым агульным лёзунгам, а ўмела выкарыстоўваць кожны факт узмацненьня падатковага грабяжа, усіленьня экзэкуцыяў, увядзеньня новых падаткаў, бяручы за пункт выхаду тыя з іх, якія асабліва даюць сябе адчуваць таму ці іншаму пласту працоўных гораду і вёскі. У антыпадатковую кампанію трэба ўцягнуць шырокія масы гарадзкое дробнае буржуазіі, арганізуючы адзіны фронт працоўных і эксплёатаваных масаў у барацьбе супроць фашыстоўскага падатковага грабяжу.

Разгортваючы рашучы адпор масаў усім мерапрыемствам фашыстоўскай зямельнай палітыкі (адпор камасацыі, ліквідацыі сэрвітутаў, самачыннае карыстаньне сэрвітутамі, захват дроў і будаўляных матэрыялаў з абшарніцкіх і дзяржаўных лясоў), партыя **падводзіць масы да беспасрэднае барацьбы за зямлю бяз выкупу,** мабілізуе галадуючыя масы на захват хлеба з абшарніцкіх двароў.

У адказ на ўзмагаючыся нацыянальны ўціск партыя павінна **абвастрыць барацьбу проціў акупацыі,** проціў палёнізатарскай палітыкі фашызму, за школу ў роднай мове на кошт дзяржавы, заклікаючы масы ўводзіць родную мову ў школах і ўстановах явачным парадкам, арганізуючы школьныя забастоўкі, адмову ад уплаты школьных штрафаў, выкіданьне зьненавіджаных вучыцялёў-паланізатараў і фашызатараў са школаў, назначэньне вучыцялёў самімі масамі, абарону іх ад тэрору і рэпрэсыяў.

Мабілізуючы масы на барацьбу проціў фашыстоўскай акупацыі пад лёзунгам **«самавызначэньня аж да аддзяленьня», пад лёзунгам «далоў фашыстоўскую акупацыю»**— партыя **арганізуе масавыя баявыя выступленьні проціў акупацыйнае ўлады, абвастраючы формы гэтых выступленьняў,** лічачыся з настроямі і актыўнасьцю мас і канкрэтнымі магчымасьцямі ў кожным паасобным выпадку (байкот паліцэйскіх і канфідэнтаў, дэфэнзыўшчыкаў і зьненавіджаных чыноўнікаў, выкідваньне назначаных войтаў і солтысаў і іншых уеўшыхся ў косьці агентаў акупацыйнае ўлады, масавая адмова ад выкананьня загадаў адміністрацыі і паліцыі, масавыя дэманстрацыі у часе інспэкцыйных паездак ваяводаў і старостаў, нішчэньне эмблемаў акупацыйнай улады, адмова ад удзелу ў фашыстоўскіх дзяржаўных урачыстасьцях і зрыў іх пры помачы контр-дэманстрацыяў і другіх выступленьняў).

**Барацьба проціў фашыстоўскага тэрору набірае ў сучасны момант асаблівае вагі.** Арганізацыя масавых выступленьняў проціў увядзеньня палявых судоў, асаднага палажэньня, сьмертных прысудаў, карных экспэдыцыяў, абвастрэньня вастрожнага рэжыму, пытак і забойстваў палітзьняволеных зьяўляеца актуальнейшай задачай кожнай партыйнай арганізацыі. Партыя заклікае масы да актыўнага адпору паліцыі і фашыстоўскім баявым дружынам, да звальненьня арыштаваных, да разбраеньня паліцыі і фашыстоўскіх баёвак, да адпору карным экспэдыцыям уключна да масавага збройнага адпору, нішчэньня баз і пунктаў апоры карных атрадаў. У сувязі з пастаўленымі вышэй задачамі асаблівае значэньне мае арганізацыйны ахоп стыхійнага імкненьня масаў да ўзбраеньня **і стварэньне дружын масавае самаабароны, як у горадзе, так і на вёсцы.**

Душэньне фашыстоўскім урадам масавых легальных арганізацыяў павінна спаткацца з рашучым адпорам, які павінен прывесьці да ўзрыву рамак фашыстоўскае легальнасьці шляхам арганізацыі явачным парадкам масавых сабраньняў, сходаў, зьездаў, мітынгаў, дэманстрацый; арганізацыі явачным парадкам рознага роду масавых рабочых, сялянскіх, нацыянальна-вызваленчых арганізацый, явачнага існаваньня і разьвіцьця дзейнасьці зачыняемых фашызмам арганізацый, абароны іх ад тэрору і барацьбы за легальнае іх існаваньне.

Перад абліччам набліжаючыхся рашаючых клясавых баёў, перад абліччам навісшае беспасрэдна пагрозы ваеннага нападу на СССР і новых імпэрыялістычных войнаў **задача ўзмацненьня нашага ўплыву ў арміі мае ударны характар.** Толькі недаацэнкай нарастаючага рэвалюцыйнага крызысу і небясьпе-

кі вайны можна вытлумачыць невыстарчаючую актыўнасьць нашых партыйных арганізацыяў у галіне працы сярод салдат і прызыўнікоў, **у галіне мабілізацыі масаў на барацьбу з падрыхтоўкай вайны.** Зьдзейсьненьне задач пастаўленых у гэтай галіне III пленумам ЦК КПП і V пленумам ЦК КПЗБ вымагаюць максымальнае ўвагі з боку партарганізацый да ўсяго таго, што дзеецца ў арміі, выкарыстаньня ўсіх сродкаў да пранікненьня ў казармы і ўзмацненьня ў іх нашых уплываў. Фашыстоўскі ўрад ужо выкарыстоўвае салдат да душэньня рэвалюцыйных выступленьняў. Наша задача арганізаваць адмову салдат ад удзелу у карных экспэдыцыях, у разгоне рабочых і сялянскіх дэманстрацыяў, ад ролі штрэйкбрэхераў у часе забастовак. Трэба прыцягнуць салдат да супольных выступленьняў з рабочымі і сялянамі, да актыўнай абароны рабочых і сялянскіх дэманстрацыяў і мітынгаў. Уся праца сярод салдат, па мабілізацыі шырокіх масаў працоўных павінна адбывацца пад кутом гледжаньня набліжаючайся вайны. Справа акупацыі Японіяй Манджуры павінна знайсьці магутны водгук сярод самых шырокіх масаў.

Трэба улічыць усю **важнасьць працы сярод моладзі і жанчын.** На мільённыя масы моладзі і жанчын падаюць найбольш жорсткія удары зьверскіх мэтадаў эксплёатацыі, прымяняемых капіталам у часе крызысу. Вялізарныя масы моладзі зусім пазбаўлены магчымасьці прылажэньня свае працы. Перад імі зачынены ўсякія пэрспэктывы на палепшаньне свайго палажэньня пры капіталастычным ладзе. Капітал пакідае ім толькі адзін выхад — стаць гарматным мясам для спасеньня гібнучага капіталізму. Перад усёй партыяй, а асабліва перад КСМ стаіць вялізарнай важнасьці задача — згуртаваць пад сьцягамі партыі масы працоўнай моладзі, стварыць з іх найбольш актыўны атрад рэвалюцыі ў барацьбе за зваленьне фашыстоўскае дыктатуры.

Пры разгортваньні паказаных вышэй акцый, якія маюць на мэце падрыхтоўку да ращаючых клясавых баёў, нам неабходна навучыцца сваечасова, у залежнасьці ад канкрэтнае абстаноўкі высоўваць такія канкрэтныя лёзунгі і формы барацьбы, якія адпавядалі-б дадзенай стадыі руху. Кожная партарганізацыя павінна ўлічыць, як агульнае палажэньне ў краі, так і спэцыфічныя асаблівасьці палажэньня ў дадзенай акрузе, горадзе, раёне, правільна ацаніць растаноўку клясавых сілаў, даць цьвярозую ацэнку, як уласных сілаў, так і сілаў нашага клясавага ворага. Усё гэта вымагае асаблівай чуткасьці, гібкасьці, манэўраздольнасьці і палітычнай ініцыятывы. **Змагчы захаваць самую цесную сувязь з масамі ў варунках узможанага тэрору, шпарка і правільна ацаніць палажэньне, настроі і ступень актыўнасьці масаў, улавіць, не выпусьціць адпаведны мамэнт і ў залежнасьці ад канкрэтнае абстаноўкі і агульных мэтаў руху высунуць той ці іншы лёзунг, тую ці іншую форму барацьбы, — вось тое падставовае, што вымагаецца ад нашых арганізацый.** Усякія шаблёны, надуманыя схэмы асабліва шкодны ў сучаснай сытуацыі. Там, дзе ступень актыўнасьці мас асабліва высокая, дзе шырокія масы ўжо ўцягнуты ў актыўную барацьбу, дзе энэргія мас ужо прарываецца ў стыхійных выбухах, задача партарганізацыяў выкарыстаць гэтую баявую энэргію **на арганізацыю беспасрэдных баявых выступленьняў пры адпаведным абвастрэньні формаў барацьбы і пашырэньні яе базы.** Там-жа дзе, дзякуючы нашай пасыўнасьці, падставовая маса яшчэ не прыведзена ў рух, галоўная наша задача **раскачаць масы на падставе іх штодзённых патрэбаў і дамаганьняў.** У гэтых варунках высоўваньне адразу-ж вострых формаў барацьбы не можа пацягнуць шырокія масы, захоплівае толькі вузкі рэвалюцыйны актыў, ствараючы разрыў паміж рэвалюцыйным авангардам і падставовымі масамі.

Ня меншую вагу мае ўмелае лучэньне рознастайных формаў барацьбы. Неабходна ращуча змагацца з працівапастаўленьнем стыхійных формаў барацьбы мас (стыхійныя падпалы, акты тэрору і інш.) арганізаванаму руху. Наша задача імкнуцца ахапіць стыхійны рух нашым уплывам і скіраваць у рэчышча масавай арганізаванай барацьбы. Партыя не ставіць перад сабою як агульную задачу арганізацыю падпалаў і актаў тэрору. Высілкі партыі павінны быць скіраваны на арганізацыю масавых выступленьняў супроць падаткаў, экзэкуцыяў, карных экспэдыцыяў, акупацыйнай улады, на арганізацыю забастовачнай барацьбы, палітычных стачак, дэманстрацый і т. п., але грубейшай памылкай зьяўляецца асуджэньне альбо ігнараваньне стыхійных формаў барацьбы масаў, асуджэньне, якое выцякае з поўнага неразуменьня асаблівасьцяў і спэцыфічных формаў і мэтадаў барацьбы, якія вырастаюць на дадзеным этапе сялянскага і нацыянальна-вызваленчага руху. Гэтага характэру права-апартуністычныя памылкі, якія йдуць у пары з апартуністычным страхам перад завастрэньнем формаў барацьбы, зьяўляюцца на дадзеным этапе асабліва грознымі: яны вядуць да хвасцізму, тармозяць разьвіцьцё актыўнасьці мас і падняцьцё барацьбы на вышэйшую ўсходку, пагражаюць ператварыць нашу пар-

тыю ў пасыўнага наглядача ўсё больш бурна прарываючайся энэргіі мас і разбройваюць нашу партыю перад аблічам надыходзячых рашаючых баёў. Ня менш небясьпечнымі зьяўляюцца і памылкі другога характару, якія йдуць па лініі левацкіх заскокаў і сэктанцтва і якія выражаюцца ў недацэнцы разгортваньня масавых выступленьняў на падставе штодзённых патрэбаў масаў і падмене іх адарванымі ад масавай барацьбы актамі тэрора, у фарсаваньні збройных выступленьняў, ня лічачыся з канкрэтнай сытуацыяй. **Папулярызуючы ў масах лёзунг збройнага паўстаньня, як адзіны шлях да зваленьня фашыстоўскае дыктатуры, рыхтуючы масы і свае шэрагі да арганізацыі збройнага паўстаньня, партыя павінна так кіраваць барацьбою мас, каб, не тармозячы рэвалюцыйнай энэргіі, а ўсякімі мерамі разьвязваючы яе, находзіць для яе прымяненьне ў масавых актыўных выступленьнях, падымаючы барацьбу на вышэйшую ўсходку, адначасна не дапускаючы да яе распыленьня, да перадчасных збройных успышак і партызанцкіх выступленьняў.** Але гэта не выключае, а наадварот, дыктуе ўжо цяпер патрэбу арганізацыі масавага баявога адпору.

Пасьпяховае выкананьне задач, якія стаяць перад нашай партыяй, вымагае ад усіх зьвеньняў нашае партыі цьвёрдага прысваеньня партыйнай лініі, дакладнае і глыбокае распрацоўкі пастановаў III пленуму ЦК КПП і V пленуму ЦК КПЗБ і **рашучае барацьбы, як проціў левацкага сэктанцтва — падставовай запоры для ўцягваньня шырокіх масаў у барацьбу, так асабліва-ж проціў правага апартунізму, які разбройвае партыю ў рашучы момант падрыхтоўкі да ўзбройнага паўстаньня.**

**П. Корчык.**

---

**„ПЕРАД АБЛІЧАМ НАСЬПЯВАЮЧЫХ БУЙНЫХ КЛЯСАВЫХ БАЁЎ У ПОЛЬШЧЫ, МАБІЛІЗАЦЫЯ І РАЗГОРТВАНЬНЕ МАГУТНЫХ РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ СІЛ НА БЕЛАРУСКІХ І ЎКРАІНСКІХ ЗЕМЛЯХ МОЖА МЕЦЬ РАШАЮЧАЕ ЗНАЧЭНЬНЕ Ў РАЗЬВІЦЦІ РЭВАЛЮЦЫІ. ТАКСАМА Ў ВЫПАДКУ ВАЙНЫ З СССР НА РЭВАЛЮЦЫЙНЫ І НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧЫ РУХ ЗАХ. БЕЛАРУСІ ВЫПАДЗЕ ВЫКЛЮЧНА ВАЖНАЯ РОЛЯ. У ПРОЦІЛЕГЛАСЬЦЬ СЫТУАЦЫІ Ў МІНУЛЫХ ГАДОХ, КАЛІ НАПРУЖАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧАГА РУХУ НА ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ НЕ ЗНАХОДЗІЛА ДАСТАТКОВАЙ АПОРЫ Ў ПРАЛЕТАРСКІМ РУХУ РАШАЮЧЫХ ПРАМЫСЛОВЫХ АКРУГ ПОЛЬШЧЫ, СЁНЬНЯ ГЭТЫЯ ПРАЛЕТАРСКІЯ АСЯРОДКІ ІДУЦЬ НА ЧАЛЕ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ. НЕЛЬГА ДАПУСЬЦІЦЬ, КАБ ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ АКАЗАЛАСЯ Ў НАДЫХОДЗЯЧЫХ БАЁХ СЛАБЫМ АДРЭЗКАМ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ФРОНТУ".**

(З рэзалюцыі ЦК КПП аб дзейнасьці КПЗБ).

# З дакладу тов. В. М. Молатава

## НА ЎРАЧЫСТЫМ ПАСЕДЖАНЬНІ МАСКОЎСКАГА САВЕТУ, ПРЫСЬВЕЧАНЫМ XIV ГАДАВІНЕ КАСТРЫЧНІКАВАЙ РЭВАЛЮЦЫІ.

### ДА ПЫТАНЬНЯ АБ СУАДНОСІНАХ СІЛ САЦЫЯЛІЗМУ І КАПІТАЛІЗМУ.

Таварышы! Чатырнаццатая гадавіна Кастрычнікавай рэвалюцыі—важнейшая дата ў гісторыі барацьбы пралетарыяту за сваё вызваленьне.

За гэтыя гады намі пройдзены труднейшы шлях барацьбы з варожымі клясавымі сіламі. Ня толькі ўнутры краіны клясавы вораг аказваў шалёнае супраціўленьне будаўніцтву сацыялізму. Гэтае будаўніцтва было зьвязана з асаблівымі цяжкасьцямі ў сілу таго, што СССР—першая ў сьвеце рабочая дзяржава—як-бы сьціснуты няпрымірыма варожым яму замежным капіталістычным абкружэньнем.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя цяжкасьці, сацыялізм за гэтыя гады вялізарна пасунуўся наперад, шмат у чым умацаваўшы свае пазыцыі. І таму, напярэдадні пятнаццатага году Кастрычнікавай рэвалюцыі, мы маем права сьцьвярджаць, што існуюць дзьве асноўныя грамадзкія сілы—сацыялізм і капіталізм, барацьбой якіх вызначаецца асноўная лінія сусьветнага разьвіцьця.

Значыцца, лінія разьвіцьця сацыялізму і капіталізму ідуць у прама процілеглым напрамку. Сацыялізм ідзе пераможна ўгару, на ўздым. Капіталізм усё больш заблытваецца ў сваіх супярэчнасьцях і пад цяжарам сусьветнага крызысу траціць адну пазыцыю за другой.

Эканамічны крызыс з кожным днём усё больш зьядае тыя параўнальна нязначныя посьпехі, якія былі дасягнуты капіталістычнымі краінамі за гэты пэрыяд. Цяпер мы ўжо маем такое становішча, калі агульны зровень прамысловае вытворчасьці краін капіталізму ўсяго на некалькі процантаў вышэй даваеннага ўзроўню. Болей таго. У такой перадавой капіталістычнай краіне, як Нямеччына, мы маем нават значна горшае становішча. Тут зровень прамысловае вытворчасьці ў данны момант скаціўся да таго становішча, якое нямецкая прамысловасьць мела прыкладна трыццаць год таму назад.

Зусім іншае становішча ў нашай краіне, краіне будуючагася сацыялізму.

У СССР параўнаньне сучаснага прамысловага вытворства з даваенным зроўнем дае зусім іншы малюнак. Тут ужо цяпер мы маем такі зровень прамысловае вытворчасьці, які больш чым у два з паловай разы перавышае зровень прамысловае вытворчасьці даваеннага часу. І да таго-ж на вачох усіх разгортваецца такое будаўніцтва ў галіне індустрыялізацыі, якое забясьпечвае з кожным годам усё большы далейшы ўзрост прамысловай прадукцыі.

У краёх капіталізму беспрацоўе дасягнула нячуваных размераў. Там арміі беспрацоўных дасягаюць ужо дзесяткаў мільёнаў. Беспрацоўе ня толькі не зьмяншаецца, але ахоплівае ўсе новыя мільёны рабочых. Сотні тысяч і мільёны беспрацоўных даведзены да прамога галаданьня і да стану напалову жабракоў.

У СССР няма беспрацоўя. У краіне сацыялізму будуюцца новыя фабрыкі і заводы, адчыняюцца новыя прадпрыемствы - волаты. Кадры занятых у прамысловасьці рабочых няўхільна растуць і прытым з кожным годам усё больш шпарка. У прамысловых раёнах у нас вялікая няхватка рабочых.

Ні ў воднай капіталістычнай краіне цяпер няма і мовы аб павялічэньні зарабкавой платы рабочым і служачым. Наадварот, кожны новы дзень прыносіць новае паніжэньне заработнай платы для тэй ці іншай праслойкі рабочае клясы. Побач са шпаркім узростам ліку беспрацоўных адбываецца грабежніцкае паніжэньне заработнай платы рабочых, што праводзіцца праз капіталістаў пры падтрыманьні дзяржаўнай улады і пры актыўнай дапамозе сацыял-дэмакратыі.

Толькі ў СССР няўхільна праводзіцца палітыка палепшаньня матар'яльных варункаў жыцьця рабочае клясы. Заработная плата рабочых павышаецца тут з кожным годам. Як вядома, апрача праведзенага ў гэтым годзе значнага павышэньня заработнай платы пра-

цаўнікоў чыгуначнага і воднага транспарту, толькі нядаўна было праведзена новае павышэньне заработнай платы для рабочых вугальнай прамысловасьці і мэталюргіі, а таксама значнае павышэньне заработнай платы для ўсёй масы настаўніцтва.

Карэнная розьніца ў становішчы працоўных вёскі ў капіталістычных дзяржавах і ў краіне Саветаў таксама зусім вачавідна.

У краёх капіталізму мільёны сялян перажываюць цяпер выключна цяжкі час. Руйнаваньне сялян пад цяжарам эканамічнага крызысу, а таксама павялічыўшагася падатковага ярма—адбываецца цяпер з асаблівай шпаркасьцю.

Няма чаго ўжо гаварыць аб тым, што становішча працоўных мас у калёніях і палукалёніях надзвычайна цяжкое. Тут абядненьне вёскі даходзіць да апошняга краю. Пануючыя капіталістычныя краіны імкнуцца да таго, каб перакласьці галоўны цяжар эканамічнага крызысу на прыгнечаныя праз іх калёніі і падлеглыя ад іх краіны. Ад гэтага ўціск імпэрыялізму і нэндза ў рабочых і сялянскіх масах тут дасягаюць крайніх граніц.

У Савецкім Саюзе адбываецца ўздым сельскае гаспадаркі, перадусім дзякуючы шпаркім посьпехам калектывізацыі. Стварэньне буйнае калектыўнае гаспадаркі, якая абапіраецца на перадавую тэхніку—трактары, камбайны і т. п., значна аблягчае працу селяніна, уздымае вытворчасьць яго працы, вядзе да агульнага палепшаньня яго жыцьця. Узрастаючы ўздым сельскае гаспадаркі і няўхільнае палепшаньне матар'яльна-культурных варункаў жыцьця сялянскіх мас зьяўляюцца адным з паважнейшых посьпехаў Кастрычнікавай рэвалюцыі за мінулыя гады.

Вось факты, што датычаць разьвіцьця вытворчых сіл і становішча працоўных мас у краёх капіталу, з аднаго боку, і у краіне Саветаў — з другога.

Факты грамадзкага разьвіцьця ўсё больш рашуча гавораць супроць капіталізму ў цэлым. І разам з тым гэтыя факты ня менш рашуча гавораць у карысьць нашае справы, у карысьць набліжэньня канчатковай перамогі сацыялізму над усёй капіталістычнай сыстэмай.

Гэткая асноўная тэндэнцыя разьвіцьця ў суадносінах сусьветных сіл—сацыялізму і капіталізму.

Капіталізм дажывае свой век. На зьмену яму ідзе лад сацыялізму. Факты сусьветнага разьвіцьця сьведчаць аб тым, што прадпасылкі для зваленьня капіталізму ва ўсім сьвеце шпарка насьпяваюць. Гэтыя факты усё больш красамоўна кажуць аб тым, што Кастрычнікавая рэвалюцыя была ня толькі вялікай рэвалюцыяй рабочае клясы нашай краіны, але што Кастрычнікавая рэвалюцыя зьяўляецца пераможным пачаткам міжнароднай сацыялістычнай рэвалюцыі. Вялічэзнае гістарычнае значэньне Кастрычнікавай рэвалюцыі заключаецца ў тым, што яна адкрыла новую эпоху ў разьвіцьці ўсяго чалавецтва. Пройдзены ёю шлях і кожны новы дзень у цяперашнім разьвіцьці асноўных сусьветных грамадзкіх сіл з бясспрэчнай яскравасьцю сьцьвярджаюць, што мы жывём у эпоху шпарка нарастаючай міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі, у эпоху набліжаючагася краху ўсей капіталістычнай сыстэмы, у эпоху набліжаючайся поўнай перамогі сацыялізму.

Цяжкасьці барацьбы пралетарыяту ў капіталістычных краёх ад таго такія вялікія, што вырашэньне ўнутраных пытаньняў барацьбы рабочых з капіталістамі ўсё больш неразрыўна сплятаецца з вырашэньнем міжнародных задач барацьбы пралетарыяту з буржуазіяй. Інтарэсы капіталістычных дзяржаў настолькі перапляліся і настолькі гэтае перапляценьне ўзмацняецца з кожным годам, што вырашэньне задач барацьбы за сацыялізм у аднэй краіне ўсё больш сплятаецца з вырашэньньем міжнародных праблем барацьбы паміж працай і капіталам, паміж пралетарыятам і імпэрыялізмам.

Гэта значыць, з аднаго боку, узрастаньне цяжкасьцяў дзеля перамогі пралетарыяту ў паасобнай капіталістычнай краіне. Але гэта разам з тым значыць, што новы сапраўдны посьпех барацьбы рабочае клясы ў той ці іншай капіталістычнай краіне будзе з асаблівай сілай штурхаць наперад усю справу міжнароднай перамогі сацыялізму. Такім чынам, посьпехі барацьбы рабочых у паасобнай краіне цяпер усё больш сплятаюцца са справай барацьбы ўсяго міжнароднага пралетарыяту за вызваленьне ад імпэрыялізму.

Гісторыя Кастрычнікавай рэвалюцыі паказвае, як гэта можа адбывацца на практыцы.

Добра вядома, што пралетарыяту нашай краіны давялося за гэтыя гады весьці барацьбу ня толькі супроць сталых спробаў арганізацыі эканамічнай блёкады, але і супроць непасрэднай ваеннай інтэрвэнцыі з боку імпэрыялістычных дзяржаваў. Толькі дзякуючы таму, што працоўныя нашай краіны, пры падтрыманьні рабочых у капіталістычных краёх, знайшлі ў сябе дастаткова сіл для таго, каб разграміць клясавага ворага ўнутры краю і адбіць, разам з тым, напад замежных імпэрыялістычных сіл, — толькі дзякуючы гэтаму Кастрычнікавая рэвалюцыя пераможна сьвяткуе сваё чатырнаццацігодзьдзе.

Але ясна, што досьлед нашай барацьбы павінен быць прадуманы змагарамі за сацыялізм ва ўсіх краёх.

Зьвяртаюся да асноўнага пытаньня, пытаньня аб тым, што кажуць нам вынікі чатырнаццацігодзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі аб асноўнай лініі разьвіцьця ў суадносінах сіл— сацыялізму і капіталізму. Гэтае разьвіцьцё гаворыць за нас, за справу сацыялізму, і **супроць** нашых ворагаў, **супроць** капіталізму. А гэта значыць, што асноўная лінія сусьветнага разьвіцьця ідзе ў напрамку **перамогі** міжнароднай справы **сацыялізму над імпэрыялізмам.** Напярэдадні пятнаццатага году Кастрычнікавай рэвалюцыі мы можам з гордасьцю сказаць, што перамога сусьветнага бальшавізму набліжаецца з аграмаднай шпаркасьцю, што яна набліжаецца нарастаючымі тэмпамі.

## КАСТРЫЧНІКАВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ І ЗАДАЧЫ БЯГУЧАГА МОМАНТУ.

Кастрычнікавая рэвалюцыя мае сваю гісторыю.

Гэтая гісторыя — гісторыя вялічэзных перамог. Галоўныя з гэтых перамог ляжаць па лініі канчатковага заваяваньня сялянскіх масаў на бок пралетарыяту.

Ленін паказваў на тое, што менавіта ў гэтым павінна заключацца наша галоўная задача да перамогі сацыялізму ў аднэй альбо некалькіх перадавых капіталістычных краёх. З гэтага пункту гледжаньня асабліва паважны два рашаючых этапы ў разьвіцьці Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Першы з іх адносіцца да восені 1918 году, калі сацыялістычная рэвалюцыя па-сапраўдняму шагнула з гораду ў вёску. І другі — да 1929 году, калі адбыўся, урэшце, канчатковы паварот да сацыялізму ў асноўнай сялянскай масе, у сераднякоў.

Гэтыя два этапы маюць рашаючае значэньне для справы сацыялізму ў нашай краіне. Гэтыя дзьве даты — 1918 і 1929 гады — вехі перамог сацыялізму на самым адсталым і трудным гаспадарчым фронце, на фронце сацыялістычнагаператварэньня сельскае гаспадаркі.

Значэньне слаўных перамог пралетарыяту ў Кастрычнікавую рэвалюцыю характарызуецца больш усяго тым, што мы ўжо маем абсалютную перамогу сацыялістычных форм гаспадаркі ня толькі ў горадзе, але і ў вёсцы. Ня толькі ў прамысловасьці капіталістычныя элементы пабіты. Але і ў сельскай гаспадарцы, г. ё. у найбольш адсталай галіне народнай гаспадаркі, посьпехі суцэльнай калектывізацыі і будаўніцтва саўгасаў забясьпечылі пануючае палажэньне сацыялістычных форм над капіталістычнымі, ды й над дробна-уласьніцкай сялянскай гаспадаркай.

Такім чынам у барацьбе сацыялістычных і капіталістычных элементаў у нашай краіне сацыялізм здабыў перамогу. На ленінскае пытаньне — «хто каго?», — ці пераможа сацыялізм капіталістычныя элементы, альбо, наадварот, капіталістычныя элементы зломяць рост сацыялізму, мы маем ужо вычарпальны адказ. Рабочая кляса, абапіраючыся на пераважную масу сялянства, аб'яднанага ў калгасы, атрымала перамогу над капіталістычнымі элементамі. Тым самым справа сацыялізму ў нашай краіне поўнасьцю і канчаткова забясьпечана.

Гэткія ёсьць цяперацшія прадпасылкі нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

Істота-ж нашых бягучых задач вынікае з прынятага савецкай уладай пяцігадовага пляну.

Увага ўсяе рабочае клясы і працоўных нашай краіны згуртавана на пяцігодцы, на яе зьдзейсьненьні. Наколькі мы пасунуліся наперад у гэтай справе і што патрабуецца дзеля далейшых посьпехаў у **ажыцьцяўленьні** пяцігодкі — вось пытаньні, якімі перадусім жыве цяпер рэспубліка рабочых і сялян. Мы з вялічэзнай увагай адносімся пры гэтым ня толькі да таго, што гавораць унутры і за межамі краіны Саветаў нашы прыяцелі і прыхільнікі, але і да таго, што гавораць аб гэтым нашы ідэёвыя супрацоўнікі і клясавыя ворагі.

Цяпер ня шкода успомніць наконт аднэй з шматлікіх заяваў, зробленых пасьля апублікаваньня прынятага партыяй пяцігадовага пляну. Я маю на ўвазе вядомую заяву П. Шэфэра — выдатнага буржуазнага журналіста з газэты «Берлінэр тагеблат», які быў выгнаны ў свой час з СССР, за напоў-шпіёнскую антысавецкую работу. У той час П. Шэфер досыць яскрава выявіў настрой вядомай часткі буржуазных колаў загранiцай, выказаўшы наступную думку: «Калі, — казаў ён у сярэдзіне 1929 г., — пяцігодка ўдасца нават толькі на тры чверці, дык ня прыдзецца сумнявацца ў канчатковай перамозе сацыялістычнага мэтаду ў Эўропе».

Мы павінны цяпер напомніць аб гэтых словах нашага палітычнага ворага. Тым больш, што сказанае тады лёгка праверыць цяпер фактамі.

І вось да чаго прыводзіць гэтая праверка.

Яшчэ, зразумела, рана гаварыць аб канчатковых выніках бягучага гаспадарчага году. Пакуль што можна рабіць толькі папярэднія вывады. Але гэтыя апошнія ўжо даюць уяўленьне аб асноўных выніках 1931 году.

За апошнія месяцы мы маем значнае палепшаньне ў нашй прмысловасьці. Калі ў першыя месяцы бягучага году шэраг галінаў прамысловасьці знаходзўся ў цяжкім становішчы, асабліва ў выніку значных недахопаў у працы чыгуначнага транспарту, дык у апошні час маецца палепшаньне па ўсёй лініі індустрыі.

Ужо цяпер можна з поўнай упэўненасьцю сьцьвердзіць, што ў бягучым годзе мы настолькі далёка пасунуліся наперад у разьвіцьці індустрыі, што ў наступным, у 1932, годзе мы зможам поўнасьцю закончыць выкананьне пяцігадовага пляну.

Мы не сумняваемся, што 1932 год будзе годам заканчэньня пяцігодкі, г. ё. скончэньня пяцігодкі ў чатыры гады.

З ажыцьцяўленьнем пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы мы ў некаторых адносінах маем яшчэ большыя посьпехі.

Пяцігодка вызначала да канца 1933 году калектывізацыю 20 проц. сялянскіх гаспадарак. Паміж тым ужо цяпер, да канца трэцяга году пяцігодкі, калектывізавана — галоўным чынам у сельска-гаспадарчых арцелях—звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак. У разгортваньні савгаснага будаўніцтва мы таксама перавысілі заданьні пяцігодкі. Перабудова сельскае гаспадаркі на сацыялістычных падставах зрабіла зусім выключныя посьпехі за апошнія 2-3 гады. Усё гэта дае нам повад сцьвярджаць, што на працягу будучага году калектывізацыя сялянскіх гаспадарак ў Савецкім Саюзе ў асноўным будзе скончана.

Гэтакія вынікі будаўніцтва сацыялізму на рашаючых вучастках гаспадаркі.

Асобнае месца у нашай гаспадарчай працы займаюць пытаньні **снабжэньня,** пытаньні арганізацыі савецкага гандлю.

Недахопы ў справе снабжэньня выяўляюцца цяпер на кожным кроку. Складанасьць арганізацыі гэтай працы і няхватка адпаведных кадраў у партыі, пры вялікай засмечанасьці чуждымі буржуазнымі элемэнтамі ўсяго гандлёвага і асабліва каапэратыўнага апарату, робяць галіну снабжэньня найбольш слабым вучасткам нашай працы. Тым з большай рашучасьцю партыя ўказвае цяпер на неабходнасьць хутчэйшага палепшаньня справы снабжэньня і неабходнасьць узмоцненай барацьбы з элемэнтамі бюракратызму, а часам і шкодніцтва, у дзяржаўна каапэратыўным гандлёвым апараце.

Партыя паставіла цяпер пытаньні снабжэньня ў аддзел найбольш актуальных сваіх задач. Бальшавікі, ідучы на чале рабочых і працоўных вёскі, павінны дабіцца ўжо ў бліжэйшы час рашучага зрушша ў справе арганізацыі савецкага гандлю.

Матар'яльныя магчымасьці дзеля хуткага палепшаньня снабжэньня ў нас маюцца. Гэтыя магчымасьці ў нас узрастаюць з кожным днём.

У нашай краіне ня толькі шпарка разгортваецца цяжкая індустрыя, але і прамысловасьць, вытварае артыкулы масавага спажываньня. Асабліва значныя посьпехі ў разьвіцьці лёгкай прамысловасьці мы маем за апошні час. Пры гэтым ужо значна павялічана сама база гэтай прамысловасьці, што забясьпечвае нам далейшы шпаркі рост яе прадукцыі і палепшаньне снабжэньня прамысловымі таварамі.

Узрост сацыялістычных элемэнтаў у вёсцы стварыў шмат больш спрыяючыя ўмовы для снабжэньня рабочых сельска - гаспадарчымі прадуктамі.

Настойлівая праца над палепшаньнем дзяржаўна-каапэратыўнага гандлёвага апарату, жорсткая барацьба з бюракратызмам і наогул з буржуазнымі тэндэнцыямі ў ім, прыцягненьне да самага актыўнага ўдзелу ва ўсёй гэтай справе шырокіх пластоў рабочых і калгасьнікаў у вёсцы, — усё можа і павінна даць значнае палепшаньне ў снабжэньні ўжо ў бліжэйшы час.

Разам з тым нельга не ўказаць на труднейшыя вучасткі гаспадарчага будаўніцтва ў рашаючых для народнае гаспадаркі галінах. Гэтыя вучасткі — **вугаль, мэталь і транспарт.**

Што гэта рашаючыя вучасткі сацыялістычнае гаспадаркі, аб гэтым сьведчыць уся гісторыя Кастрычнікавай рэвалюцыі. Вакол барацьбы за вугаль, за мэталь, за транспарт мы і цяпер павінны згуртаваць максімум нашых сіл. З тэй пары, як Кастрычнікавая рэвалюцыя ў асноўным вырашыла збожжавую праблему, г. ё. пытаньне аб хлебе, мы з яшчэ большай энэргіяй павінны змагацца за рашучую перамогу на фронце вугалю, мэталю і транспарту.

Партыя паказала, як трэба падыйсьці да вырашэньня гэтых задач. Нашы задачы ў гэтай галіне, як і ў цэлым нашы задачы ў новых варунках працы прамысловасьці, дадзены ў тых дырэктывах нашай партыі і яе Цэнтральнага камітэту, якія шырока вядомы, як «шэсьць указаньняў тав. Сталіна».

У гэтых указаньнях дадзены важнейшыя практычныя дырэктывы для нашай гаспадарчай працы.

У іх паказана, у чым заключаюцца нашы абавязкі па ажыцьцяўленьню гэтак патрэбнай цяпер арганізаванай вярбоўкі новых рабочых кадраў для прамысловасьці, як трэба

забясьпечыць у палітыцы аплаты працы рабочых ліквідацыю дробнабуржуазнай ураўнілаўкі — гэтай шкоднейшай праявы чуждых рабочай клясе ўплываў у нашай гаспадарчай практыцы, і як трэба змагацца з недапушчальнай у вытворчасьці абязлічкай у адносінах да машын і мэханізмаў. Разам з тым у гэтых указаньнях партыяй растлумачаны нашы цяперашнія задачы як у адносінах да старых буржуазных і напоўбуржуазных тэхнічных кадраў, гэтак і ў адносінах да падрыхтоўкі новых кадраў і, асабліва, новых тэхнічных кадраў з людзей рабочае клясы. Урэшце, у гэтых указаньнях рашуча падкрэсьлена неабходнасьць бальшавіцкай барацьбы за павялічэньне накапленьняў у сацыялістычнай гаспадарцы і за правядзеньне ўстаноўленай партыяй і савецкай уладай палітыкі гаспадарчага разьліку.

У справе ўзмацненьня сацыялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы ў нас яшчэ непачаты край працы.

Партыя паставіла ў цэнтры ўвагі задачу арганізацыйна - гаспадарчага ўзмацаваньня калгасаў. Зьдзейсьненьне гэтай задачы напатыкаецца на супраціўленьне кулацтва, формы барацьбы якога з калгасамі шмат у чым зьмяніліся, але самая барацьба далёка ня спынілася. Калі нават у саўгасным будаўніцтве нам прыходзіцца весьці барацьбу з праявамі буржуазных тэндэнцый, са спробамі ігнараваць (абыходзіць) істотныя патрабаваньні і важнейшыя інтарэсы дзяржавы, дык у калгасах уплыў дробнабуржуазных тэндэнцый яшчэ больш моцны і таму кулак знаходзіць ня мала шляхоў дзеля правядзеньня свайго уплыву на тую ці іншую частку калгасьнікаў. Бальшавіцкае выхаваньне калгасных мас павінна знайсьці свой выраз ва ўсямерным арганізацыйна-гаспадарчым узмацаваньні калгасаў і ва ўзросьце сьвядомага адносіньня калгасніка да выкананьня абавязкаў перад сацыялістычнай дзяржавай.

Барацьба за перамогу сацыялізму ў нашай краіне зьяўляецца ня толькі справай рабочых самага Савецкага Саюзу, — яна зьяўляецца кроўнай справай усяго міжнароднага пралетарыяту.

Гэтая барацьба зьвязана разам з тым з забесьпячэньнем мірных варункаў нашага разьвіцьця, і, значыцца, яна неразрыўна зьвязана з барацьбой за мір. Няма патрэбы даводзіць, што барацьба за мір, якую пасьлядоўна праводзіць СССР, таксама зьяўляецца выяўленьнем інтарэсаў усяго міжнароднага пралетарыяту, выяўленьнем інтарэсаў працоўных усіх краёў.

## «САКРЭТЫ» ПЕРАМОГ БАЛЬШАВІЗМУ.

Законна паставіць пытаньне: на чым абгрунтованы посьпехі бальшавізму?

Па-свайму адказаў на гэтае пытаньне Бэрнард Шоў у нядаўнім артыкуле. Па яго словах — «камуністычныя правадыры также добра разумеюць камунізм, як і капіталізм. Капіталістычныя дэмагогі не разумеюць ні капіталізму, ні камунізму».

У гэтых словах Б. Шоў ёсьць нясумненны сэнс.

Навука марксызма-ленінізма была заўсёды галоўнай навукай для бальшавікоў. Ленінізм-марксызм нашай эпохі грунтоўна вучыў нас таму, што такое ёсьць капіталізм і як яго трэба нізрынуць. Ленінізм вучыў нас таксама таму, што такое ёсьць сацыялізм і як яго трэба будаваць. Нашы посьпехі ва ўсьведамленьні ленінскага вучэньня не прайшлі дарма. Нашы перамогі, перамогі Кастрычнікавай рэвлюцыі, сталі магчымымі толькі таму, што мы былі і застаемся **праваднікамі ленінізму.**

Але быць праваднікам ленінізму азначае весьці няпрымірымую **барацьбу з апартунізмам.** Быць праваднікам ленінізму значыць весьці барацьбу за ленінізм супроць усіх і ўсялякіх рознастайнасьцяў апартунізму. Без няпрымірымай барацьбы з апартунізмам, які зьяўляецца ня чым іншым, як праявай буржуазных уплываў на тыя ці іншыя праслойкі рабочых, у нас не магло-б быць перамог, здабытых Кастрычнікавай рэвалюцыяй.

Наша барацьба за ленінізм была накіравана супроць двух асноўных апартуністычных скрыўленьняў. У барацьбе з трацкісцкай «лявізнай» буржуазна-мяшчанскага тыпу, з аднаго боку, і з буржуазна-кулацкай ідэалёгіяй правага ўхілу — з другога, выкоўваліся шэрагі нашай бальшавіцкай партыі, якая стаяла і стаіць на чале пераможнай Кастрычнікавай рэвалюцыі.

З пункту гледжаньня нашых **унутраных** задач, барацьба з правымі і з трацкістамі мае і цяпер актуальнейшае значэньне.

Вядома, што мы атрымалі рашаючую перамогу над правай апазыцыяй толькі пасьля таго, як нашае наступленьне на кулака і арганізацыя для барацьбы з кулацтвам беднякасераднякі мас закончылася з посьпехам. Правыя капітулявалі пасьля таго, калі серадняцкая маса вёскі павярнула на шлях суцэльнай калектывізацыі і калі бедняцка-серадняцкія масы пад кіраўніцтвам нашай партыі перайшлі на практыцы да ажыцьцяўленьня палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы.

Але няма чаго даводзіць, што ўчарашнія аднаасобнікі-сяляне не зьўляюцца ў масе

сваёй ужо сёньня сацыялістамі, што яны далёка яшчэ ня вызваліліся ад многіх дробнабуржуазных забабонаў і дробнаўласьніцкіх звычаяў. А гэта пакідае ня малы грунт дзеля барацьбы кулака за ўплыў на масы. Таму барацьба са спробамі кулака чапляцца за свой уплыў на некаторыя праслойкі працоўных вёскі мае цяпер важнейшае значэньне. Без такой барацьбы ня можа адбывацца арганізацыйна-гаспадарчае ўзмацаваньне калгасаў, ня можа адбывацца такі неабходны для нас уздым вытворчасьці працы ня толькі ў калгасах, але і ў савгасах, і, значыцца, ня могуць перамагчы сацыялістычныя формы гаспадаркі

Права-апартуністычная плынь у партыі разьбіта і ня існуе, як асобная, самастойная сіла. Але права-апартуністычныя элемэнты ў практыцы нашых арганізацый далёка ня зжыты і даюць сябе адчуваць у найбольш яскравай форме — у відзе патураньня кулацтву, а таксама ў відзе безпараднасьці некаторых працаўнікоў у справе барацьбы з буржуазнымі тэндэнцыямі ў калгасах і савгасах. Права-апартуністычныя тэндэнцыі даюць сябе адчуваць яшчэ нярэдка і прытым усюды, дзе адбываецца барацьба за бальшавіцкія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва і дзе ўплыў чужых клясавых элемэнтаў у нашым апараце выяўляецца на тых ці іншых праслойках бальшавіцкай партыі і выражаецца ў пэўных формах апартуністычн. супраціўленьня ажыцьцяўленьню правадзімых партыяй тэмпаў.

Але і барацьба з трацкізмам не страціла свайго вялікага значэньня.

Праўда, трацкізм у яго адкрытым выяўленьні ўжо поўнасьцю выradзіўся ў контр-рэвалюцыйную палітычную групоўку. За «левымі» фразамі трацкістаў цяпер ужо сярэдні рабочы выкрые меншавіцкае, антысавецкае нутро.

Але з адрыганьнямі трацкізму да гэтай пары прыходзіцца сустракацца. Без пастаяннай барацьбы з апартуністычнымі скрыўленьнямі трацкісцкага тыпу мы і цяпер ня можам абыйсьціся.

Стрыжанем трацкізму было нэгаваньне магчымасьці перамогі сацыялізму ў нашай краіне. Але гэтае няверра ў справу сацыялізму зьяўляецца нарэшце самай характэрнай рысай ўсякага апартунізму, усякай дробнабуржуазнай плыні. Трацкізм — толькі найбольш яскравая форма гэтага буржуазнага няверра ў перамогу Кастрычнікавай рэвалюцыі і сацыялізму.

З гэтым няверрам была неразрыўна зьвязана паніка перад цяжкасьцямі клясавай барацьбы і ў прыватнасьці паніка перад наступленьнем кулацтва. Гэтай паніцы перад клясавым ворагам пралетарыяту адпавядала і тактыка трацкістаў.

Гэтая тактыка вынікала з таго трацкісцкага палажэньня, што серадняк ня можа быць трывалым саюзьнікам рабочае клясы ў барацьбе за сацыялізм. І таму трацкісцкая тактыка азначала на справе сьціраньне прынцыповай розьніцы паміж нашым адносінам да кулака і да серадняка і на практыцы вяла да распусюджываньня на серадняка тэй-жа тактыкі, якую мы стасавалі ў барацьбе з кулацтвам. Зразумела, што гэтая палітычная лінія ня мае нічога агульнага з ленінізмам і наскрозь яму варожа.

Але і ў новых варунках, у варунках пераходу да суцэльнай калектывізацыі, мы ўжо мелі справу з памылкамі трацкісцкага тыпу ў вёсцы. Досыць спаслацца на перагібы мінулага году.

З другога боку, і ў далейшым нельга ня лічыцца з магчымасьцямі апартуністычных скрыўленьняў трацкісцкага тыпу.

У нас калектывізавана звыш 60% сялянскіх гаспадарак. Але гэта, з другога боку, значыць, што засталося яшчэ каля 40% аднаасобных гаспадарак. Пытаньне аб адносінах да застаўшыхся аднаасобнікаў мае вялікае палітычнае значэньне.

Ня гледзячы на тое, што толькі меншая частка сялян знаходзіцца цяпер па-за калгасамі, пытаньне аб заваяваньні на наш бок застаўшайся масы адзінаасобнікаў не зьнята з парадку дня. Мэтады загадаваньня і прымусу ў адносінах да працоўных сялян і цяпер настолькі-ж нецярпімы, як яны былі нецярпімы і раней. Наша задача — весьці барацьбу за заваяваньне на бок калектывізацыі ўсёй масы працоўных сялян. Але гэтую справу мы можам па бальшавіцку выканаць толькі ў тым выпадку, калі будзем весьці настойлівую і цярплівую растлумачальную працу ў масах адзінаасобнікаў і асабліва калі сапраўды сумеем усё лепей даказваць перавагу працы ў калгасе. Толькі посьпехамі ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўзмацненьня калгасаў, і, значыцца, у справе сапраўднага павышэньня вытворчасьці працы калгасьнікаў, мы забясьпечым поўную і канчатковую перамогу калектывізацыі

Дзеля таго, каб забясьпечыць правядзеньне менавіта гэтых мэтадаў працы ў масах, патрэбна далейшая барацьба з трацкісцкімі скажэньнямі, адкуль-бы ня ішлі і ў якія-б формы ні апраналіся гэтыя апартуністычныя скажэньні.

Урэшце два словы аб значэньні нашай барацьбы з апартунізмам з пункту погляду нашых міжнародных задач.

Як паказала ўся чатырнаццацігодняя гісторыя Кастрычнікавай рэвалюцыі, бальшавікі былі цалкам правы ў барацьбе з трацкізмам, які не прызнаваў магчымасьць перамогі сацыялізму ў нашай краіне. Цяпер даказана жывымі фактамі, што перамога сацыялізму ў нашай краіне ня толькі зьдзейсьнена, але і поўнасьцю забясьпечана.

Выключна міжнароднае значэньне сучаснай гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі заключаецца ў тым, што ленінскае тэорэтычнае палажэньне аб магчымасьці перамогі сацыялізму ў аднэй краіне ператварылася ў жывую рэчавістасьць, выклікаючы скрогат зубоў ў шэрагах нашых ворагаў, укараняючы бадзёрую ўпэўненасьць у канчатковую перамогу сацыялізму ў рабочай клясе ўсяго сьвету.

Выходзіць, ленінізм перамагае. На падставе ленінізму адбываецца згуртаваньне шэрагаў рабочае клясы, а вакол яе — і ўсей масы працоўных гораду і вёскі. У гэтым — «сакрэт» перамог бальшавізму.

Наколькі вялікія посьпехі ленінізму ў нашай краіне, можна лепей за ўсё судзіць па адносінах шырокіх мас працоўных да справы будаўніцтва сацыялізму на практыцы. Самым паказальным зьяўляецца ўзрост сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Сацыялістычнае спаборніцтва ператварылася ужо ў шырачэзны рух у рабочых масах і цяпер распаўсюджваецца ў шматмільённай арміі калгасьнікаў. Гэта азначае, што барацьба за перамогу сацыялізму, якая знаходзіць цяпер сваё найбольш яскравае выяўленьне ў падняцьці вытворчасьці працы на фабрыках і заводах, у капальнях і на чыгунках, у саўгасах і калгасах,—што гэтая барацьба зрабілася сьвядомай справай мільёнаў рабочых і працоўных вёскі.

Бальшавіцкая партыя ідзе на чале будаўніцтва сацыялізму. Але шэрагі актыўных змагароў за сацыялізм далёка не абмяжоўваюцца партыйнымі рамкамі. У шырокіх масах **беспартыйных** рабочых і работніц ёсьць ужо не адна сотня тысяч сапраўды актыўных і аддане́йшых змагароў за сацыялізм.

У нас ужо некалькі мільёнаў ударнікаў і ўдарніц у прамысловасьці. Вялікая іх частка — беспартыйныя пралетары і пралетаркі. Гэта значыць, што барацьба за сацыялізм, барацьба за падняцьцё вытворчасьці працы ў сацыялістычнай індустрыі стала па-сапраўднаму справай мільённых мас. І ў гэтым — сапраўдны залог перамогі нашай справы.

Паколькі мы ўжо забясьпечылі бясспрэчную перавагу сацыялістычных форм гаспадаркі ня толькі ў горадзе, але і ў вёсцы, і паколькі гэтая перамога зьяўляецца перакананьнем пацьвярджэньнем правільнасьці палітыкі нашай ленінскай партыі, пастолькі рашаючае ў далейшых посьпехах сацыялізму залежыць ад нас саміх, ад нашай здольнасьці арганізоўваць масы, ад нашага ўменьня вылучаць для гэтага патрэбныя кадры кіраўнікоў і забясьпечыць яшчэ большае вылучэньне гэтых кадраў у далейшым. Тым больш, што за гады рэвалюцыі вырасла новае пакаленьне — пакаленьне моладзі, і асабліва камсамольцаў з рэвалюцыйнай закваскай.

Задачы падбору кіруючых кадраў сацыялістычнага будаўніцтва і вылучэньня ў шэрагі кіраўнікоў новых і новых перадавікоў-будаўнікоў з масы рабочых і сялян-калгасьнікаў — і асабліва з моладзі — павінны стаяць у шэрагу нашых цэнтральных задач. Гэта трэба падкрэсьліць тым больш, што нам яшчэ прыдзецца ня раз мець справу і з контррэвалюцыйнымі шкоднікамі ў дзяржаўным апараце і весьці ўпорлівую і працяжную барацьбу з бюракратызмам, гнілай коснасьцю і т. п. язвамі ў шмат нашых органах.

Падняцьцё культурнага зроўня мас будзе ў гэтых адносінах адыгрываць першараднае значэньне. З гэтай справай зьвязана таксама зьдзейсьненьне задачы аўладаньня тэхнікай і ўсёй сутнасьцю вытворчасьці і кіраваньня з боку нашых растучых кадраў.

З усяго сказанага відаць, што посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ёсьць посьпехі пралетарыяту, які змагаецца за сваю справу пад сьцягам марксызму-ленінізму. Без бальшавіцкага правядзеньня ў жыцьцё асноў ленінскага вучэньня мы ня мелі-б таго, што праведзена ў жыцьцё чатырнаццацігадовай гісторыяй Кастрычнікавай рэвалюцыі.

З гэтага мы робім свой вывад:

Пасьлядоўная барацьба за ленінізм і няпрымірымасьць у адносінах да апартунізму ва ўсіх яго living рознастайнасьцях — **асноўны варунак перамогі** сацыялізму.

* * *

Вось асноўны вывад з чатырнаццацігадовай гісторыі Кастрычнікавай рэвалюцыі.

У выніку рашаючая тэндэнцыя ў разьвіцьці сусьветных грамадзкіх сіл, у суадносінах сіл сацыялізму і капіталізму, ідзе на **наш** бок, складаецца на карысьць **нашай** справы.

Бясспрэчна, што новы грамадзкі лад — лад сацыялізму адваёўвае для сябе ўсё больш трывалыя пазыцыі, а гэта ня можа не адбывацца за кошт удзельнае вагі капіталізму.

Значэньне пройдзенага шляху нам цяпер немагчыма ацаніць поўнасьцю. Але ў кожным разе заваяванага ўжо ніхто ня зможа вырваць з нашых рук.

Савецкая ўлада прайшла труднейшыя этапы. Галоўныя ўнутраныя труднасьці намі ўжо пройдзены.

Няма і ня можа быць такой сілы, якая-б цяпер змагла рабочую клясу Савецкага Саюзу зьвярнуць да старага жыцьця, да паднявольнай працы пад камандай капіталу. Няма і ня можа быць такой сілы, якая-б змагла напае сялянства і асабліва нашых калгасьнікаў, якія выпрабавалі на вопыце мільёнаў перавагі калгаснай працы і атрымалі ўжо ў сваёй працы аграмаднае аблягчэньне ад ужываньня трактароў і новых сельска-гаспадарчых машын, зьвярнуць да старага жыцьця, пад ярмо абшарніка, пад палку ўрадніка і земскага начальніка. Няма і ня можа знайсьціся такой сілы, якая была-б здольна скіраваць назад нашых рабочых і сялян, мільённыя масы якіх ня толькі ненавідзяць усёй душой панаваньне цара, абшарнікаў і капіталістаў, але і ведаюць верную дарогу да свайго вызваленьня.

У чым-жа заключаецца цяпер **аснова асноў** нашай канчатковай перамогі?

Яна заключаецца перадусім і раней усяго ў **падняцьці вытворчасьці працы,** ва ўздыме нашай сацыялістычнай гаспадаркі.

Так менавіта вызначыў асноўны варунак перамогі сацыялізму наш вялікі правадыр, Ленін.

Значэньне пытаньня аб вытворчасьці працы Ленін падкрэсьліў таксама ў наступных словах:

«Камунізм ёсьць вышэйшая, супроць капіталістычнай, вытворчасьць працы дабраахвотных, сьвядомых, аб'яднаных, выкарыстоўваючых перадавую тэхніку, рабочых». (Ленін, «Великий почин», том XVI, стар. 255).

Прыведзеныя мною словы Леніна датычаць таго пэрыяду, калі па ініцыятыве рабочых стала разгортвацца арганізацыя суботнікаў. Суботнікі былі зараджэньнем новых, сапраўды сацыялістычных элемэнтаў у нашай прамысловасьці і на транспарце. Ленін адразу-ж азначыў гістарычнае значэньне суботнікаў для рзьвіцьця камуністычных форм працы ў нашай краіне.

З тэй пары сацыялістычная рэвалюцыя зрабіла аграмадныя посьпехі. Гэтыя посьпехі знайшлі свой выдатны выраз у сацыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве. Прычым пралетарскі рух ударніцтва ўжо ахапіў мільёны працоўных. Усьлед за рабочымі ўдарны рух узрастае і сярод калгасьнікаў. Гэта значыць, што справа сацыялізму заваёўвае для сябе ўсё больш моцную матар'яльную падставу. І гэтай падставай зьяўляецца падняцьцё вытворчасьці працы ў нашай сацыялістычнай гаспадарцы.

Наша рэспубліка падобна да заводу. А ці ў нас мала такіх заводаў-волатаў, якія даюць аграмадную прадукцыю і адначасна з гэтым праводзяць поўную рэканструкцыю сваіх цэхаў і прадпрыемстваў у цэлым? Такіх заводаў у нас ня мала. Посьпехі нашага будаўніцтва абгрунтаваны, паміж іншым, менавіта на тым, што такія заводы ўмеюць цьвёрда праводзіць генэральную лінію рэканструкцыі сваёй вытворчасьці і разам з тым весьці пасьпяховую барацьбу за падняцьцё вытворчасьці працы ў сваіх цэхах, майстэрнях, брыгадах і паасобных аггрэгатах. На такі завод падобна цяпер наша рэспубліка Саветаў.

У нашай краіне пануючае палажэньне ўжо займаюць сацыялістычныя элемэнты. Ад працы нашых прамысловых прадпрыемстваў, чыгунак, саўгасаў і калгасаў залежыць цяпер усё асноўнае. Іх недахопы, і асабліва слабасьці ў вытворчасьці працы, — цяжкія ўдары па нашаму будаўніцтву. Іх посьпехі ў падняцьці вытворчасьці працы — лепшыя перамогі сацыялізму.

Падняцьцё вытворчасьці працы на фабрыках і на заводах, у капальнях і на промыслах, на чыгунках і ў водным транспарце, у саўгасах усіх відаў і ў шматтысячных шэрагах калгасаў — вось у чым для нас у канцы-канцоў **задача задач.**

Посьпехі ў справе падняцьця вытворчасьці працы—лепшы, нязломны і сапраўды гранітны аплот справы сацыялізму.

Нашы посьпехі ў гэтай справе маюць рашаючае значэньне ня толькі з пункту погляду ўнутраных, але таксама і міжнародных задач барацьбы за сацыялізм. Менавіта тут, на вырашэньні задач падняцьця вытворчасьці працы ў сацыялістычнай гаспадарцы, перадусім даецца практычны адказ на пытаньне аб канчатковай перамозе Кастрычнікавай рэвалюцыі, на пытаньне аб перамозе справы камунізму.

Да двух трактарных заводаў — у Ленінградзе і Сталінградзе далучыўся новы трактарны завод у сталіцы Украіны. Увайшоў у строй магутны аўтамабільны завод у Маскве і набліжаецца дзень пуска аўтамабільнага гіганта ў Ніжнім-Ноўгарадзе. Ужо пускаюцца ў ход Магнітабуд на Урале і Кузнецкабуд у Сібіры. На чарзе пуск гігантаў хэмічнай прамысловасьці ў Бярэзьніках, а затым і ў Бобрыках. На чарзе, далей, пуск Днепрабуду, а такасама і Днепракамбіната.

Між тым пуск кожнага новага заводу ў нашай краіне мае ня толькі значэньне новага завяваньня ў нашым будаўніцтве, але мае аг-

рамаднае міжнароднае значэньне ў барацьбе за справу сацыялізму. Кожны новы завод у нашай краіне — апорны пункт міжнароднага пралетарыяту. Таму ў нашым мірным будаўніцтве імпэрыялізм бачыць для сябе сьмяротную пагрозу. Няма тых злачынстваў, на якія-б ён не згадзіўся дзеля падрыву растучай магутнасьці сацыялізму ў СССР.

Усё гэта значыць, што пануючыя за межамі СССР імпэрыялістычныя сілы рана ці позна паспрабуюць арганізаваць непасрэдны ўзброены напад на Рэспубліку Саветаў. Мы павінны лічыцца ня толькі з немінучасьцю новых імпэрыялістычных войн, але і з немінучасьцю новых правакацый ваенных інтэрвэнцый супроць СССР. Мы ня будзем бальшавікамі, калі забудзем многакратныя ўказаньні Леніна аб тым, што новыя спробы разгрому Савецкай Рэспублікі з боку імпэрыялізму немінучы. Нельга губляць ні воднага дня ў падрыхтоўцы да адпору гэтым нападам.

Верная сваёй палітыцы міру, пасьлядоўна змагаючаяся за ўзмацаваньне мірных адносінаў з другімі дзяржавамі, краіна Саветаў ні на каго ня зьбіралася і ня зьбіраецца нападаць. Але лічачыся з магчымасьцю ваенных інтэрвэнцый супроць СССР з боку нашых няпрымірымых ворагаў з лягеру імпэрыялізму, мы з непахіснай упэўненасьцю ў нашых сілах і ў сілах нашых прыяцеляў па клясе заяўляем: Савецкі Саюз ня толькі не безбаронны, Савецкі Саюз непераможны.

Суадносіны ў разьвіцьці сусьветных сіл усё больш мяняюцца на нашу карысьць. Але капіталізм не зьбіраецца адмаўляцца ад барацьбы. Гэта акрэсьляе нашы задачы на самым трудным вучастку барацьбы за сацыялізм — на арэне ўзаемаадносінаў сацыялізму з капіталістычным абкружэньнем.

Буйнейшыя баі тут яшчэ наперадзе. Але мы яшчэ паглядзім, як складуцца справы ў гэтых баёх для старога, трухлявага, гніючага на корані капіталізму.

Справа барацьбы за сацыялізм зьвязана яшчэ з аграмаднымі труднасьцямі. Але мы пераконаны ў тым, што з яшчэ большымі і сапраўды непераможнымі труднасьцямі зьвязана справа барацьбы капіталізму за сваё далейшае існаваньне.

У рашаючых баёх прагніўшыя капіталістычныя падваліны ня толькі пахіснуцца. Трэснуўшы падмурак капіталізму ня толькі пачне разьлязацца. Капіталістычны сьвет у гэтай сутычцы сіл затрашчыць па ўсіх сваіх частках. І мы цьвёрда пераконаны ў тым, што гэтая барацьба прывядзе да канчатковай перамогі справы міжнароднага пралетарыяту.

Пройдзены шлях сьведчыць аб тым, што справа Кастрычнікавай Рэвалюцыі ідзе да поўнай перамогі.

Няхай жыве Кастрычнікавая рэвалюцыя! Няхай жыве перамога камунізму!

---

**„ДЭМАСКАВАНЬНЕ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫІ, ДЭМАСКАВАНЬНЕ II ІНТЭРНАЦЫЯНАЛУ, ВЫЗВАЛЕНЬНЕ ПРАЦОЎНЫХ МАС З-ПАД УПЛЫВУ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫІ ЁСЬЦЬ ЧАРГОВАЯ ЗАДАЧА КАМУНІСТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ, БЕЗ ВЫРАШЭНЬНЯ ЯКОЙ НЕМАГЧЫМА ПАСЬПЯХОВАЯ БАРАЦЬБА ПРАЛЕТАРЫЯТУ ЗА СВАЕ ВЫЗВАЛЕНЬНЕ З-ПАД ПУТАЎ КАПІТАЛУ".** (З рэзалюцыі XI пленуму ІККІ).

Г. Рваль.

# З праблем сучаснага моманту.

У апошнія часы множацца трывожныя факты апартуністычных скрыўленьняў адносін партыі да праяваў узброенай барацьбы і іншых завостраных форм рэвалюцыйнай масавай барацьбы, асабліва сялянскай барацьбы. Адначасна ў некаторых зьвеньнях партыі, пераважна адарваных ад кіруючых асяродкаў, узьнікаюць тэндэнцыі перадчасных збройных выступленьняў, альбо замены штодзённай масавай барацьбы адарванымі ад яе тэрарыстычнымі выступленьнямі.

Абодвы зьявішчы ў сваіх выніках пагражаюць сур'ёзнай небясьпекай для партыі, якая ня можа, пад пагрозаю страты баявой сувязі з масамі, нэгаваць сваеасаблівых форм і сродкаў барацьбы, аб'ектыўна вырастаючых з руху, як і ня можа выбягаць наперад, навязваючы масам такія сродкі барацьбы, якія не адпаведаюць яшчэ даннай ступені напружаньня руху.

У канкрэтных варунках перажываемага этапу, калі рэвалюцыйная хваля расьце, а сродкі барацьбы з абодвух бакоў, г. ё. насьпяваючай рэвалюцыі і арганізаванай контррэвалюцыі, надзвычайна завастраюцца, асабліва пагражаючым, разбройваючым партыю, зьяўляецца правы апартунізм, які недаацэньвае значэньня спэцыфічных і няўнікнённых сродкаў барацьбы даннага этапу. Праваапартуністычныя памылкі тым больш небясьпечны, што праслізгваюць у апошнія часы нават на старонках партыйнай прэсы і ў афіцыйных дакумэнтах некаторых ворганаў партыі, сеючы ідэёвае замяшэньне ў актыве.

Так напрыклад, у ліпеньскім нумару «Чырвонага Штандару» надрукавана нататка (якую ЦК хутка выправіў), якая «кожны тэрарыстычны акт, зьяўляючыся выразам нянавісьці альбо помсты народных мас, трактуе, як акт аб'ектыўна правакацыйны» (гл. рэзалюцыю ЦК КПП, «Новы Пшэглёнд» № 43). Рэдакцыя «Чырвонага Штандару», правільна адгараджваючыся ад бомбавага замаху ў Падбродзьдзі, замаху, які ня мае нічога супольнага з партыяй, адарванага ад масавай барацьбы, зрабіла тую памылку, што падзею ў Падбродзьдзі абагуліла, прыраўнаўшы да яе кожную іншую праяву тэрару, накіраваную супроць фашыстоўскай улады. Цьверджаньне, што «акты індывідуальнага тэрару ня маюць нічога супольнага з барацьбою рэвалюцыйных беларускіх мас» памылкова. Памылкова, бо пад назваю індывідуальнага тэрару падсоўваецца кожная праява тэрару, бо штучна адрывае ад агульнага грунту барацьбы мас супроць акупантаў—забойствы рознастайных прадстаўнікоў акупацыі, якія робяцца адзінкамі альбо групамі. Цьверджаньне, што кожныя замах, альбо забойства дзяржаўнага чыноўніка гэта індывідуальны тэрар, замазваньне розьніцы паміж індывідуальным тэрарам і праявамі масавага тэрару азначае спаўзаньне з грунту марксызму. Ёсьць тэрар і тэрар. Адзінка — загаворшчык, што па даручэньню партыі альбо арганізацыі, якая ў індывідуальным тэрары, адарваным ад барацьбы мас і замяняючым эканамічную і палітычную барацьбу мас, бачыць выключны альбо пераважны сродак барацьбы — гэта ня тое, што селянін, які забівае ў барацьбе паліцэйскага, сэквэстратара, гаёвага, ня тое самае, што селянін альбо група сялян, якая пускае з дымам паліцэйскі пастарунак і т. п. У першым выпадку — памылковая для пралетарскай партыі тактыка барацьбы, у другім — сродак самаабароны супроць урадавых ці абшарніцкіх наёмнікаў. У спрыяючых варунках самаабарона мас пераходзіць у арганізаваны масавы тэрар.

Ленін пісаў аб партызанскай барацьбе: «Вядуць яе паасобныя адзінкі і невялікія групы людзей. Яны часткова належаць да рэвалюцыйных арганізацый, часткова (а ў некаторых мясцовасьцях Расіі — **пераважна**) не належаць ні да якой рэвалюцыйнай арганізацыі. Узброеная барацьба мае дзьве розныя мэты, якія трэба сьцісла адрозьніваць — менавіта, гэтая барацьба мае на мэце забойства паасобных адзінак, начальнікаў і паднačaleных ваенна-паліцэйскай службы; па-другое, канфіскацыю сродкаў як урадавых, гэтак і прыватных асоб». «Шырокае разьвіцьцё і распаўсюджаньне прыняла гэтая форма барацьбы нясумненна толькі ў 1906 г., г. ё. пасьля

ьнежаньскага паўстаньня. Завастрэньне палітычнага крызысу аж да ступені узброенай барацьбы, а ў асаблівасьці завастрэньне нэндзы, голаду і беспрацоўя па вёсках і гарадох адыгрывалі значную ролю ў ліку прычын, выклікаўшых апісаную барацьбу». (**Ленін** — «Партызанская вайна»). У другім мейсцы гэтага самага артыкулу Ленін піша: «Даўнейшы расейскі тэрарызм быў справаю інтэлігэнта-загаворшчыка; цяпер партызанскую барацьбу вядзе як правіла работнік-баявік, альбо папросту беспрацоўны рабочы». Мы прыпамінаем тое, што пісаў аб партызанцы Ленін не дзеля таго, каб мэханічна прыроўніваць тагачасную сытуацыю Расіі да нашай сучаснай, не дзеля таго, каб даводзіць, што насьпела сытуацыя для арганізаваньня партызанкі, што маем ў нас разгорнутую партызанскую барацьбу, як форму барацьбы «у перапынку паміж двума вялікімі бітвамі ў грамадзянскай вайне». Мы ня далі яшчэ ворагу тэй першай вялікай узброенай бітвы, але мы ідзем да яе таксама і цераз такую масавую барацьбу, якая высоўвае частковыя узброеныя сутычкі, перадусім у часе адпору карным экспэдыцыям, адпору дзікім гвалтам, у часе завостраных забастовачных і сялянскіх баёў. Такія ўзброеныя сутычкі вырастаюць на нашых вачох і будуць пашырацца, асабліва з правядзеньнем палявых судоў і ўсё больш нахабным стасаваньнем праз урад мэтадаў грамадзянскай вайны супроць рабочых і сялян. Мы прыводзім цытату з Леніна перадусім дзеля таго, каб падкрэсьліць, што з факту ўзброй-ных выступленьняў «паасобных адзінак альбо невялікіх груп людзей» ня можна выводзіць шаблённага, абцёртага, як пятак, і няправільнага вываду аб індывідуальным тэрары, як гэта нажаль зрабіла рэдакцыя «Чырвонага Штандару». Зрабіўшы адну памылку, яна загрузла яшчэ далей, пішучы, што «індывідуальны тэрар у варунках узросту шырокага рэвалюцыйнага руху мае аб'ектыўна характар правакацыйных актаў». Калі-б нават рэдакцыя «Чырвонага Штандару», убраўшыся ў тогу суровага прарока, не мяшала актаў індывідуальнага тэрару з чынамі партызанскага характару і сваё асуджэньне абмяжавала толькі зьявішчамі індывідуальнага тэрару, яна таксама ня мела-б рацыі, называючы правакацыяй кожны акт індывідуальнага тэрару.

Такое абабітае зданьне можа хутчэй усыпіць, чым абудзіць неабходную чуйнасьць партыйнага актыву на завостраную небясьпеку сапраўдных правакацыйных актаў, г. ё. замахаў, арганізаваных правакатарамі і агентамі дэфэнзывы.

Мы адзначаем новыя прыклады замяшаньня ў справе тэрару ў зьвязку з забойствам Голубкі. Забойства гэтага прадстаўніка зьненавіджанай фашыстоўскай сыстэмы, будучы актам індывідуальнага тэрару, было адначасна выразам завострапай барацьбы ўціскаемых мас украінскага народу, сплялося з шэрагам узброеных выступленьняў партызанскага характару на ЗУ супроць польскага акупанта: з нападамі на пошту і скарбовыя ўстановы, на паліцэйскія пастарункі, перарэзваньнем тэлеграфных дротаў і г. д. Урадавыя камунікаты, буржуазная прэса і заявы ўсіх буржуазных партый узьнялі дзікі вой супроць «бандытызму»: «Хватай бандыта!» — скрыгаталі прафэсыянальныя бандыты і грабіцелі прыгнечаных народных мас, рыхтуючы новыя пагромы і карныя экспэдыцыі супроць украінскіх вёсак і мястэчак. Кіраўніцтва нашай партыі даўно ўжо дала ацэнку палжэньня на ЗУ, аб'ектыўна рэвалюцыйнага характару нават адзінкавых тэрарыстычных выступленьняў з боку нізавых элемэнтаў нацыяналістычных партый, элемэнтаў, якія яшчэ ня ўступілі на наш шлях рэвалюцыйнай масавай барацьбы. Кіраўніцтва нашай партыі дала таксама рашучы адпор памылковай нататцы ў «Чырвоным Штандары». Аднак нядаўна адзін з кіруючых таварышоў КПЗБ пісаў у дырэктыўным лісьце да партыйнай арганізацыі, што забойства Голубкі ёсьць правакацыйны мэтад украінскай буржуазіі. Другі-жа таварыш з КПЗБ піша, што «стыхійна разрастаючыся групавы тэрарыстычны рух зьяўляецца сёньня найбольшай небясьпекаю». Галоўная небясьпека для яго — не хвасьцізм, не валачэньне ў хвасьце падзеяў, не цягненьне за масамі, але стыхійнае разрастаньне завостраных форм барацьбы мас.

Падобнага тыпу памылка, якая сьведчыць аб ня меншым памяшаньні ў мазгох, зрабіў у раёне Х. адзін з інструктароў КПЗБ, які ў лісьце да ЦК КПЗБ так пробуе высьвятліць сваю пазыцыю: «Наша партыя адказала на ўзмажэньне тэрару заклікам да масавай барацьбы з белым тэрарам, склікаючы масоўкі і дэманстрацыі, заклікаючы да цкаваньня правакатараў, канфідэнтаў і шпікоў, кідаючы лёзунг—«сьмерць правакатарам!». Але адначасна з гэтым партыя выступала супроць індывідуальнага тэрару, супроць забойстваў паасобных канфідэнтаў, паказваючы на тое, што індывідуальны тэрар ня ёсьць наш сродак барацьбы...» Як-жа так? Значыць, можна «грозна» кідаць лёзунг: «сьмерць правакатарам!» і адным духам дадаваць: «не забіваць канфідэнтаў, бо гэта ёсьць індывідуальны тэрар»— у той самы час калі выпадкі нішчэньня дэфэнзыўскіх канфідэнтаў зьяўляюцца нату-

ральнай праяваю самаабароны мас? Што-ж дзіўнага, што такога роду аргумэнтацыя зьбіла з панталыку не аднаго таварыша і не магла належным чынам супроцьпаставіцца блытаным тэрарыстычным настроям, што паявіліся ў гэтым раёне.

Там, дзе ясна сувязь такой формы барацьбы з масавай барацьбой супроць тэрару ўлад, лёгкадумнае кіданьне асуджэньняў і прыклейваньне этыкетак індывідуальнага тэрару не аблягчае партыі перамажэньня адарваных ад масавай барацьбы тэрарыстычных настрояў, усякіх іншых адмоўных бакоў руху, ня ўтрымлівае ад дэзарганізуючых рух, адарваных ад яго выступленьняў, але толькі ўзмацняе іх.

Гэты самы інструктар піша далей: «Заклікаючы да масавага адпору супроць сэквэстратараў і паліцыі, наша партыя паказвала на тое, што аружжа нельга яшчэ выймаць на паверхню». Праціраем вочы ад зьдзіўленьня. Як так? Сялянскія масы адмаўляюцца плаціць падаткі ўраду, ня хочуць дапусьціць да камасацыі іх зямель, да рабаваньня іх сэрвітутаў, пускаюць з дымам абшарніка і асадніка, выганяюць сілаю экзэкутараў і ўрадавых каморнікаў, даюць адпор супроць шалеючых карных экспэдыцый. толькі, барані божа, не павінны выймаць броні на паверхню. Гэтая баязьлівая пазыцыя ў справе выйманьня аружжа ёсьць выраз апартуністычнага і вульгарнага разуменьня масавасьці барацьбы і яе завостраных форм, адрываньня яе ад канкрэтнай сытуацыі і варункаў, дыктуючых ня толькі неабходнасьць, але абавязак арганізаваньня масавага адпору ва ўсіх выглядах, ня выключаючы ўжо сёньня ў паасобных выпадках узбройнага адпору.

Мы павінны высьвятліць, што яшчэ не надышоў час паўстаньня, што курс на ўзброеную барацьбу, перш чым насьпее рэвалюцыйная сытуацыя, гэта перадчасны і таму згубны для партыі і рэвалюцыйнага руху. Трэба высьвятляць, што галоўны варунак посьпеху барацьбы гэта яе масавасьць, гэта значыць, мабілізацыя, арганізацыя і ўдзел найшырэйшых народных мас у барацьбе навакол іх штодзённых балячак і патрэб, рэвалюцыйныя выступленьні гэтых мас супроць прыгнятацеляў і іхнага ўраду. Агульнага прынцыпу аб масавасьці руху, зьяўляючагася падставай ўсякай, сапраўды рэвалюцыйнай тактыкі, нельга супроцьставіць канкрэтным пачаткам той-жа самай масавай барацьбы, якія выступаюць у данных канкрэтных варунках у нязвычайна абвостранай форме, аж да ўзброенай формы ўключна. Прызнаваць масавы адпор супроць узброенай ад ног да галавы паліцыі, «Стрэльца» і г. д. і крычаць супроць узброенага адпору, значыць жартаваць словамі. Мы жывем у пэрыядзе рэвалюцыйнага наплыву, жывем у пэрыядзе катастрафальнага крызысу капіталізму і такога вялікага напружаньня клясавых супярэчнасьцяў, што дзікія гвалты паліцэйскіх зьбіраў выклікаюць ня толькі паўсямеснае абурэньне найшырэйшых народных мас, але ўжо спатыкаюць (і ня могуць не спатыкаць), што-раз больш часты і што-раз больш рашучы стыхійны адпор з боку ўсё шырэйшых пластоў пралетарыяту і сялянства. Крывавыя бойкі з паліцыяй беспрацоўных, бастуючых і сялян, пробы будаваць барыкады ў часе дэманстрацый, перарэзваньне тэлеграфных і тэлефонных дротаў, разбройваньне, альбо забіваньне шпікоў і паліцэйскіх — вось тыя новыя завостраныя формы масавай барацьбы, якія перакідваюцца на ўсё новыя асяродкі краю. Рэвалюцыйны пралетарыят і рэвалюцыйнае сялянства яшчэ ня ў стане даць ворагу вялікую ўзброеную бітву, але ўжо праяўляюць што-раз большы адпор, ня выключаючы збройнага, крывавым злачынствам і агідзтвам фашызму. Узмагаючы шырокую масавую агітацыю ў войску, упорна пераконваючы шырокую салдацкую масу ў неабходнасьці пераходзіць са зброяй у руках на бок змагаючыхся рабочых і сялян, партыя ў канкрэтных выпадках узброеных сутычак, асабліва ў выпадках ваенных карных экспэдыцый супроць рабочых і сялян, павінна ўмець арганізоўваць фізычную барацьбу, якая ў адпаведны момант можа рашыць пераход хістаючыхся вайсковых атрадаў на бок народу. Мэтад актыўнага адпору, стасаваны не адарвана ад канкрэтнай акцыі мас, але ў сьціслай сувязі з ёю, прывучыць масы да рашучых выступленьняў, выхавае кіраўнікоў узброенай барацьбы, улатвіць масам здабыцьцё патрэбнай зброі, палегчыць пераход ад адпаведных форм абароны да адпаведных форм атакі пры спрыяючых варунках. У сучасны момант мы не фарсуем узброеных баёў. Яшчэ варункі для таго не насьпелі. Гэта не падлягае сумненьню. Але такое нэгатыўнае акрэсьленьне нашай тактыкі недастаткова. Мы мусім прадугледзіць, згодна з рашэньнямі апошняга III пленуму ЦК нашай партыі, далейшыя вынікі нашай тактыкі ў варунках шпарка нарастаючых прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу. Мы павінны скіраваць усе намаганьні на падрыхтоўку рабочых і сялянскіх мас да новых, завостраных форм барацьбы, форм не высысаных з пальцаў, ці з фантазіі рэвалюцыянэра, а выкліканых глыбокімі эканамічна-сацыяльнымі прычынамі, акрэсьленых з жалезнаю няўнікнёнасьцю насьпяваньнем прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу, гэта значыць, перад-

усім, завастрэньнем да крайняй меры нэндзы і ўціску мас і завастрэньнем рэвалюцыйнай барацьбы гэтых мас. Партыя ня можа дапусьціць да таго, каб паасобныя партыйныя арганізацыі і пасобныя таварышы на ўласную руку, ня лічучыся з ступеньню напружаньня рэвалюцыйнай масавай барацьбы ў даннай мясцовасьці і ў краі, пераходзілі да ўзброенай барацьбы. Партыя яшчэ не арганізуе ўзброеных выступленьняў, але яна адначасна павінна быць падрыхтавана да таго, каб па меры нарастаньня непасрэднай сытуацыі барацьбы за ўладу, загадзя скіраваць няўнікнёныя, стыхійныя, паасобныя ўзброеныя выбухі ў рэчышча арганізаванага ўзброенага паўстаньня ва ўсім краі.

ЦК КПЗБ рашуча рэагаваў на шэраг сур'ёзных памылак, зробленых у апошні час у КПЗБ. ЦК Кампартыі Зах. Беларусі рэагаваў таксама правільна на левацкія, партызанска-тэрарыстычныя тэндэнцыі паасобных арганізацый, якія занядбываюць масавую работу і штодзённую барацьбу. Аднак у крытыцы гэтых памылак орган ЦК КПЗБ, «Партработнік», не засьцярогся ад іншых памылак. Мы кажам пра артыкул, зьмешчаны ў ліпеньскім нумару беларускага «Партработніку», пад назваю «Барацьба мас — наша барацьба. Але мы не павінны цягнуцца за масамі, а весьці масы да вышэйшых форм барацьбы». Нажаль, апроч гэтай доўгай і шмат абяцаючай назвы, чытач дарма будзе шукаць адпаведнага адказу на высунутую праблему. Аўтар прыводзіць у падставе правільную думку аб неабходнасьці разгортваньня шырокага масавага руху ў горадзе і беларускай вёсцы. Ён слушна змагаецца з нежаданьнем сярод часткі актыву весьці масавую працу, з сэктанцтвам не адной партыйнай арганізацыі. Ён слушна падкрэсьлівае нясумненна грозную праяву непасьпяваньня КПЗБ за шырокімі забастовачнымі баямі, што разгортваюцца ў астатняй Польшчы. Але ён стаіць безрадна і блытаецца ў адказе, калі пробуе супроцьпаставіць усё часьцей выступаючыя ў апошнія часы на беларускай вёсцы завостраныя формы барацьбы, напрыклад, масавыя падпалы, як «ніжэйшыя формы барацьбы» іншым масавым выступленьням, як «вышэйшым формам барацьбы». Слабасьцю руху на ЗБ у данным моманце зьяўляецца ня тое, што сяляне ўжываюць такія «нізкія» формы клясавай барацьбы, як пусканьне з дымам абшарніка ці кулака, а тое, што ў большасьці выпадкаў стыхійныя выступленьні мас праходзяць без нашага кіруючага ўдзелу. Гэта датычыць і вёскі і гораду, асабліва гораду, дзе апошнія два такія паважныя клясавыя баі, як забастоўка тэкстыльшчыкаў у Беластоку і ўсеагульная забастоўка ў Горадні не кіраваліся камуністамі. Нацыянальны і сацыяльны ўціск, барацьба падставовых сялянскіх мас супроць адвечных эксплёататараў і прыгнятацеляў выклікалі ўжо ў леташнім годзе на ЗУ зьявішча (якое спадарожнічае дагэтуль усялякаму сялянскаму рэвалюцыйнаму руху) — гэта масавае паленьне і нішчэньне абшарніцкіх маёнткаў.

Леташняя памылка ўкраінскіх таварышоў перадусім заключалася ў тым, што яны не заўважылі ў гэтым зьявішчы яго сацыяльна-клясавага і рэвалюцыйна-нацыянальнага падложжа і дзеля таго недаацанілі яго рэвалюцыйнага характару. Заклінаньні ў чыстаце і высокасьці пралетарскіх форм барацьбы толькі маскавалі непралетарскія адносіны да стыхійнай барацьбы сялянства. Аўтар артыкулу ў «Партработніку», спасылаючыся на вышэйшыя формы барацьбы, па-просту ўцёк ад разбору і ацэнкі спэцыфічных форм стыхійнай сялянскай барацьбы. Ані вышэйшых, ані ніжэйшых, ані галоўных у параўнаньні з іншымі, а ўласна спэцыфічныя. Аўтар артыкулу таксама ўцёк ад разгляду мэтазгоднасьці ставаньня таго альбо іншага сродку барацьбы ў залежнасьці да канкрэтных лёкальных варункаў і схаваўся ў гушчыні вельмі заблытанай філёзофіі, якую ён тонка разьвівае такім чынам:

> «Што такое вышэйшая і што такое ніжэйшая форма барацьбы? Усялякае выступленьне згуртаванай масы ёсьць больш вышэйшая ступень у разьвіцьці барацьбы, чым распарушаная дзейнасьць паасобных адзінак альбо малых групак. Напад тлуму на пастарунак паліцыі — гэта больш вышэйшая форма барацьбы, чым падпаленьне ўначы гэтага пастарунку. Праганяньне экзэкутара з вёскі цэлай грамадой, недапушчэньне да камасацыйных вымярэньняў і т. п. гэта больш рэвалюцыйна, чым забойства экзэкутара з-за хаты. Страйк батракоў і салідарнае падтрыманьне яго акалічнымі сялянамі больш значыць, чым папал стадолы ў маёнтку. Гэтыя масавыя выступленьні зьяўляюцца вышэйшай формай барацьбы нават тады, калі адзінка альбо дробная група змагаецца куляй альбо гранатаю, а маса яшчэ выступае збройна».

Першае, што б'е ў вочы, (мінаючы ўжо тую разбройваючую акалічнасьць, што ў нашага аўтара паміж іншым і ноч выступае як фактар, які паніжае зровень барацьбы) гэта спрошчаны, не дыялектычны падыход да разуменьня масы і пытаньня мэтадаў і сродкаў

барацьбы. Дапусьцім сабе на хвіліну напад такога нез'арганізаванага «тлуму» на паліцэйскі пастарунак. Тлум, менавіта дзеля таго, што тлум г. зн. нез'арганізаваная маса, адступае з стратамі. І надварот, напад арганізаваных, хоць-бы сабе нялічных дружын, узброеных бомбамі і браўнінгамі, на гэты самы пастарунак, увенчваецца посьпехам. З пункту гледжаньня ваеннай тактыкі (а ваенная тактыка гэта таксама складовая частка тактыкі партыі рэвалюцыйнага пралетарыяту, г. зн. ваюючай партыі) гэты другі прыклад ставіцца бязумоўна, як вышэйшая форма дзейства. Але які адсюль вывад? Перадусім той, што кожнае канкрэтнае зьявішча патрабуе канкрэтнага крытэрыя. На вайне — як на вайне. Узброеная акцыя (а такой узброенай акцыяй зьяўляецца напад ці то тлуму, ці дружыны на паліцэйскі пастарунак) патрабуе стасаваньня крытэрыю вайсковага мастацтва, а не самахотных умысловых апэрацый, якія абстрагуюцца ад канкрэтнай мэты і сродкаў даннай акцыі.

Ня можна супроцьстаўляць сельска-гаспадарчых забастовак чырвонаму певеню. Калі сяляне падтрымоўваюць па свойму рабочых, пусьціўшы чырвонага певеня на скірды збожжа, дык ці будзе гэта паніжэньнем формы забастовачнай барацьбы, ці не? Альбо калі стадолы са збожжам падпальваюць самі батракі, часта ў адказ на паліцэйскія гвалты і штрэйкбрэхерства, прыклады чаго мы сустракаем ня толькі на ЗБ і ЗУ, але нават у Нямеччыне, цяпер, г. ё. больш чым праз чатыраста год пасьля сялянскіх войн? Таксама няправільным зьяўляецца супроцьстаўленьне праганяньня грамадою экзэкутара — забойству яго «з-за вугла». Хроніка штодзённых баёў сялянства ня толькі на акупаваных абшарах, але і ў карэннай Польшчы, мае дужа фактаў і першага і другога роду. Асабліва зацятыя баі вядуць сяляне ў апошнія часы ў абшарніцкіх і ўрадавых лясох з гаёвымі, якія гоняцца за імі, як за дзікімі зьвярыма. Зусім пэўна, што селянін у такой сытуацыі ня будзе рабіць рыцарскіх паядынкаў з панам экзэкутарам ці гаёвым, а пусьціць яму кулю ў лоб з-за вугла. Ня можна супроцьстаўляць гэтай формы барацьбы, як ніжэйшай, згуртаваным масавым выступленьням, але ўзмацняючы масавыя выступленьні, накіроўваць стыхійны рух сялянскіх мас у рэчышча арганізаванай рэвалюцыйнай барацьбы за зямлю, за ўладу. Вось гэта наша задача.

Нарэшце, даводзіць, што масавыя выступленьні, як напрыклад забастоўка, зьяўляюцца вышэйшай формай барацьбы «нават тады, калі змагаюцца ўзброеныя дробныя групы, а маса яшчэ ня выступае са зброяй» — значыць паставіць праблему на галаву. Перадусім зробім больш дакладныя азначэньні. Сытуацыя яшчэ не насьпела да паўстаньня. Шырокія масы яшчэ не гатовы выступіць узбройна, але адначасна ўжо вядуць барацьбу забастовачную, антыкамасацыйную, антыпадатковую і гд. У параўнаньні з узброенай барацьбой гэты формы відавочна ніжэйшыя і менавіта дзеля таго адпавядаюць даннаму ўкладу сіл, даннай ступені настрояў шырокіх мас, якія яшчэ не гатовы пайсьці на сьмерць у імя свайго клясавага вызваленьня, хацця яны ўжо гатовы знасіць голад у часе забастоўкі, альбо паняверра ў турмах і т. п. І наадварот: мы не разгортваем наразе ўзброеных баёў таму, што яны зьяўляюцца вышэйшай формаю барацьбы ў параўнаньні да форм, якія адпавядаюць даннаму моманту і даннаму ўкладу сіл. Але менавіта таму. Бо як рэвалюцыйны рух фактычна дойдзе да паўстаньня, г. ё. калі галоўныя на данным этапе формы барацьбы, як забастоўка, дэманстрацыя, антыпадатковая барацьба сялянства і т. п., перарастуць у паўстаньне — тады мы ня толькі ня зможам адмовіцца ад ваенных выступленьняў такіх дробных атрадаў, але наадварот, павінны будзем іх максымальна разгортваць як раз з пункту гледжаньня далейшага разьвіцьця і большага размаху паўстаньня. Такая ўзброеная барацьба параўнаўча дробных атрадў гэта ёсьць уласна партызанская барацьба. Яна зьяўляецца другараднай (і дапаможнай) у дачыненьні да вялікіх баёў у паўстаньні, будучы канечнай складовай часткаю яго, але яна не зьяўляецца ніжэйшаю ад звычайных штодзённых форм барацьбы. Яе можна ўважаць за перадчасную за немэтазгодную ў данным канкрэтным моманце, але не за ніжэйшую.

Элемэнты атакі супроць фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы выступаюць сёньня амаль ва ўсякай буйнай дэманстрацыі, ва ўсякай паважнейшай забастоўцы, глыбокім бурленьні, якое выліваецца ў нязвычайна вострых формах у горадзе і на вёсцы. Калі-б мы не дааценілі гэтага зьявішча, калі-б мы паслабілі арганізаваньне гэтых новых форм барацьбы, мы-б дайшлі да таго, што ўся цалкам ініцыятыва была-б перададзена ў рукі ворага і рэвалюцыйная энэргія мас распылілася-б у распарушаных, не скаардынаваных выбухах дзеля таго асуджаных на паражэньне. Возьмем цяпер іншы прыклад: пэўная партыйная арганізацыя, як гэта было нядаўна ў Любельскай акрузе, адмаўляецца ад удзелу ў дэманстрацыі 1-га жніўня, дабіваючыся ад партыі таго каб пачаць узброеныя выступленьні. Калі-б мы дапусьцілі ў той момант да такіх выступленьняў, яны ня толькі ня мелі-б жад

най сувязі з паўстаньнем, але былі-б самі выразам няверра ў паўстаньне, якое паміж іншым на данным этапе насьпявае ў форме арганізаваных шырокіх масавых дэманстрацый і т. п. Рашучы адпор падобным праявам ураравалюцыйных настрояў, крыклівага радыкалізму, азначаючага фактычнае ўцяканьне ад штодзённай барацьбы і яе галоўных, на данным этапе, форм—гэта ня менш абавязкова, як адпор усякім праявам хвасьцізму і марадэрства. Адна памылка корміць другую; папраўляючы адну памылку, ня можна ўпадаць у другую, як гэта нажаль сталася ў той дэклярацыі ў «Чырвоным Штандары» і ў шэрагу цыркуляраў і дакумэнтаў у КПЗБ. І адна памылка, і другая нічога супольнага ня маюць з рэвалюцыйнай тактыкай. Змагаючыся ў гэтай справе на два фронты, асабліва супроць правых памылак, партыя супроцьставіцца як нэгаваньню, альбо памяншэньню рэвалюцыйнага значэньня цэлага спляценьня завастраючыхся форм масавай барацьбы, так і мэханічнаму стасаваньню камуністамі спэцыфічных форм стыхійнага руху, альбо замене арганізацыі і масавых баёў індывідуальнымі актамі. Гэтае другое зьявішча мае мейсца асабліва ў некаторых арганізацыях, якія працуюць у сялянскіх раёнах Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, дзе сэктанцкая замена масавай антыпадаткавай акцыі індывідуальнымі актамі пачынае загра控жаць звужваньнем масавай падставы рэвалюцыйнага руху.

Няўнікнёнае ў сучаснай сытуацыі завастрэньне форм масавай барацьбы ня мае нічога супольнага з сэктанцтвам, індывідуальным альбо групавым выступленьнем за масы, альбо так зв. буджэньнем мас да барацьбы пры дапамозе адарваных групава-індывідуальных актаў. Без напружанай працы сярод мас, без арганізацыі масавых выступленьняў, без пашырэньня масавай падставы нельга стварыць прадпасылак да пераможнай збройнай барацьбы.

У варунках насьпяваючага рэвалюцыйнага крызысу задача партыі — узьняць рух на вышэйшы зровень, як шляхам пашырэньня яго масавай падставы, так і шляхам паступовага завострываньня форм масавай барацьбы. Адно не адарвана ад другога, адно і другое набліжае нас да кульмінацыйнага пункту барацьбы і ўзброенага паўстаньня рабочых, сялян і салдат.

**„НЕБЯСЬПЕКА ДЫСПРАПОРЦЫІ ПАМІЖ АБ'ЕКТЫЎНАЙ АБСТАНОЎКАЙ І СЛАБАСЬЦЮ ПРАКТЫЧНАЙ І АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ПРАЦЫ КАМПАРТЫЯЎ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА ТЫМ, ШТО РОСТ ФАШЫЗМУ І ПАГРОЗА ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНЫХ ВОЙНАЎ І ВАЕННАЙ ІНТЭРВЭНЦЫІ ПРОЦІ САВЕЦКАГА САЮЗУ РЭЗКА СКАРАЧАЮЦЬ ТЭРМІНЫ, ЯКІЯ МЫ МАЕМ ДЛЯ ПЕРАБУДОВЫ ФОРМ І МЭТАДАЎ НАШАЙ ПРАЦЫ Ў ЗЬВЯЗКУ З НОВЫМІ АБСТАВІНАМІ".** (З прамовы т. Мануільскага на XI пленуме ІККІ).

**Партыец.**

# Вырваць масы з-пад уплыву сацыял-фашызму — найважнейшая задача партыі.

Кіруючая роля нашай партыі ў эканамічнай барацьбе пралетарыяту ў апошняй забастовачнай хвалі на Заходняй Беларусі бязумоўна вырасла. Але разам з тым выявілася і надзвычайная слабасьць партыйных арганізацый па аўладаньню забастовачным рухам. Надзвычайна слаба праводзіцца асноўная дырэктыва партыі — ажыцьцявіць самастойнае кіраўніцтва штодзённай барацьбой мас на падставе адзінага фронту зьнізу, дэмаскоўваючы ў ходзе барацьбы сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх правадыроў і прафбюракратаў. У выніку гэтага сацыял-фашысты ў Беластоку і Горадне, і фашыст Бойка ў Вільні змаглі апанаваць шэраг забастовак дзеля таго, каб у канчатковым ліку іх здрадзіць; у выніку гэтага на паасобных вучастках Зах. Беларусі, напр. у Беластоку і Горадні, сацыял-фашызм узмацніўся. Рэзалюцыя ЦК КПП па справаздачы ЦК КПЗБ у верасьні м-цы гэтага году кажа, што «у шэрагу гарадзкіх арганізацый працягвае існаваць недаацэнка небясьпекі **сацыял-фашызму** і недастатковая барацьба з гэтай небясьпекай. Беластоцкія і Горадзенскія забастоўкі, выбары ў Слонімскі магістрат сьведчаць аб тым, што сацыял-фашызм, які ва ўсіх важнейшых рабочых асяродках Польшчы паступова траціць грунт, яшчэ мае ў важнейшых рабочых асяродках Зах. Беларусі вялікія магчымасьці ашуканчага манэўраваньня адпору з нашага боку. Мейсцамі выяўлены, як у Беластоку, рост сацыял-фашызму».

Сіла сацыял-фашызму ў тым, што ён прыкрыта, часта і адкрыта абапіраецца на ўвесь дзяржаўны фашыстоўскі апарат гвалту. Разам, адзіным фронтам з усей контррэвалюцыяй, сацыял-фашызм змагаецца за капіталістычнае выйсьце з крызысу — за ратаваньне капіталізму. Буржуазная (і сацыял-фашыстоўская) прэса, увесь апарат ашуканства, (клер—ксяндзы, папы, рабіны), усе буржуазныя палітычныя партыі, уключаючы сацыял-фашыстоўскія, ня гледзячы на цярці і канкурэнцыю ўнутры іх, выступаюць адзіным фронтам у барацьбе супроць рэвалюцыйнага руху. Сіла сацыял фашызму, па-другое, у тым, што ён выкарыстоўвае самыя адсталыя традыцыі і забабоны, якія ўносяцца ў рабочую клясу буржуазіяй — буржуазнай ідэолёгіяй: нацыянальныя, цэхавыя, рэлігійныя. Сіла сацыял-фашызму, па-трэцяе, у тым, што ён абапіраецца ўнутры рабочае клясы на некаторыя пласты, якія проста ці пасрэдна падкуплены буржуазіяй. Сацыял-фашыстоўская бюракратыя ў сваёй большасьці складаецца з дробна-буржуазнай інтэлігенцыі і выхадцаў з рабочае клясы, якія здэмаралізаваны праз пануючую клясу і зрасьліся з існуючым ладам.

Гэтая сацыял-фашыстоўская бюракратыя ўмела выкарыстоўвае шляхам сваёй дэмагогіі, пры падтрыманьні ўрадавага тэрару і апарату, усе слабыя бакі асобных пластоў рабочае клясы, усе хістаньні ў рабочай клясе, дзеля таго, каб адвесьці яе ад шляху барацьбы.

У апошні час, пад націскам шпаркага росту рэвалюцыйнага руху, сацыял-фашысты яшчэ больш узмацняюць сваю левую фразу. У апошніх рашэньнях ППСаўскай цэнтральнай камісіі прафсаюзаў паміж іншымі чыста ППСаўскімі патрабаваньнямі, высунуты і такія патрабаваньні, якія ўзяты ў нашай партыі, як напрыклад, патрабаваньне скарачэньня рабочага дню бяз зьніжэньня заработнай платы рабочым і г. д. Для сьвядомага рабочага мэта гэтага сацыял-фашыстоўскага манэўру ясна — усялякімі шляхамі і сродкамі ўтрымаць свой уплыў у масах дзеля таго, каб у патрэбную хвіліну здрадзіць рабочых і абезгаловіць іх барацьбу.

ППС атрымоўвае зараз большую магчымасьць манэўраваць, знаходзячыся на становішчы гэтак званай апазыцыі супроць фашыстоўскага ўраду. Манэўраныя-ж магчымасьці Бунду, як партыі прыгнечанай нацыі, былі заўсёды большымі. Дзеля таго здэмаскаваньне левай фразы Бунду—асабліва важная задача партыі.

Сіла нашай партыі — у росьце ўсіх супярэчнасьцяў капіталізму, у росьце рэвалюцыйных настрояў і актыўнасьці шырокіх працоўных мас. На падставе паглыбляючагася крызысу капіталізму абвастраюцца нязвычайна клясавыя і міждзяржаўныя, нацыянальныя і групавыя супярэчнасьці капіталістычнага грамадства. Развіваецца нездавольства мас, узмацняецца іх рэвалюцыйны настрой, узмацняецца іх актыўнасьць.

Наша сіла, па-другое, у бурным росьце сацыялістычнай гаспадаркі і ў няўхільным палепшаньні становішча рабочых і працоўных мас у СССР. Існаваньне на аднэй шостай насткі сьвету краіны будуючагася сацыялізму, пры ўсё болш паглыбляючымся крызысе капіталізму, узмацняе пераконанасьць пралетарыяту і працоўных мас капіталістычных краін у сваёй барацьбе і перамозе і гэтым самым узмацняе рэвалюцыйныя настроі і сілы шырокіх мас.

Наша сіла, па-трэцьцяе, у росьце рэвалюцыйнга руху сусьветнага пралетарыяту, у росьце нацыянальна-вызваленчага руху сярод прыгнечаных нацыянальнасьцяў і калёній. Такім чынам, аб'ектыўнае развіцьцё падзей — на карысьць рэвалюцыі.

Усе гэтыя аб'ектыўныя магчымасьці патрабуюць узмацненьня суб'ектыўнага фактару рэвалюцыі, г. зн. патрабуюць партыі, шчыльна зьвязанай з масамі і здольнай па-баявому выхаваць масы. Задача арганізацыі сіл пралетарыяту і, пад яго кіраўніцтвам, працоўных мас патрабуе рашучай, умелай барацьбы супроць усіх тых, хто разьбівае сілы рабочае клясы, патрабуе барацьбы супроць фашыстоўскага і сацыял-фашыстоўскага **ўплыву на рабочую клясу. Рост на паасобных вучастках уплыву сацыял-фашызму ніякім чынам нельга тлумачыць аб'ектыўнымі прычынамі. Прычыны гэтага росту трэба перадусім шукаць у нашай уласнай слабасьці, у слабай рабоце нашых партыйных арганізацый.**

Якія-ж гэта галоўныя прычыны, што даюць магчымасьць росту сацыял-фашызму?

1. **Слабасьць кіраўніцтва партыйных арганізацый штодзённай барацьбой мас.** Слабасьць і ў шэрагу месц адсутнасьць кіраўніцтва штодзённай барацьбой мас зьяўляецца галоўнай, рашаючай прычынай узмацненьня сацыял-фашызму. Апошняя забастовачная хваля як ва ўсёй Польшчы, гэтак і на Зах. Беларусі, яскрава паказала, што рабочыя масы ўсё болш і болш усьведамляюць, што адзіным адказам атакам капіталу, адзіным шляхам для палепшаньня свайго становішча зьяўляецца шлях салідарнай барацьбы. Апошнія стачачныя баі ўшчэнт разьбілі тэорыю аб тым, што ў часе крызысу нельга баставаць і пераможна праводзіць забастоўкі. Гэтыя забастоўкі паказалі, як у Беластоку ў тэкстыльшчыкаў, у Горадні ў камунальнікаў, гэтак і ў Вільні ў тартачнікаў, імкненьне рабочых мас знайсьці рэвалюцыйнае кіраўніцтва. Толькі слабая работа па самастойнаму ахопу забастовачнага руху дала магчымасьць сацыял-фашыстам Горадні, Беластоку, фашысту Бойку ў Вільні высунуцца на чале забастовак і здрадзіць іх.

Слабасьць кіраўніцтва штодзённай барацьбой рабочых мас вынікае, па-першае, з слабай сувязі партыйных арганізацый з масамі, няведаньня настрояў мас і працэсаў, што адбываюцца ў масах, у выніку чаго забастоўкі і іншыя формы выступленьняў мас часта зьяўляюцца нечаканымі для партыйных арганізацый (слабая сувязь і часта адсутнасьць ўсялякай сувязі з важнейшымі атрадамі рабочае клясы; слабая сетка партыйных арганізацый—партыйных ячэяк на важнейшых прадпрыемствах; слабая сетка, а ў шэрагу месц поўная адсутнасьць масавых арганізацый, як трансмісій да масаў.

Па-другое, **слабая ініцыятыва партыйных арганізацый і іх няўменьне гуртаваць ўвагу і сілы партыйных арганізацый на самым галоўным,** адначасна не губляючы з віду другараднага: расплывістасьць у рабоце, няўменьне знайсьці на падставе агульных дырэктыў партыі і ўліку мясцовых асаблівасьцяў галоўнае зьвяно, каб з тымі сіламі, якія мы маем, павялічваючы іх у ходзе барацьбы, дасягнуць максымум вынікаў.

2. **Няўменьне арганізаваць адзіны фронт зьнізу,** уцягваць у агульную барацьбу рознымі спосабамі і сродкамі тыя масы, якія яшчэ ідуць за сацыял-фашызмам; няўменьне ахапіць сваім палітычным і арганізацыйным уплывам тыя масы, якія адыходзяць ад сацыял-фашыстаў. Яскравым прыкладам гэтага зьяўляецца Слонім, дзе ў часе выбараў самі масы выступалі супроць ППС і Бунду і зьвярнуліся да нашай партыі. А слонімская арганізацыя засталася пасыўнай. Слабасьць ўсіх партарганізацый, якая затрудняе арганізацыю адзінага фронту зьнізу і заваяваньне тых мас, што ідуць за сацыял-фашызмам і фашызмам — гэта няведаньне таго, што робіцца ў варожых арганізацыях, перадусім у ППС і Бунду, няведаньне настрояў рабочых гэтых арганізацый, няведаньне, у чым канкрэтна выражаецца нездаволенасьць нізавых членаў сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх арганізацый сваімі правадырамі.

3. **Недаацэнка небясьпекі сацыял-фашыз-**

**му і яго манэўраздольнасьці.** З аднаго боку, усё яшчэ ня зжыты апартуністычныя тэндэнцыі зьвяртацца да верхавіны сацыял-фашыстоўскіх прафбюракратаў за дапамогай, а з другога боку, існуе простая недаацэнка манэўраздольнасьці сацыял-фашызму. Так напрыклад, беластоцкія таварышы былі ўпэўнены, што ППС і Бунд, баючыся масавага руху, не адважацца пайсьці на такі крок, як абвяшчэньне ўсеагульнай забастоўкі тэкстыльшчыкаў. Дзеля таго, нас застаюць зьнянацку, і не атрымоўваюць належнага адпору такія «левыя» манэўры сацыял-фашыстаў, як напрыклад, выступленьне ў Слоніме сац. фашыста Махая, які, улічваючы настроі мас, дэмагагічна запэўніваў масы, што ППС абараняе Савецкі Саюз і т. п. Усё гэта вынікае ў першую чаргу з ідэолёгічнай і палітычнай слабасьці як партактыву, гэтак і нізавых зьвеньняў партыі, з слабага ўсваеньня лініі партыі, з неразуменьня і недаацэнкі пераражываемай намі палітычнай сытуацыі, з няверра ў свае ўласныя сілы, у сілы рабочае клясы, з правага і «левага» апартунізму і сацыял-дэмакратычных і бундаўскіх перажыткаў у нашых партыйных арганізацыях.

Вышэй паказаныя прычыны не з аднолькавай сілай дзейнічаюць ва ўсіх арганізацыях; то адна, то другая прычына з большай сілай дзейнічае і паслабляе працу той ці інш. арганізацыі, той ці іншай парт'ячэйкі. Але іх (гэтыя прычыны) нельга аддзяліць адну ад другой, бо кожны з гэтых недахопаў выклікае ў жыцьцё ўсе астатнія, узмацняе і жывіць іх. У выніку мы маем **адставаньне актыўнасьці партыі ад актыўнасьці мас.** Гэтае адставаньне і дае магчымасьць сацыял-фашызму ўзмацніцца на паасобных вучастках, хаця аб,ектыўная сітуацыя разьвіваецца супроць сацыял-фашызму, за рэвалюцыю.

Усё гэта пацьвярджаецца нашай практыкай. Як прыклад возьмем Беластоцкую арганізацыю. Ня гледзячы на неаднакротныя ўказаньні ЦК, Беластоцкая арганізацыя паўтарае амаль тыя-ж самыя памылкі. У мінулым годзе хваля забастовак на тэкстыльных прадпрыемствах прайшла міма нашай партыйнай арганізацыі. Калі фабрыкантам разам з сацыял-фашыстамі ўдалося разьбіць рабочых па частках, калі справа дайшла да лойн - буду дык Беластоцкая арганізацыя сабралася з сіламі і стала на чале барацьбы рабочых лойн-будаў. У гэтым годзе наша арганізацыя ведала, што прадпрыемцы рыхтуюць зьніжэньне заработнай платы ўсіх рабочых тэкстыльшчыкаў. Ня гледзячы на гэта, наша Беластоцкая арганізацыя зноў канцэнтравала ўсе свае сілы на лойн-будах і амаль нічога не рабіла на вялікіх прадпрыемствах. Гэта сьведчыць аб тым, што арганізацыя, у першую чаргу, партыйны камітэт, ішлі па лініі найменшага супраціву: з рабочымі лойн-будаў лягчэй зьвязацца, на іх менш канцэнтраваны сілы і ўвага нашых ворагаў, бо ворагі добра арыентуюцца, што асноўная, рашаючая сіла — гэта фабрыкі. Гэтым мы ня хочам сказаць, што рабочыя лойн-буду ня маюць для нас значэньня. Для партыі кожны рабочы мае значэньне, але канцэнтрацыя сіл партарганізацыі павінна ісьці не па напрамку лойн-буду, а па напрамку буйных прадпрыемстваў. Саміх рабочых лойн-буду, партыйных і беспартыйных, трэба было выкарыстаць для ўзмацненьня сувязі з фабрыкамі.

У справаздачы з Беластоку таварышы кажуць, што яны мала змаглі зрабіць для арганізацыі барацьбы рабочых вялікіх прадпрыемстваў з прычыны адсутнасьці сувязі з імі. Чаму была слабая сувязь? Таму, што Беластоцкая арганізацыя ня здолела за ўвесь час сваёй работы знайсьці гэту сувязь, таму, што яна недаацэньвала работу на вялікіх прадпрыемствах. Партыйны камітэт не мабілізаваў усіх сіл партыі дзеля таго, каб зьвязацца з рабочымі тэкстыльшчыкамі вялікіх прадпрыемстваў. Беластоцкая арганізацыя мае вопыт у гэтых адносінах. У 1921 і 1922 г. г. было менш тэкстыльшчыкаў у арганізацыі, чым зараз. Але калі партыйны камітэт правільнай тактыкай і канцэнтрацыяй усёй волі партыйнай арганізацыі выкарыстаў для ўзмацненьня сувязі і работы сярод тэкстыльнага пралетарыяту ня толькі тэкстыльшчыкаў, але і шаўцоў, краўцоў і г. д., дык у параўнальна кароткі пэрыяд Беластоцкая арганізацыя стала рашаючай сілай сярод тэкстыльшчыкаў. Тады партыйная арганізацыя ўжыла ўсе формы і спосабы, каб знайсьці сувязі з рабочымі тэкстыльшчыкамі, нават абход рабочых кватэр.

У справаздачы з Беластоку чытаем: «Сёньня павінна быць масоўка на Н-ой фабрыцы. Трудна з прамоўцамі. Самаабароны таксама ня маем... **Але-ж без самаабароны нельга ісьці, калі ўнутры на фабрыцы нічога ня маем».** (Падкрэсьлена намі — П.). Дык гэта-ж самы яскравы ўзор таго, як, не ўсьвядоміўшы лініі партыі, скрывіўшы правільную дырэктыву ЦК, можна прыкрыць, нават не заўважаючы гэтага, самы сапраўдны апартунізм і баязьнь мас. Арганізацыя самаабароны на данным этапе — адна з важнейшых задач партыі. Беластоцкая арганізацыя амаль нічога не зрабіла дзеля таго, каб яе стварыць. Чаму нельга было стварыць самаабарону, **хаця-б насьпех наладзіць яе** для гэтай мэты, г. зн. для правядзеньня масовак на Н-ым прадпрыемстве, вы-

карыстаўшы дзеля гэтага ня толькі тэкстыльшчыкаў, але і рабочых не тэкстыльшчыкаў? Чаму нельга было выкарыстаць дзеля гэтага рабочых лойн-буд, якія вельмі добра, пры адпаведным растлумачэньні, зразумелі-б значэньне для сваей барацьбы забастоўкі рабочых вялікіх фабрык? Гэтага справаздача растлумачыць нам ня можа. Але дапусьцім, што ніякім чынам у гэты момант нельга было арганізаваць самаабарону. Чаму-ж без самаабароны (як агульнае правіла) нельга было ісьці на фабрыку. Вось-жа сама справаздача расказвае, што на другой фабрыцы «вельмі добра сустрэлі нашага таварыша». А рабочыя-ж прынялі нашага таварыша добра не таму, што была самаабарона.

У вышэй паказанай справаздачы гаворыцца, што «наш адказны таварыш высунуў думку, што трэба зьвярнуцца да саюзу за дапамогаю ў правядзеньні акцыі», і справаздача прыводзіць аргумент таварыша, чаму гэта патрэбна. «На вуліцу—кажа таварыш—рабочыя не захочуць пайсьці, а непасрэдна на фабрыках мы ня здолеем правесьці гэтую акцыю». Да каго зьвяртацца — да масаў саюзу, ці да прафбюракратаў, Богдана і Фейгіна? Няўжо здрайцы рабочых павінны нам дапамагчы ў правядзеньні акцыі? Вось жа сам таварыш, як відаць, не заўважыў, як гэта прапанова адбівала капітулянскія настроі перад сацыял-фашыстамі ўжо да пачатку барацьбы. Ясна, што такія настроі не павялічылі сілы нашай партыі, і правільна гэтыя настроі раскрытыкаваны ў самой справаздачы. Але таварыш, які пісаў справаздачу, сам не зразумеў, што думка аб звароце да верхавіны часткова зьвязана з яго ўласнай памылкай, з яго сьцьвярджэньнем, што нельга арганізаваць масоўкі без самаабароны. У думцы, што патрэбна зьвярнуцца да верхавіны саюзу, тоіцца неразуменьне контррэвалюцыйнай ролі сацыял-фашыстоўскіх прафбюракратаў. Але агульнае для абедзьвух памылак — тое, што яны ня вераць ні ў свае сілы, ні ў сілы мас. Абедзьве думкі адбівалі настроі Беластоцкай арганізацыі, пры адсутнасьці барацьбы з імі — стварылі ўжо загадзя прадпасылкі для апанаваньня праз сацыял-фашыстаў кіраўніцтва забастоўкаю і, у выніку гэтага, узмацненьня сацыял-фашызму.

Наколькі апартунізм аслабляе нас і вядзе да ўзмацненьня сацыял - фашызму, паказваюць проста скандальныя адносіны да жаночага пралетарыяту, як пралетарыяту другой катэгорыі. У справаздачы гаворыцца: «Была вялікая памылка, якая заключалася ў тым, што на гэтых масоўках былі патрабаваньні толькі для ткачоў, а не для жанчын, матываваныя тым, што на масоўках ня было жанчын, а таму мы ня можам бяз іх высоўваць патрабаваньні... Цікава тое, што ў хлопцаў ёсьць такі настрой: «Калі мы, ткачы, возьмемся, дык і жанчыны працаваць ня будуць». Ставіцца пытаньне, які з гэтых двух аргумэнтаў трэба прыняць у сур'ёз, першы — што трэба выпрацаваць патрабаваньні разам з жанчынамі-работніцамі, ці другі — што ўсё роўна жанчыны будуць прымушаны баставаць, калі забастуюць ткачы. Першы аргумент, калі не ўдавацца ў яго апартуністычны зьмест, дае ўраджаньне вельмі рэвалюцыйнага, які ідзе па лініі актывізацыі жанчын, у той час, калі другі аргумент адкрыта ставіць жанчын - тэкстыльшчыц — па крайняй меры тых жанчын, якія працуюць разам з ткачамі (нюпяркі і г. д.)—як рабочых другой катэгорыі. Мы ўжо вышэй паказалі, як можна правільную ўстаноўку, дадзеную ЦК партыі, скрывіць. Слушна, што патрабаваньні трэба распрацаваць разам з зацікаўленымі ў гэтым рабочымі, што трэба ўцягнуць як мага большыя масы для распрацоўкі гэтых патрабаваньняў, але калі гэтым прыкрываецца зьневажэньне да жанчыны пралетаркі, як да больш «нізкай» катэгорыі пралетарыяту, дык гэта ёсьць самае горшае выяўленьне апартунізму.

Удзельная вага жаночага пралетарыяту ў Беластоцкай тэкстыльнай прамысловасьц вельмі значная. Гэта найбольш эксплёатавана ная частка тэкстыльнага пралетарыяту. **Заваяваньне большасьці Беластоцкага пралетары яту, у першую чаргу і галоўным чынам тэк стыльнага, немагчыма без заваяваньня жан чын.** І ўсякае зьневажаньне і недаацэнка гэ тай работы зьяўляецца цяжкай апартуністыч най памылкай. Патрабаваньні трэба был аформіць для жанчын. Патрэбна было іх спэ цыяльна распрацаваць, трэба было склікаць нараду жанчын тэкстыльшчыц, склікаць жа ночыя масоўкі, абіраць дэлегатак і г. д. і ра зам з імі выпрацаваць патрабаваньні. Жан чына пралетарка, жанчына тэкстыльшчыц павінна была адчуваць і цьвёрда ведаць, шт толькі наша партыя змагаецца **на справе** су проць усялякіх забабонаў, якія маюцца яшч сярод рабочых у дачыненьні да жанчын. Ар ганізацыя павінна была настойліва правесьц растлумачальную работу сярод Беластоцкі рабочых па падтрыманьню патрабаваньня жанчын і стаць на чале барацьбы жаночаг пралетарыяту, а не паддавацца гэтым на строям. Гэта дало-б дадатковыя сілы парты гэта паслабіла-б уплыў сацыял-фашызму.

Аб слабай сувязі з масамі, аб няўмены ўлічваць настроі мас і ўплываць на гэтыя на строі, аб шаблённым, непрадуманным пады

ходзе нашых таварышоў да масаў і няўменьні арганізаваць адзіны фронт барацьбы, сьведчыць другая справаздача з Беластоку. У ёй гаворыцца: «На масоўках пасьля забастоўкі нашыя заявілі рабочым,—забастоўка нам нічога не дала, мы яе прайгралі, бо яна здраджана здраднікам Богданам. На гэта рабочыя адказалі: Гэта ня слушна, забастоўка шмат напалохала фабрыкантаў. Богдан добра трымаўся, але... у канцы ён спалохаўся, бо яму пагражалі турмой». Ясна, што так ацэньваць вынікі забастоўкі нельга было. Бязумоўна, ня мелі рацыі тыя, якія гаварылі: «Забастоўка рабочым нічога не дала». Такая агітацыя, такое агульнае нэгаваньне вынікаў барацьбы мас, якія змагаліся ня гледзячы на здрадніцтва сацыял-фашыстаў, нічога не высьвятляе масам, не адпавядае сапраўднасьці і толькі ўздымае аўтарытэт Богданаў. Не ўмаляць сапраўднага значэньня вынікаў барацьбы, а растлумачваць, што гэтыя вынікі дасягнуты, дзякуючы самаахвярнай барацьбы мас напракі здрадніцтву сацыял - фашыстоўскіх прафбюракратаў.

Дэмаскоўваньне сацыял - фашыстоўскіх прафбюракратаў ня можа ісьці па шаблёну. Нельга дэмаскоўваць сац.-фашыстаў адным паўтарэньнем—Богдан здраднік, Богдан правакатар,—не выкрываючы перад масамі гэтага здрадніцтва на канкрэтных фактах і прыкладах. Трэба прыняць пад увагу і мейсца, і час. Богдан калісь быў сумленным рабочым. Сапраўды змагаўся за інтарэсы рабочых. Богдан стаў здраднікам, рэнэгатам, сацыял-фашыстам. Але тое, што Богдан стаў сацыял-фашыстам, яшчэ не такое вялікае злачынства ў вачох мас, якія яшчэ не ўсьвядомілі шкоднасьці сац.-фшызму. Гэта стане яскравым для іх, калі мы зможам да канца здэмаскаваць сацыял-фашыстаў. Масы, як відаць, прыпісваюць Богдану, што ён здрадзіў таму , бо спалохаўся. Спалохаўся у турме, спалохаўся ў часе забастоўкі. Трэба масам давесьці, што зараз Богдан здраджае інтарэсы рабочых ня толькі за страх, але і «за совесть». Нам трэба давесьці на фактах сувязь паміж Богданам—здрайцам і Богданам—сац. фашыстам. Такі мэтад — мэтад канкрэтнага здэмаскаваньня сацыял-фашыстаў, на мове і форме зразумелай масам, павінен быць ўжыты нашымі арганізацыямі ўсюды.

У выніку шэрагу цяжкіх памылак і недахопаў нашай Беластоцкай партыйнай арганізацыі мы маем факт узмацненьня сацыял-фашызму. Аўтарытэт «інтэрнацыянальнага» саюзу тэкстыльшчыкаў, на чале якога стаяць сацыял-фашыстоўскія нацыяналісты, узьняўся. Наша Беластоцкая арганізацыя слаба ўлічыла імкненьне да інтэрнацыянальнага адзінства, імкненьне, якое зьяўляецца вынікам барацьбы нашай партыі ў Беластоку за сапраўды інтэрнацыянальны саюз. Але, з прычыны слабасьці нашай партыйнай арганізацыі, сацыял - фашысты здолелі скарыстаць імкненьне мас да інтэрнацыянальнага адзінства дзеля таго, каб стаць на чале саюзу, дэмаралізоўваць масы сваім нацыяналізмам. Невыстарчальная барацьба нашай партыі за сапраўднае інтэрнацыянальнае выхаваньне пралетарыяту, невыстарчальнае ўцягваньне рабочых мас у барацьбу супроць нацыянальнага ўціску і акупацыі таксама спрыяла ўзмацненьню сацыял-фашызму.

---

Самастойнае кіраўніцтва штодзённай барацьбой мас рознастайнымі спосабамі і мэтадамі зьяўляецца асноўнай і рашаючай задачай партыі і **асноўным рашаючым сродкам барацьбы з нацыянал - фашызмам за масы.** Без актыўнага кіраўніцтва стачачнай барацьбой рабочых і барацьбой беспрацоўных, рабочыя будуць шукаць кіраўніцтва ў сацыял-фашыстаў, і, як мы бачылі ў Вільні на прыкладзе забастоўкі ў тартачнікаў—нават у фашыстаў. Забясьпечыць правільнае і своечасовае кіраўніцтва штодзённай барацьбой мас можно толькі на падставе правільнай тактыкі і цеснай сувязі з масамі. Першым варункам для цеснай сувязі з масамі зьяўляецца — па магчымасьці дакладна ведаць, што робіцца на прадпрыемствах, сярод беспрацоўных, у маёнтках, сярод салдат, у вёсках, сярод іншых пластоў насельніцтва, ведаць настрой ў масах, што робіцца ва ўсіх варожых партыях, ступень іхняга ўплыву на масы, ведаць арганізацыйныя сілы тых партый, нездавольства іх нізоў, у чым гэта канкрэтна ўсё выяўляецца і г. д. Бяз усяго гэтага немагчыма прыняць правільныя рашэньні, а значыць, і правільна весьці работу, немагчыма выпрацаваць правільную тактыку барацьбы з сацыял-фашызмам і яго правадырамі. Але партыя не зьяўляецца зьбіральнікам вестак: ужо ў ходзе вывучэньня становішча неабходна дзейнічаць, арганізуючы масавую барацьбу на падставе штодзённых патрэб мас. Трэба заўсёды правяраць, як партыя змагла ўплываць на настрой, што зьмянілася ў сувязі з уплываньнем партыі на масы, наскольki партыя сапраўды прасунулася наперад па лініі пашырэньня і ўзмацненьня сувязі з масамі, наколькі вырас аўтарытэт партыі ў масах. На падставе ўліку зьмяніўшагася становішча трэба выпрацаваць плян далейшых акцый ці ўнесьці адпаведныя зьмены ў стары плян

Ведаць, што робіцца ў масах, можна толь-

кі чула прыслухоўваючыся да таго, што адбываецца ў іх і што робіцца ў варожым лягэры, як ўсьведамляюцца нашыя лёзунгі масамі,—рознымі масамі, як адсталымі, гэта і больш перадавымі. Трэба арганізаваць шырокую інфармацыйную сетку. Гэта трэба рабіць рознымі спосабамі і сродкамі — праз сымпатыкаў, праз камсамольцаў і піянэраў, шляхам гутарак з рабочымі і сялянамі і г. д.

Каб шчыльней зьвязацца з масамі і лепш кіраваць барацьбой мас, трэба пашырыць сетку партыйных і камсамольскіх ячэяк, абапірацца непасрэдна на прадпрыемствы, а таксама знайсьці сувязі па мейсцу пражываньня рабочых, калі з прычыны доўгага беспрацоўя рабочыя адарваліся ад прадпрыемства.

Для гэтай жа мэты трэба дапамагаць і самім арганізоўваць шырокую сетку беспартыйных арганізацый, легальных і існуючых явачным парадкам, стварыць шырокую сетку органаў барацьбы мас. Трэба дапамагаць і самім арганізаваць апазыцыю ўнутры сацыял-фашыстоўскіх ці фашыстоўскіх арганізацый і арганізацыйна ахапіць рознастайнымі формамі і спосабамі ўсе масы, якія ўходзяць ад сацыял-фашызму і фашызму. Ва ўсіх масавых арганізацыях трэба стварыць і ўзмацніць камфракцыі рознымі спосабамі, як пасылаючы ў гэтыя арганізацыі членаў партыі, гэтак і завярбоўваючы там новых членаў партыі. Адна з важнейшых задач—арганізаваць і пашырыць сетку масавых дружын самаабароны.

Рашаючае значэньне і для ажыцьцяўленьня самастойнага кіраўніцтва штодзённай барацьбой мас, і для пасьпяховай барацьбы супроць сацыял-фашызму, мае тактыка **адзінага фронту зьнізу, — арганізацыя адзінага фронту барацьбы найшырэйшых мас.** Для арганізацыі адзінага фронту, для ўцягваньня мас, якія ідуць за сацыял-фашызмам, у агульную барацьбу,—трэба ўжыць розныя мэтады і сродкі: арганізацыя мясцовых органаў барацьбы мас, выпрацоўка непасрэдна з нізамі—з масамі—патрабаваньняў, супольныя нарады па канкрэтных пытаньнях, гутаркі на актуальныя тэмы дня з рабочымі, асабліва з тымі, якія ідуць за сацыял - фашыстамі, гутаркі і дыскусіі па прынцыповых пытаньнях (аб шляхох выйсьця з крызысу, аб СССР, аб польскай акупацыі, аб нацыянальным уціску, аб супольнай барацьбе з сялянствам супроць абшарніка, кулака, супроць фашыстоўскай дыктатуры і г. д. і т. п.) і розныя іншыя формы і мэтады, якія даюць магчымасьць **наблізіць гэтыя масы да нас і пераканаць іх у тым, што ёсьць толькі адзін шлях для нашага вызваленьня—шлях барацьбы,—што ёсьць толькі адна партыя, якая сапраўды абараняе інтарэсы шырокіх мас і кіруе іх барацьбой—гэта Камуністычная Партыя.**

Барацьба за большасьць рабочае клясы, барацьба з сацыял-фашызмам за масы на падставе самастойнага кіраўніцтва штодзённай барацьбой мас, на падставе ўжываньня тактыкі адзінага фронту зьнізу і арганізацыі адзінага фронту барацьбы мас, — патрабуе ад партыі, ад усіх партыйных арганізацый надзвычайна ўмелага канкрэтнага дэмаскоўваньня сацыял-фашызму. У гэтай справе асабліва нельга кіравацца шаблёнамі. Трэба заўсёды ўлічыць абставіны, настроі мас і г. д. дзеля таго, каб нашае здэмаскаваньне сацыял - фашыстоўскіх і фашыстоўскіх правадыроў і прафбюракратаў было ўспрынята і ўсьведамлена масамі. Дэмаскоўваючы контррэвалюцыйную дзейнасьць сацыял-фашызму і яго контррэвалюцыйныя лёзунгі, трэба з ўсёй сілай і энергіяй дэмаскоўваць яго левыя манэўры.

Калі сацыял-фашызм, улічваючы рэвалюцыйныя настроі мас і папулярнасьць сярод іх нашых лёзунгаў, высоўвае і такія патрабаваньні, якія папулярны ў масах і сапраўды адказваюць патрабаваньням мас і патрабаваньням барацьбы мас,—тады наша партыя не выступае супроць гэтых патрабаваньняў, а наадварот—арганізуе адзіны фронт барацьбы зьнізу на падставе гэтых патрабаваньняў. Партыя дэмаскуе сацыял-фашызм менавіта на падставе гэтых патрабаваньняў, заклікаючы масы да адзінага фронту барацьбы. Партыя на фактах паказвае масам на зразумелай для іх мове, якая мэта ў сацыял-фашыстаў, ужываючых левую фразу. Партыя на фактах паказвае масам, што сацыял-фашысты толькі балбочуць аб гэтых патрабаваньнях і лёзунгах, **а на справе яны, як і ўвесь 2-гі і Амстэрдамскі Інтэрнацыянал, здраджаюць інтарэсы рабочых, калі прыходзіцца сапраўды змагацца за выстаўленьня імі самімі дамаганьні, яны здраджаюць барацьбу мас.** Партыя павінна, высоўваючы і падтрымліваючы папулярныя ў масах дамаганьні, якія разьвіваюць клясавую барацьбу пралетарыяту, стаць на чале гэтае барацьбы і не дапусьціць сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх прафбюракратаў да кіраўніцтва ёю.

Рабочыя масы неаднокраць падтрымліваюць тых ці іншых сацыял-фашыстоўскіх правадыроў і прафбюракратаў, таму што лічаць іх спрактыкаванымі людзьмі, якія ўмеюць гаварыць з прадпрыемцамі і г. д. Партыя павінна заўсёды на фактах на зразумелай для рабочых мове на падставе канкрэтных фактаў указваць масам, што азначае гэтае «уменьне»,

што гэта—ўменьне ашукаць рабочых і хітра прыкрыць гэтае ашуканства, што гэта — уменьне здрадзіць інтарэсы мас. Калі няма пры выбарах органаў барацьбы мас досыць рэвалюцыйных актыўных рабочых, добра вядомых масам, дык трэба супроцьпаставіць гэтым сацыял-фашыстоўскім і фашыстоўскім прафбюракратам сумленных, актыўных шэраговых рабочых. Трэба адначасна змагацца супроць закулісных шахрайстваў з прадпрыемцамі і прадстаўнікамі ўлады, трэба змагацца за справаздачнасьць усіх органаў барацьбы перад шырокімі масамі.

Партыйныя арганізацыі справяцца з кіраўніцтвам барацьбой мас, арганізацыяй адзінага фронту барацьбы і здэмаскаваньнем сацыял-фашызму, калі ўзмоцняць ідэалёгічна і палітычна партыйныя шэрагі. Умелая—у першую чаргу на падставе самакрытыкі—барацьба супроць правага і «левага» апартунізму, супроць сацыял - дэмакратычных, бундаўскіх перажыткаў у нашай партыі узмоцніць партыю у яе барацьбе супроць сацыял-фашызму, узмоцніць яе барацьбу за масы, якія ідуць за сацыял-фашызмам.

Для правільнай барацьбы на ўсіх фронтах трэба ведаць лінію партыі, і таму партыйныя арганізацыі павінны безадкладна пачаць прапрацоўваць рашэньні V пленуму ЦК КПЗБ і III пленуму ЦК КПП і ўсіх асноўных рашэньняў партыі пасьля гэтых пленумаў, бо толькі шляхам усведамленьня лініі партыі, не фармальна, а па сутнасьці, шляхам усьведамленьня падставовых установак цэнтральных кіруючых органаў партыі магчыма ўзьняць ідэолёгічны і палітычны ўзровень як партактыву, гэтак і нізавых зьвеньняў партыі. Гэтыя рашэньні павінны быць даведзены да кожнага партыйца, камсамольца і рэвалюцыйнага актывіста. Усведаміць рашэньні цэнтральных органаў партыі—значыць ня толькі прачытаць іх, але і ўжываць іх у сваёй практычнай штодзённай рабоце. Бо толькі такім шляхам кожны член партыі зразумее агульную сувязь паміж перажываемым момантам, агульнымі задачамі партыі і задачамі, якія стаяць перад намі на яго вучастку работы. Толькі на гэтай падставе кожны член партыі зразумее, чаму партыя на данным этапе лічыць сацыял-фашызм небясьпечным ворагам у барацьбе за масы, чаму без барацьбы з сацыял-фашызмам, без вырываньня з-пад сацыял-фашызму масавай базы, без адзінага фронту з нізамі і рашучай барацьбы з верхамі сацыял-фашызму, без самастойнага кіраўніцтва барацьбой мас, ня можа быць і гутаркі аб заваяваньні рашаючай большасьці рабочае клясы. Толькі на гэтай падставе — на падставе спалучэньня правільна ўсьведамленай лініі партыі з сваёй практычнай працай, кожны партыец зможа з посьпехам змагацца супроць усялякіх выяўленьняў апартунізму, супроць нацыянальнай абмежаванасьці ўнутры партыі. Толькі на гэтай падставе мы здолеем стварыць моцныя, зьнітованыя і актыўныя партарганізацыі, інтэрнацыянальныя па свайму складу і выхаваньню, па бальшавіцку вытрыманыя. Такія арганізацыі з посьпехам здолеюць стаць на чале барацьбы мас і вырваць з-пад уплыву сацыял - фашызму тыя масы, якія ідуць за імі, каб гэтым шляхам выканаць асноўную задачу: заваяваць большасьць рабочае клясы і пад яе кіраўніцтвам большасьць працоўных мас для барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры і супроць фашыстоўскай акупацыі Зах. Беларусі.

Каб сапраўды справіцца з тымі заданямі, якія стаяць перад усёй партыяй і перад кожнай партыйнай арганізацыяй у паасобку, трэба заўсёды гуртаваць сваю ўвагу і сілы на галоўнае рашаючае месца, на асноўнае зьвяно, з дапамогаю якога можна лягчэй уплываць на разьвіцьцё барацьбы ўсей астатняй масы. У Беластоку гэтым асноўным зьвяном будзе — заваяваньне вялікіх тэкстыльных прадпрыемстваў, стварэньне і ўзмацненьне апазыцыі ў тэкстыльным саюзе, заваяваньне чыгуначнікаў. Гуртуючы ўвагу і сілы на галоўным, на асноўным, партыйныя арганізацыі не павінны згубіць з віду «другарадныя» вучасткі барацьбы. **Партыя павінна быць заўсёды там, дзе насьпявае барацьба.**

Посьпехі барацьбы з сацыял - фашызмам залежаць ад таго, як хутка партыйныя арганізацыі зьнішчаць свае недахопы на падставе правядзеньня ў жыцьцё вышэй паказаных задач. Правядзеньне гэтых задач у першую чаргу залежыць ад таго, наколькі партыйныя і камсамольскія арганізацыі пакажуць сапраўды бальшавіцкую ініцыятыву, наколькі яны, усьведамляючы лінію партыі, асноўныя ўстаноўкі, дырэктывы і задачы партыі, здолеюць **самастойна,** не чакаючы дырэктыў з гары, па бальшавіцку рэагаваць на кожнае зьявішча іх вучастку работы. На гэтай падставе ўзмацненьня бальшавіцкай ініцыятывы і самакрытыкі будзе вылучан здаровы шырокі мясцовы актыў, які пад кіраўніцтвам ЦК КПЗБ і ЦК КПП, аб'ядноючых і кіруючых усей барацьбой пралетарыяту і працоўных Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, павядзе шырокія масы на барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры, супроць фашыстоўскай акупацыі, за Савецкую Польшчу, за права прыгнечаных у Польшчы нацый на самавызначэньне аж да аддзяленьня ад яе.

**І. Сьпіс.**

# Яшчэ аб навароце ў нацыянальна-вызваленчым руху.

Пастановы III пленуму ЦК КПП і V пленуму ЦК КПЗБ вымагаюць ад партыі станоўчага павароту ў яе дзейнасьці ў галіне нацыянальна-вызваленчага руху. Прайшло некалькі месяцаў пасьля вынясеньня гэтых пастановаў. Але дагэтуль няма якіх-кольвек прызнакаў, што гэтыя пастановы істотна ўсьведамлены партыйнай арганізацыяй і што яны праводзяцца ў жыцьцё.

Адзіным бадай дагэтуль водгукам на гэтыя пастановы сярод партыйнага актыву зьяўляецца артыкул, прысланы нам т. Марцінам Выжынам, пад назваю «Зьмена нацыянальнага лёзунгу». Тав. Выжын, пішучы свой артыкул, яшчэ ня ведаў тэксту пастановаў пленумаў. Ён апіраўся толькі на вуснай інфармацыі, як відаць, вельмі не дакладнай. З гэтай інфармацыі тав. Выжын зрабіў **памылковы** вывад, што паварот вядзе да зьмены лёзунгу. Супроць гэтак уразумелага павароту т. Выжын пратэстуе з усёй энэргіяй.

Артыкул тав. В. заключае ў сабе погляды, цэлую **сыстэму поглядаў,** крыкліва памылковых і бязумоўна досыць шырока распаўсюджаных у партыі. Існаваньне такіх поглядаў зьяўляецца найлепшым неабвяргальным абгрунтаваньнем неабходнасьці **павароту.** Яны павінны быць скрытыкаваны, пераможаны і рашуча адкінуты партыяй, дзеля таго, каб яна змагла выканаць свае задачы ў галіне нацыянальна-вызваленчага руху.

## 1. «ВЫРАШЭНЬНЕ» ПРЫНЯТАЕ АДНАДУШНА.

Тав. Выжын засьцерагае партыю, што «мы занадта далёка гістарычна зайшлі, каб цяпер мяняць нацыянальную палітыку і адступаць...»

Паварот, як гэта мы пакажам, не зьяўляецца зьменаю нашай нацыянальнай палітыкі. Паварот павінен заключацца ў тым, каб мы нашу бальшавіцкую нацыянальную палітыку навучыліся лепей разумець і лепей ужываць.

Для тав. Выж. (і напэўна ня толькі для яго аднаго ў партыі) нацыянальная палітыка — гэта зусім простая рэч. Трэба толькі мець гатовае **разьвязаньне нацыянальнага пытаньня.** Тав. Выж. так фармулюе гэтае разьвязаньне: «самавызначэньне народаў аж да аддзяленьня, а ў даных гістарычных, геаграфічных, сацыяльных і палітычных варунках таксама аб'яднаньне ЗБ з БССР». Гэткае разьвязваньне мы прапануем масам. Масы прыймаюць аднагалосна і з энтузіязмам і самавызначэньне аж да аддзяленьня і «таксама» аб'яднаньне з БССР. Асабліва гэтае апошняе і менавіта аднагалосна. Бо тав. Выж. заяўляе, што «для працоўных мас усіх нацыянальнасьцяў ЗБ... найбольш пераканальна гэта лёзунг аб аб'яднаньні з БССР. Што да беларускіх рабочых і сялян, дык ясна, як дзень: «для нашай партыі, для працоўных мас ЗБ, для **кожнага беларускага рабочага і селяніна** (падкрэсьлена І. С.) — запэўняе тав. Выж. — БССР зьяўляецца радзімаю..., зьяўляецца асноўным карэньнем, ад якога шляхам гвалту была здаравана жывая частка — ЗБ». **Кожны** беларускі рабочы і селянін — калі верыць тав. Выжыну — адносіцца да БССР зусім таксама, як наша партыя. «Для **кожнага** беларускага селяніна — паўтарае з перакананьнем тав. Выж. — найлепшым крытэрыем таго, што данны прамоўца мае на ўвазе сапраўдную рэвалюцыйную барацьбу... зьяўляецца тое, ці дамагаецца ён у сваёй прамове аб'яднаньня ЗБ з БССР». А іншыя нацыянальнасьці? «І якое наогул значэньне — пытаецца тав. Выж. — мае для справы аб'яднаньня ЗБ з БССР факт пражываньня цэлага шэрагу іншых меншасьцяў на абшары ЗБ?» І ён адказвае: ніякага значэньня. Бо: «ці польскія, яўрэйскія, літоўскія рабочыя і сяляне... будуць у чым-небудзь пярэчыць супроць аб'яднаньня ЗБ з БССР? Ці можа не беларускі рабочы альбо селянін мець што-небудзь супроць таго, каб беларускія сяляне і рабочыя, прыгнечаныя іх супольным ворагом — польскім імпэрыялізмам — злучыліся з сваёй радзімаю, БССР?»

Падсумоўваючы цьвярджэньні тав. Выж., мы атрымаем наступны вобраз:

1-е. Пастаўленая кангрэсамі Камінтэрну і зьездамі нашай партыі задача **заваяваньня большасьці рабочае клясы** на ЗБ вырашана на сто процантаў. Бо ў справе, якая ёсьць, як кажа тав. Выж., «крытэрыем сапраўднай рэва-

люцыйнай барацьбы», у справе «дамаганьня» аб'яднаньня ЗБ з БССР партыя мае ўжо за сабою «кожнага» беларускага рабочага.

2-е. Заваяваньне беларускіх сялянскіх мас—паводле таго-ж самага крытэрыя—ужо вырашана і таксама на сто процантаў. Гэта датычыць ня толькі сялянскай беднаты, але «сялян» увогуле. «Кожны» селянін адчувае цалкам і без агаворак, што ў яго разам з Камуністычнай Партыяй маецца агульная «радзіма», БССР.

3-е. Польскія, яўрэйскія і літоўскія рабочыя і сяляне аднадушна, пры воплесках, падтрымліваюць «рэалізацыю гэтага аб'яднаньня» (з БССР). ППС і гаспадарчыя саюзы, Стронiцтва Людове, Бунд, Таварыства сьв. Казіміра і ўсякіх інщых сьвятых ужо цалкам здэмаскаваны, разьбіты і пахаваны.

Такім чынам цьвярджэньне тав. Выж. прыводзіць да вывадаў яўна недарэчных і няправільных. Гэта выдае ў іх нейкую грубую памылку, якую мы пастараемся выявіць.

Паводле тав. Выж., мы маем ужо цалкам рэалізаваны рэвалюцыйны блёк працоўных мас усіх нацыянальнасьцяў ЗБ супроць польскага імпэрыялізму на плятформе аб'яднаньня ЗБ з БССР. Нічога дзіўнага, што ўсякае далейшае пашырэньне «сацыяльнай базы» нацыянальна-вызваленчага руху можа мець, па перакананьні тав. Выж., толькі адну мэту: «нагату лёзунгу і пазыцыі (партыі) пакрыць фігавым лісточкам дабрачыннага раўнаньня па лініі інтарэсаў буржуазіі і дробнай буржуазіі» (літаральна!). У дадатак, як лічыць тав. В., інтарэсы беларускай буржуазіі стаяць вельмі дрэнна, а само яе існаваньне стаіць пад знакам запытаньня. «Было-б недапушчальнай памылкаю — піша тав. В., — нэгаваць існаваньне на ЗБ радзімай буржуазіі». Тав. Выж. ня хоча ўпасьць у грубую правую памылку, асуджаную партыяй. Дзеля таго ён нэгуе. «Яна існуе — прызнаецца ён ласкава — але... але яна такая ніклая, што **свайго ўплыву на бег падзеяў у ЗБ ня можа зрабіць**» (падкрэсьлена І. С.). А прытым і тое беспарадная дзіцянё гэта менавіта не сапраўдная буржуазія, а толькі імітацыя. «Бо ўжо-ж усе гэтыя цэнтрасаюзы, хадэцыя і т. п., гэта пераважна кулацкія партыі, але не партыі гарадзкой буржуазіі. Тое самае датычыць беларускай інтэлігенцыі. Якую інтэлігенцыю мае ЗБ, апрача Луцкевіча, Астроўскага, Каўшы і яшчэ пары іншых?» Той тэзіс, што кулак—гэта нявінная і нешкодлівая адмена буржуазіі, якая можа нават «урастаць у сацыялізм», быў прадстаўлены ў ВКП(б) цяпер ужо разьбітай, але ва ўсякім разе не зьліквідаванай правай апазыцыяй. Гэтая адмена буржуазіі аказвала ў СССР (і БССР) значны эканамічны і палітычны ўплыў яшчэ пасьля 10 год дыктатуры пралетарыяту. Тым ня менш кулацтва на ЗБ, дзе яно мае эканамічную падставу ў варунках недаразьвітага капіталізму, сплеценага з моцнымі фэадальнымі перажыткамі, дзе кулацтва знаходзіць палітычную апору ў польскім фашызьме і імпэрыялізьме, гэтая адмена буржуазіі — запэўняе тав. В. — цалкам бясьсільная.

Тут тав. Выж. ізноў даходзіць да яўна-недарэчных вывадаў, да яўна памылковай ацэнкі існуючых адносін. Тав. В. разумее так, нібы кулацтва на ЗБ было ўжо цалкам ізалявана ад падставовай масы працоўнага сялянства, нібы значная частка гэтай масы — серадняцтва — была пластом, вольным ад усялякіх ваганьняў і ўжо поўнасьцю заваёваным для рэвалюцыі.

Але ці тав. В. прымірэнцкі настроен да беларускай буржуазіі? Вось-жа ён абвінавачвае ЦК партыі ў прымірэнцтве і горш чым у прымірэнцтве ў дачыненьні да Луцкевічаў і Астроўскіх. Бо разважаючы, дзеля чаго ЦК хоча нейкіх паваротаў у нашай працы ў нацыянальна-вызваленчым руху, дзе ўсё так яскрава проста, ясна і вырашана, ён знаходзіць толькі адно растлумачэньне: ЦК настаўляе партыю на «раўнаньне па лініі інтарэсаў буржуазіі і дробнай буржуазіі на ЗБ». Страшэннае адкрыцьцё! Тав. В. павінен быў голасна крыкнуць на ўсю партыю: здрада! але ён парашыў відавочна перад гэтым зрабіць спробы пераканаць ЦК, што так... няма сэнсу. Менавіта з гэтай мэтай тав. Выж. даводзіць, што беларуская буржуазія гэта нязначная вялічына, з якой ня варта пецкацца. «Ці-ж яны разам узятыя (Луцкевічы, Астроўскія і т. п.) могуць быць прызнаны за пласт вялікай сацыяльнай вагі, **спагады каторага мы павінны дабівацца, хаця-ж-бы коштам зьмены нашай палітыкі?**»

Значыцца: калі-б беларуская буржуазія была моцная і мела ўплывы, т. Выж. уважаўбы **правільным** «дабівацца яе спагады» і «раўнацца па лініі яе інтарэсаў».

Ацэньваючы памылкі тав. В., як яны таго заслугоўваюць, яму трэба залічыць, як абцяжраваючую акалічнасьць яшчэ тое, што ён відавочна меў тую магчымасьць, якой большасьць таварышоў у варунках падпольля ня мае, гэта—азнаеміцца з ленінізмам непасрэдна па яго творах. Ва ўсякім разе яму знаёмы творы Леніна па нацыянальнаму пытаньню, бо ён іх цытуе двукротна ў сваім артыкуле. Нажаль, без зразуменьня, ні к сялу, ні к гораду.

Першую частку цытат тав. Выж. вырваў з адказу Леніна на закід Розы Люксэмбург, што лёзунг самавызначэньня ня мае ў сабе «нічога практычнага». Ленін адкідвае гэты папрок, па-

казваючы на тое, што лёзунг самавызначэньня выражае прынцыповую палітыку пралетарыята ў нацыянальным пытаньні, і падкрэсьліваючы **нэгатыўны** характар гэтага лёзунгу. Такім чынам Ленін уважае лёзунг самавызначэньня аж да аддзяленьня менавіта, як лёзунг **нэгатыўны**, накіраваны **супроць** насільства аднаго народу над другім, супроць гвалтаў, акупацый і анэксій, за адпаведны і найлепшы выраз нацыянальнай палітыкі пралетарыяту. Тав. Выж. з гэтым **не згаджаецца.** Бо тав. В. уважае, што лёзунг гэты павінен быць абавязкова дапоўнены **пазытыўным** лёзунгам «аб'яднаньня з БССР», у іншым выпадку гэты лёзунг зьяўляецца... «крокам назад і аб'ектыўна рэакцыйным» (бо так адважваецца тав. Выж. кваліфікаваць пастановы пленуму). Такім чынам можна было лічыць, што тав. Выж. цытуе Леніна дзеля таго, каб прывесьці ўсякія магчымыя для абгаварэньня аргумэнты ў абарону сваёй пазыцыі, супроць пазыцыі Леніна, супроць такога зацьвярджанага пленумам прынцыповага тлумачэньня лёзунгу, якое яму надаў Ленін. Але тав. Выж. не дзеля таго цытуе Леніна. Думка, якая заключаецца ў гэтых цытатах, яго зусім не цікавіць. Ён апэруе прасьцей: пастановы ЦК — кажа ён — відавочна маюць на ўвазе «практычную мэту, а менавіта пашырэньне сацыяльнай базы нацыянальна-вызваленчай барацьбы на ЗБ». Але Ленін вось ужо 17 год таму назад асудзіў «практыцызм». Значыць, рашэньні пленуму ня слушныя.

А вось другая цытата тав. В. з Леніну:

«Сацыялістычная рэвалюцыя ў Эўропе **ня можа быць** нічым іншым, як выбухам масавай барацьбы ўсіх і ўсялякіх прыгнечаных і нездаволеных. Часткі дробнай буржуазіі і адсталых рабочых прымуць у ёй бязумоўна ўдзел — без такога ўдзелу **не** магчыма масавая барацьба, немагчыма **ніякая** рэвалюцыя — і таксама бязумоўна будуць яны ўносіць у рух свае перажыткі, свае рэакцыйныя фантазіі, свае слабасьці і хібы. Але аб'ектыўна яны будуць атакоўваць **капітал,** і сьвядомы авангард рэвалюцыі, перадавы пралетарыят, — выражаючы гэтую аб'ектыўную праўду рознароднай і рознагалосай, пёстрай і на выгляд раздробленай масавай барацьбы, — будзе магчы яе аб'яднаць і надаць ёй кірунак, заваяваць уладу, захапіць банкі, экспрапрыяваць зьненавіджанае ўсім (хоць па розных поводах) трэсты і ажыцьцявіць іншыя дыктатарскія загады, якія ў суме даюць зваленьне буржуазіі і перамогу сацыялізму, перамогу, якая ва ўсякім разе не адразу будзе «ачышчана» ад дробнабуржуазнага асадку». (Падкрэсьленьні Леніна).

Калі тав. В. спыніўся-бы над зьместам гэтага ўступу, дык як-жа сьмешнымі павінны былі-бы яму здацца яго фантазіі аб працоўных масах «усіх нацыянальнасьцяў» ЗБ, якія стаяць аж да апошняга рабочага і селяніна на пазыцыі «аб'яднаньня з БССР», а значыцца на пазыцыі савецкай улады, дыктатуры пралетарыяту і непахіснай міжнароднай пралетарскай салідарнасьці! Ён зразумеў-бы, што і на ЗБ рэвалюцыя ня будзе ідыліяй, але цяжкай барацьбой мас і нашай барацьбой разам з масамі, на чале мас і **за масы.** Сьвядомыя сканцэнтраваныя імкненьні яднаньня і кіраваньня «рознароднай, рознагалосай, пёстрай і на выгляд раздробленай масавай барацьбой» — гэта зьмест нашай партыйнай працы сёньня, гэты зьмест будзе і на працягу рэвалюцыі і доўга пасьля пераможнай рэвалюцыі. Толькі тады, паступова, пад кіраўніцтвам пераможнага пралетарыяту і ў школе яго сацыялістычнага будаўніцтва, масы гэтыя стануць менш рознароднымі сацыяльна і больш адзінымі ў сваіх імкненьнях. Тав. Выж. пераскаквае ў выбражэньні праз цэлую гістарычную эпоху і адварочваецца ад задач сучаснага пэрыяду. Дзеля таго, прыведзеныя ім словы Леніна, насунулі яму вось такую «залатую думку»: «але ці павінны мы гэтыя рэакцыйныя фантазіі, гэтыя слабасьці і памылкі дробнай буржуазіі ўзмацняць шляхам сьвядомага правядзеньня рэакцыйных пастаноў?»

З такой ацэнкай, абгортваючай яго рэчаістасьць, і з такім наборам аргумэнтаў бароніць тав. В. формулу «самавызначэньня і аб'яднаньня з БССР». Моцна падазроная абарона, якая досыць сьведчыць аб тым, штоададак «аб аб'яднаньні» да лёзунгу самавызначэньня стаў заслонаю, за якою гнезьдзяцца ў нашай партыі погляды адначасна спрошчаныя і блытаныя, адначасна сэктанцкі цесныя і адкрытыя для крайняга апартунізму. Калі-б кіраўніцтва партыі не ўдарыла на алярм, наша нацыянальная палітыка была-б нарэшце даведзена да прапаганды аб'яднаньня з БССР, наша роля ў нацыянальна-вызваленчым руху — да камуністычнага **муштраваньня** невялікай колькасьці хілых пляцовак у духу штодзённага дэкляраваньня «аб'яднаньня», наш ленінскі лёзунг самавызначэньне — да сухой формулы бяз зьместу.

У чым заключаецца падставовая памылка тав. В.?

## 2. ПАМЫЛКА АДАРВАНАГА ПРАПАГАНДЫЗМУ.

Разуменьне рэвалюцыйнага значэньня лёзунгу самавызначэньня аж да аддзяленьня і ўменьне пасьпяхова выкарыстоўваць гэты лё-

зунг — гэта трудныя рэчы. Гэты лёзунг знаходзіцца ў праграме партыі бальшавікоў ад 1903 году. Але яшчэ 16 гадамі пазьней і праз 2 гады пасьля заваяваньня ўлады Ленін змушан быў **абараняць** гэты лёзунг. Абараняючы яго на VIII зьезьдзе партыі супроць Пятакова і інш., Ленін так характарызаваў пазыцыю Пятакова: «Сэнс яго прамовы быў вось які: дзеля чаго ўсе гэтыя самавызначэньні, калі ў Маскве маецца дасканалы ЦК? — Гэта ёсьць дзіцячы пункт гледжаньня». Падобная характарыстыка пасуе да вывадаў тав. В. Сэнс іх вось які: «Дзеля чаго ўсе гэтыя самавызначэньні, калі мы маем БССР і дасканалы Саўнаркам у Менску?» Вось такі «дзіцячы пункт гледжаньня» прычыніў ужо партыі цяжкія шкоды і, калі-б мы яго надалей цярпелі ў сучасным пэрыядзе насьпяваньня рэвалюцыйнага крызысу, ён мог бы нам яшчэ даражэй каштаваць у будучым. Пра гэтую небясьпеку сьцвердзіла падрабязная дыскусія па гэтым пытаньні на V пленуме ЦК КПЗБ і на III пленуме ЦК КПП і гэта жа падцьвярджае яскравым спосабам выступленьне тав. В. У часе дыскусіі, што вялася ў кіруючых партыйных інстанцыях, было паміж іншым канстатавана, што ў значным ліку партыйных выдавецтваў, асабліва КПЗУ, лёзунг самавызначэньня **наогул зьнік,** застаўся толькі лёзунг аб'яднаньня. Гэта азначае ўжо фармальную ліквідацыю лёзунгу самавызначэньня, што паказвае на тое, што **фактычная** яго ліквідацыя ў галовах адказных таварышоў мабыць зрабіла ўжо значныя крокі. У КПЗБ працэс фармальнай ліквідацыі гэтага лёзунгу не зайшоў так далёка як у КПЗУ, але яго, так сказаць, дэградацыя зайшла вельмі далёка, калі з боку адказных таварышоў магчымы такія разважаньні, як вышэй прыведзеныя.

У сувязі з прызнаньнем абавязковасьці павароту ў нашай працы ў нацыянальна-вызваленчым руху, павінна было такім чынам стаць таксама пытаньне аб лёзунгу. Яно было вырашана на карысьць павароту да першапачатковай ленінскай, нэгатыўнай, як гэта падкрэсьліваў Ленін, формулы гэтага лёзунгу: права на самавызначэньне аж да аддзяленьня — бяз жадных дадаткаў.

**«Падставовым нашым лёзунгам** — кажа рашэньне III пленуму ЦК КПП аб «задачах партыі ў нацыянальна - вызваленчым руху», — **мабілізуючы найшырэйшыя народныя масы, зьяўляецца ленінскі лёзунг барацьбы «за права народаў на самавызначэньне аж да аддзяленьня».** Мы павінны растлумачыць масам, што лёзунг самавызначэньня аж да аддзяленьня азначае: а) рашучую барацьбу з польскім імпэрыялізмам супроць акупацыі, за нацыянальнае вызваленьне, б) вольнае і няпрымушанае самавызначэньне народу ўціскаванага ў сваім дзяржаўным існаваньні, в) што правядзеньне гэтага лёзунгу ў жыцьцё, у сёньняшняй сітуацыі, магчыма толькі шляхам супольнае барацьбы прыгнечаных народаў разам з пралетарыятам і працоўным сялянствам усяе Польшчы, пад гегэмоніяй пралетарыяту, пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі, за зваленьне дыктатуры буржуазіі».

«Высоўваючы лёзунг самавызначэньня аж да аддзяленьня, як цэнтральны лёзунг у нацыянальна-вызваленчай барацьбе, наша партыя будзе надалей прапагандаваць і пераконваць масы ў тым, што поўнае сапраўднае нацыянальнае вызваленьне магчыма толькі праз зваленьне дыктатуры буржуазіі, праз перамогу пралетарскай рэвалюцыі і ўстанаўленьне савецкай улады. Наша партыя будзе **прапагандаваць аб'яднаньне Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі з УССР і БССР».**

Такім чынам партыя не выракаецца ані ад імкненьня да аб'яднаньня ЗБ з БССР, ані ад **прапаганды** ў гэтым духу. Але партыя не ўвязвае гэтай прапаганды неразрыўна, як было дагэтуль, з лёзунгам самавызначэньня. Тав. В. ня можа гэтага ўразумець. Ён заўважае тут супярэчнасьць, ня шчырасьць і яшчэ горшыя рэчы. Гэта вынікае з таго, што ён ўяўляе сабе **ўсю дзейнасьць партыі, як прапаганду** і па-за прапагандаю ня бачыць ніякіх ані задач, ані праблем. **Паварот-жа** павінен уласна заключацца паміж іншым таксама ў тым, каб, захоўваючы за прапагандаю належнае ёй мейсца ў нашай працы, вынішчыць у партыйнай практыцы наогул, а ў нацыянальным пытаньні ў асаблівасьці, адарваны **прапагандызм,** як **сыстэму поглядаў і сыстэму працы.**

Нядосыць таго, што партыя мае ў сваёй праграме разьвязаньне і прапагандуе гэтае разьвязаньне. Усе тыя рабочыя, працоўныя сяляне і г. д., якія без агаворак прызнаюць усе разьвязаньні, на якія паказвае наша партыя, і хочуць за іх змагацца, павінны знаходзіцца ў найбліжэйшай сувязі з партыяй, **на шляху да партыі** альбо ўжо ў партыі, у яе ячэйках і фракцыях. Але ў адносінах паміж авангардам — партыяй і яе ўласнай **клясаю** — пралетарыятам, а тым больш іншымі працоўнымі клясамі, нельга правесьці, як гэта выглядае ў т. В., знаку роўнасьці. («Наша партыя, працоўныя масы, кожны рабочы і селянін» — вымаўляе адным духам тав. В.). Партыя — авангард — павінна ўсімі сваімі карэнь-

нямі зрасьціся з сваёю клясаю. Але «розьніца паміж перадавым атрадам і астатняй масаю рабочае клясы... ня можа зьнікнуць, пакуль пралетарыят будзе расьці колькасна шляхам даплыву з іншых клясаў, пакуль рабочая кляса, як цэлае, будзе пазбаўлена магчымасьці ўзьняцца да ўзроўню перадавога атраду» (Сталін). «Гэта было-б роўным з ашукваньнем самiх сябе, з замыканьнем вачэй на веліч нашых задач, звужваньнем гэтых задач, калі-б мы запамяталі пра розьніцу паміж перадавым атрадам і цэлымі масамі, якія цягацеюць да яго, калі-б мы запамяталі пра сталы абавязак перадавога атраду **ўздымаць ўсё шырэйшыя і шырэйшыя пласты да гэтага перадавога ўзроўню»** (Ленін).

Колькаснае ўзмацненьне авангарду, уздыманьне да яго ўзроўню ўсё значнейшай часткі рабочае клясы зьяўляецца такім чынам аднэй з найважнейшых нашых задач. Але адносіны паміж авангардам і масай ні ў якім разе ня зводзяцца толькі да гэтай задачы. Масы ня могуць трактавацца намі толькі як рэзэрвуар, з каторага партыя чэрпае новых членаў.

Побач з задачаю здабываньня з мас новых атрадаў авангарду, уздыманьня «усё шырэйшых і шырэйшых пластоў да яго ўзроўню», ёсьць яшчэ вялізарная задача рэвалюцыйнага выхаваньня саміх мас і рэвалюцыйнага кіраўніцтва імі, задача «давесьці масы да рэвалюцыйных пазыцый, давесьці мільённыя масы на фронт рэвалюцыі, разьмясьціць іх на фронце рэвалюцыі. Справа ня ў тым, каб авангард усьвядоміў сабе немагчымасьць захаваньня даўнейшых парадкаў і неабходнасьць іх зваленьня. Справа ў тым, каб масы, мільённыя масы, узразумелі гэтую неабходнасьць і выказалі гатоўнасьць падтрымаць авангард» (Сталін). А гэтая задача ня можа быць выканана ні шляхам параконваньня і вербаваньня адзінак (хаця гэта трэба рабіць няўстанна), ні шляхам высьвятленьня масам нашых канчатковых мэтў, нашых разьвязаньняў (хаця гэта таксама трэба рабіць безадкладна). «Для таго, каб сапраўды ўся кляса, каб сапраўды шырокія масы працоўных і прыгнечаных капіталам дайшлі да такой пазыцыі (падтрыманьня авангарду — **І. С.), мала аднэй толькі прапаганды, аднэй агітацыі.** Для гэтага патрэбны ўласны палітычны досьлед гэтых мас». (Ленін, падкрэсьлена І. С.), «Даць мільённым масам магчымасьць пераканацца на ўласным досьледзе ў нямінучасьці зваленьня старой улады, высунуць такія спосабы барацьбы і такія формы арганізацыі, якія палегчылі-б масам пераканаНьне шляхам досьледу ў правільнасьці рэвалюцыйных лёзунгаў—вось задача» (Сталін).

Гэтай задачы служыць рэвалюцыйная **стратэгія і тактыка.** А гэтыя рэчы здаецца зьяўляюцца зусім чуждымі для тав. В. Ён адрозьнівае толькі «разьвязаньне»—справа шляхэтная і ўзвышаная — і «практычную мэту»—справа «утылітарная» (а значыць нізкая і брыдкая). «Стратэгія — гэта вызначэньне напрамку галоўнага ўдару пралетарыяту на грунце даннага этапу рэвалюцыі, распрацоўка адпаведнага разьмяшчэньня рэвалюцыйных сіл (галоўных рэзэрваў і другарадных), барацьба за правядзеньне гэтага пляну на працягу трываньня ўсяго даннага этапу рэвалюцыі» (Сталін). Тактыка ставіць сябе задачу больш абмежаваную — пераможнае правядзеньне паасобных баёў, паасобных кампаній і рэвалюцыйных выступленьняў. Тактыка—гэта частка стратэгіі і падпарадкавана ёй.

**Прапаганда і агітацыя** гэта сродкі дзеяньня, падпарадкаваныя рэвалюцыйнай тактыцы. Прапаганда гэта не самастойны сродак дзеяньня. Будучы трактавана самастойна, бяз жывой сувязі з масавай агітацыяй, прапаганда становіцца сродкам вельмі абмежаваным і мала пасьпяховым. Нават агітацыя, якая тым адрозьніваецца ад прапаганды, што канцантруе ўвагу мас на пытаньнях найбольш актуальных і пякучых для гэтых мас, не дасягае мэты, калі яна не падпарадкавана сьцісла акрэсьленым **тактычным задачам,** калі яна не завострана ў кірунку беспасрэднай акцыі. Агітацыя, будучы нявыстарчальна зачэплена за справы найбольш пякучыя для мас і за вядучуюся навокал іх барацьбу, набірае **прапагандысцкага** характару. Тэндэнцыя трактаваць прапаганду, альбо прасякнутую прапагандай агітацыю, як **самастойны** сродак дзеяньня (што здараецца занадта ўжо часта, асабліва ў т. зв. календарных кампаніях) — гэта менавіта ёсьць **адарваны прапагандызм,** з якім стала, але ўсё яшчэ недастаткова змагаюцца ў нашых шэрагах.

Калі-б мы з прапагандысцкай устаноўкі, якая так яскрава выступае ў тав. В., хацелі выцягнуць усе вывады, мы павінны былі-б дайсьці да выніку, што рэвалюцыя на ЗБ пераможа тады, як мы здолеем **папярэдне** пераканаць кожнага рабочага і селяніна на ЗБ у тым, што наша разьвязаньне — аб'яднаньне ЗБ з БССР — зьяўляецца дасканалым і адзіным разьвязаньнем. Пры дапамозе самаабману, бяручы свае пажаданьні за рэчаістасьць, можна гэта ўважаць за дакананы факт. У сапраўднай рэчаістасьці, калі-б мы на гэта разьлічвалі, тады Пілсудзкі, віленскія зубры і ў

іхных прадпакоях Луцкевічы і Астроўскія маглі-б спакойна спаць.

Дынаміка масавага руху заключаецца ня ў тым, што **ўся маса** дарастае да ўзроўню авангарду, а ў тым, што авангард выражае — гаворачы словамі Леніна — «аб'ектыўную праўду» барацьбы мільёнаў і дзеля таго яна можа—пры правільнай стратэгіі і тактыцы— знайсьці падтрыманьне мільёнаў, «давесьці мільённыя масы на шлях рэвалюцыі».

Высьвятлім гэта на прыкладзе.

Возьмем для ўпрашчэньня паасобнага рабочага і селяніна, трактуючы яго аднак як частку **мас**, адлюстроўваючую працэсы, што адбываюцца ў масах.

Беларускі селянін змагаецца супроць апалячваньня яго дзіцяці ў школе. Ён выганяе з двара экзэкутара. Гэта ёсьць ужо акты барацьбы з акупацыяй. Калі на мейсцы маецца наша ячэйка, якая кіруе акцыяй, гэты селянін уступае ў самаабарону, каб разам з іншымі прагнаць фашыстоўскую банду, калі яна паверне ў вёску, каб правесьці экзэкуцыю. Ён ужо стаіць у шэрагах рэвалюцыі, пад кіраўніцтвам партыі пралетарыяту. Але ён яшчэ не перастаў быць—дапусьцім—прававерным католікам. Ён чуў ад ксяндза, што бальшавікі прасьледуюць касьцёл. Яго сьвядомасьць яшчэ затуманена рэлігійнымі забабонамі альбо неправільнымі выбражэньнямі. Ён яшчэ прыдзе ў жах, калі вы яму ўспомніце пра аб'яднаньне з БССР. Але **аб'ектыўную праўду** яго барацьбы выражаем ужо **мы**, а не клер. Колькі часу будзе патрэбна дзеля таго, каб пад нашым уплывам ён мог адпаведна перабудаваць сваю сьвядомасьць? Можа гэта стане заўтра, **а можа толькі пасьля рэвалюцыі.** Але гэты селянін і сотні тысяч яму падобных, чыі адносіны да бальшавізму складаюцца не з аднаго энтузіазму, але з спрэчных, ня ўзгодненых яшчэ пачуцьцёў, прагненьняў і думак— сёньня ўжо зьяўляюцца элемэнтам нарастаючай рэвалюцыі і нашай палітычнай сілы.

Другі прыклад: чыгуначнік — паляк. Быць можа той самы, хто ў 1919 годзе здрадніцка накіроўваў польскія атрады на Вільно. Але сёньня ён ужо ня кажа пра Пілсудзкага — «дзядэк». Ён кажа: растуды яго маць. Ён пойдзе з «камунай» супроць зьніжэньня платы, супроць мілітарызацыі, супроць сацыялфашыстоўскіх прафсаюзных бонзаў. На досьледзе яго ўласнай барацьбы мы будзем яго вучыць і навучым **салідарнасьці ўсіх прыгнечаных,** зробім для яго зразумелым лёзунг самавызначэньня аж да аддзяленьня і неабходнасьць абароны СССР. На гэтым шляху ў часе барацьбы — быць можа толькі ў рэвалюцыі — мы ўздымем яго да таго ўзроўню асьведамленьня, калі ў паняцьце «наша дзяржава» ён уложыць клясавы зьмест: наша, пралетарская, хоць ня польская. Але калі-б тав В. хацеў яго ў гэтым пераканаць не з боку спраў, якія яго непасрэдна вярбуюць у шэрагі рэвалюцыі, да рэвалюцыйнага саюзу з нацыянальна-вызваленчым рухам, а дамагўся ад яго папярэдняй дэклярацыі, што ён нічога ня мае супроць прылучэньня Вільні да БССР, усе апоры і наровы прышчэпленага яму буржуазнага шавінізму сталі-б у ім дыбам.

Гэтыя два прыклады не датычаць спэцыяльна нацыянальна-вызваленчага руху. Яны прадстаўляюць—коратка—агульны працэс заваёўваньня намі мас, як адсталых пластоў пралетарыяту, так (з большымі труднасьцямі) іншых працоўных. Гэта ёсьць працэс, які адбываецца на грунце рэвалюцыйнай дыялектыкі клясавай барацьбы. Прапаганда зьяўляецца неабходным, але другарадным элемэнтам гэтага працэсу, які служыць дзеля канчатковага ідэолёгічнага «скончэньня» пераварэньняў, адбываючыхся ў масах сілаю таго факту, што наша партыя выражае аб'ектыўную праўду іх барацьбы. Значыцца наша прапаганда ня можа мець нічога супольнага з **рацыяналістычным «просвещением»** і «пераконваньнем» хаця-бы найбольш матар'яльным і «ўтылітарным», напрыклад, з прапагандаю вегетарыянцаў, якія расхвальваюць карысныя якасьці гародніны і яе перавагі над мясам.

## 3. АД ПРАПАГАНДЫЗМУ ДА АКТЫЎНАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ.

Вышэй схарактарызаваны працэс заваёўваньня намі мас **наогул** мае асабліва важнае значэньне ў дачыненьні да нацыянальна-вызваленчага руху. Без яснасьці ў гэтым пункце немагчыма ўцяміць сабе ленінскае разуменьне **саюзьніка** пралетарыяту. Бо-ж нацыянальна-вызваленчы рух (тав. В. гэта зусім ігнаруе) ня ёсьць **тым самым,** што пралетарскі рух, а ёсьць менавіта **саюзьнікам** пралетарыяту.

Сучасныя нацыянальна-вызваленчыя рухі сапраўды значна бліжэй да пралетарскага руху, чым падобныя рухі ў пэрыядзе перадваенным. «Нацыянальна-вызваленчы рух, у якім даўней кіруючую ролю адыгрывала нацыянальная буржуазія, развіваецца цяпер пераважна як рух працоўных мас у аграмаднай большасьці сялянскіх, і больш-менш сьцісла сплятаецца з барацьбою гэтых рабочых і сялянскіх мас за іхныя клясавыя, эканамічныя і палітычныя дамаганьні... Гэтыя масавы нацыянальна-вызваленчы рух, маючы ўсё больш акрэслены і станоўчы характар руху

анты-імпэрыялістычнага, тым самым набліжаецца да лягеру **пралетарскага рэвалюцыйнага руху**, становіцца яго натуральным саюзьнікам». *)

Нацыянальна-вызваленчы рух, такім чынам, **набліжаецца** да руху пралетарскага, становіцца яго «натуральным саюзьнікам». Набліжаецца, але не зьліваецца ў адно і тое самае. Стасунак саюзу азначае, што паміж нацыянальна-вызваленчым рухам і пралетарскім рухам няма прынцыповых супярэчнасьцяў, за тое існуе прынцыповая салідарнасьць, супольны фронт барацьбы. Гэты супольны фронт барацьбы зьяўляецца **адрэзкам** барацьбы рэвалюцыйнага пралетарыяту з імпэрыялізмам і з самім капіталістычным ладам у міжнародным маштабе. Пралетарыят сваёй барацьбой супроць імпэрыялізму **наогул**, супроць капіталізму **наогул** выражае «аб'ектыўную праўду» нацыянальна-вызваленчага руху. Гэта падстава саюзу і падстава гегэмоніі пралетарыяту ў тым саюзе. Як-раз гэта сьцьвярджае рэзалюцыя V пленуму ЦК КПЗБ, калі кажа:

«Нацыянальна-вызваленчы рух па істоце сваёй зьяўляецца рухам найшырэйшых народных мас, перадусім сялянства, ахопліваючым таксама шырокія пласты гарадзкой дробнай буржуазіі, працоўнай інтэлігэнцыі і г. д., супроць імпэрыялістычнай польскай буржуазіі. У гэтым руху кіруе пралетарыят, які, змагаючыся за савецкую ўладу, за дыктатуру пралетарыяту, за сацыялізм, змагаецца адначасна за нацыянальнае вызваленьне».

«Мэты нацыянальна-вызваленчага руху беларускага народу, будучы супярэчнымі інтарэсам беларускай буржуазіі, знаходзяць ажыцьцяўленьне ў пралетарскай рэвалюцыі, якая дасьць свабоду прыгнечаным народам і абшарніцкую зямлю бяз выкупу сялянскім масам... У варунках ЗБ справаю «усяго народу» у найшырэйшым значэньні гэтага слову—справаю беларускага народу зьяўляецца нацыянальна-вызваленчы рух. Стоючы на чале гэтага руху, кіруючы ім супроць польскага імпэрыялізму і яго саюзьніку—беларускай буржуазіі і кулацтва, **пралетарыят зьяўляецца сапраўдным прадстаўнікам беларускага народу** ў яго барацьбе за нацыянальнае вызваленьне, непарыўна зьвязанае з барацьбою за вызваленьне сацыяльнае».

*) Куусінен. «Нацыянальнае пытаньне ў капіталістычнай Эўропе». («Коммунистический Интернационал» № 23, 1931 г.).

Такім чынам рэзалюцыя характарызуе беларускі нацыянальна-вызваленчы рух як «па сваёй істоце рух найшырэйшых народных мас, перадусім сялянскіх», як «справу ўсяго народу ў найшырэйшым значэньні гэтага слову, справу беларускага народу». Прыпомнім сабе ў сувязі з гэтым прыведзеныя ўжо вышэй словы Леніна: «Сацыялістычная рэвалюцыя ў Эўропе **ня можа быць** ні чым іншым, як выбухам масавай барацьбы ўсіх і ўсякіх прыгнечаных і нездаволеных». На ЗБ менавіта нацыянальна-вызваленчы рух найшырэй і найпаўней ахоплівае і мабілізуе да масавай барацьбы «усіх і ўсякіх прыгнечаных і нездаволеных».

Прыгнечаныя клясы, якія належаць да паняволенага народу, зьяўляюцца **падвойна** прыгнечанымі і ў выніку гэтага лягчэй рэвалюцыянізуюцца. Але **спэцыяльнае** значэньне нацыянальна-вызваленчага руху, як трэцяй (побач з рухам пралетарскім і барацьбою сялянскіх мас) **рухавай сілы** рэвалюцыі, заключаецца ня толькі ў гэтым, але і ў тым, што маса «усіх і ўсялякіх прыгнечаных і нездаволеных» чыіх нездавольства здольна выліцца ў рэвалюцыйную барацьбу, зьяўляецца сярод прыгнечанага народу непараўнальна большай колькасна, чым сярод пануючага народу. Прыцягненьне да рэвалюцыйнай барацьбы, пад гегэмоніяй пралетарыяту, польскай дробнай буржуазіі, працоўнай інтэлігэнцыі, нават серадняцкага сялянства ў яго масе на сёньняшні дзень немажліва ў такім шырокім разьмеры, як прыцягненьне на рэвалюцыйны фронт гэтых самых пластоў прыгнечаных народаў. Гэтыя апошнія могуць быць ужо сёньня змабілізаваны і ў вельмі шырокай меры ўцягнуты да барацьбы супроць акупантаў. Наша нацыянальная палітыка павінна ўсебакова ахапіць і выкарыстаць усю энэргію гэтай «рухавай сілы», якой зьяўляецца нацыянальна-вызваленчы рух, як з пункту гледжаньня магчымасьці паскарэньня і паглыбленьня працэсу рэвалюцыянізаваньня працоўных мас, так і з пункту гледжаньня пашырэньня **радыусу** рэвалюцыйнага руху, яго масавай базы, на сярэднія сацыяльныя пласты.

Падстава саюзу нацыянальна-вызваленчага руху з пралетарыятам павінна стаць досыць шырокай дзеля таго, каб мы згуртавалі пад нашым кіраўніцтвам сацыяльна рознародныя элемэнты нацыянальна-вызваленчага руху, што ня толькі ня выключае, але тым больш наказвае больш сьцісла прыцягваць і асыміляваць праз пралетарыят клясава найбольш блізкія да яго элемэнты. Як «рух найшырэйшых народных мас», нацыянальна-вызваленчы рух можа і павінен вылучаць з-пася-

род сябе адзінкамі, групамі і нават масава элемэнты, насьпеўшыя да таго, каб зьліцца з пралетарскім рухаам.

Неаднократна здараецца, што пралетары прыгнечанага народу ўсьведамляе сабе сваё нездавольства і бунт раней ад нацыянальнага боку, чым ад клясавага боку. Ён бачыць перад сабою, як ворага перш за ўсё, акупацыю, польскі імпэрыялізм. Зразумеўшы так вызваленчую барацьбу, — нацыян.-вызваленчую, — ён зьяўляецца ўжо ўдзельнікам рэвалюцыйнага руху, але ён яшчэ не зьяўляецца носьбітам рэвалюцыйнай гегемоніі пралетарыяту ў тым руху. Наша задача—учыніць з яго сьвядомага змагара сваёй клясы і ўзьняць яго ролю ў нацыянальна-вызваленчым руху да ролі носьбіта гэтай гегемоніі.

Масы працоўнага сялянства ў нацыянальна-вызваленчым руху змагаюцца і як сяляне і як нацыянальна-прыгнечаныя. Адзінкі, групы і нават значныя атрады найбольш блізкіх да пралетарыяту пластоў сялянства пераходзяць ужо сёньня на пазыцыі рэвалюцыйнага пралетарыяту. Наша праца, таксама прапагандыстычная, можа гэты працэс узмацніць. Але **асноўная маса** сялянства застанецца з рэвалюцыйным пралетарыятам у варунках саюзу, прычам саюзу падвойнага характару: як змагаючаеся сялянства і як падставовы элемэнт нацыянальна-вызваленчага руху. Павінен прайсьці цэлы гістарычны працэс, перш чым гэтая асноўная сялянская маса пасьля вызваленьня пад кіраўніцтвам пралетарыяту і з капіталістычна-абшарнічага і з імпэрыялістычнага ярма, пачне ў сваёй масе ператварацца ў сьвядомых будаўнікоў сацыялізму шляхам калектывізацыі і ў сьвядомых будаўнікоў **пралетарскай** нацыянальнай культуры.

Урэшце, існуюць лічныя сацыяльныя **сярэднія** пласты, не адгароджаныя жадным мурам ад той **падставовай масы** працоўнага сялянства і ад спралетарызаванага рамесьніцтва з аднаго боку, ад кулацтва і буржуазіі, з другога; гэтыя сярэднія сацыяльныя пласты сваё нездавольства і бунт адчуваюць амаль выключна з боку **нацыянальнага** прыгнечаньня і ўціску. Аб нашых адносінах да гэтых элемэнтаў нацыянальна-вызваленчага руху рэзалюцыя V пленуму ЦК КПЗБ кажа наступнае:

«Пры акрэсьленьні сваіх задач і тактыкі ў дачыненьні да нацыянальна-вызваленчага руху партыя выходзіць з падставы, што на грунце барацьбы паняволеных народаў супроць польскага імпэрыялізму і акупацыі можна і неабходна мабілізаваць найшырэйшыя народныя масы, у тым ліку і тыя сацыяльныя пласты — шырокія пласты дробнай буржуазіі, якія ня ідуць да барацьбы пад сьцягам камунізму.

«Стоючы на чале нацыянальна-вызваленчай барацьбы, разгортваючы і арганізуючы яе, партыя завязвае на грунце гэтага руху **баявы саюз** пралетарыяту з усімі элемэнтамі, гатовымі актыўна змагацца супроць польскага імпэрыялізму. У дачыненьні да гэтага саюзьніку партыя рэалізуе гегемонію пралетарыяту, змагаючыся з уплывамі контррэвалюцыйнага буржуазнага нацыяналізму. Партыя павінна ў сваёй тактыцы ўлічваць своеасаблівы дробнабуржуазны характар сярэдніх пластоў такім чынам, каб накіраваць іх нацыянальна-вызваленчую барацьбу ў рэчышча пралетарскай рэвалюцыі.

«Барацьба за гэтыя сярэднія пласты ў сучаснай сытуацыі — у варунках нарастаючай рэвалюцыйнай сытуацыі ў Польшчы і падрыхтаваньняў польскага імпэрыялізму да вайны з СССР — мае першараднае значэньне, асабліва на ЗБ, дзе адносная вага гэтых пластоў большая, чым у Польшчы. Ня гледзячы на агульны працэс рэвалюцыянізаваньня таксама і гэтых пластоў, польскі фашызм і беларускі нацыянал-фашызм можа выкарыстоўваць уласьцівыя ім ваганьні, уплываючы на іх пры дапамозе дэмагогічнай агітацыі, абяцанак, дробных уступак і тэрару. Барацьба нашай партыі асабліва з беларускім нацыянал-фашызмам па сваёй істоце зьяўляецца перадусім **барацьбою за гэтыя сярэднія пласты».**

Тав. Выж. гаворыць з пагардаю аб «пашырэньні сацыяльнай базы» нацыянальна-вызваленчага руху і безагаворачна звальвае ў адну купу дробную буржуазію і буржуазію. Такая «рэвалюцыйная» пазыцыя азначае ў сапраўднасьці выраканьне ад барацьбы за дробна-буржуазныя пласты, адданьне іх на зьяданьне нацыянал-фашызму, капітуляцыю перад нацыянал-фашызмам. Гэта азначае пагардлівае маханьне рукой на гэтую магутную рухавую сілу рэвалюцыі, якая караніцца ў нацыянальна-вызваленчым руху.

Не выпадкова, што прадстаўляючы ў партыі такія погляды, т. В. упарта выступае супроць пастановы ЦК, якая прыдае лёзунгу самавызначэньне яго першапачатковае ленінскае тлумачэньне і значэньне. Матывы гэтай пастановы, якія III пленум ЦК КПП падае ў сваёй рэзалюцыі, б'юць проста ў памылкі т. Выж.:

... «Касуючы на практыцы лёзунг самавызначэньня аж да аддзяленьня — чытаем у гэтай рэзалюцыі—звужваючы і замяняючы яго часта лёзунгам аб'яднаньня Зах. Украіны і Зах. Беларусі з УССР і БССР, партыя **аслабляла мабілізацыйную сілу ленінскага лёзунгу самавызначэньня** адносна да шырокіх народных мас, якія яшчэ не ўсьвядомілі сабе неабходнасьць барацьбы за савецкую ўладу, за аб'яднаньне з УССР і БССР. Гэта прыводзіла **да звужэньня масавай базы** нацыянальна-вызваленчага руху, да запыненьня на клясава ўсьведамленых, перадавых элемэнтаў пралетарыяту і сялянства. Гэта таксама затрудняла **перамаганьне праваенных настрояў,** няверра ў нацыянальнае вызваленьне ўласнымі сіламі, разам з пралетарыятам і працоўным сялянствам ўсёй Польшчы».

Мы ўжо азнаёміліся з поглядамі т. Выж. на працэс мабілізацыі мас і пытаньне пашырэньня масавай базы нацыянальна-вызваленчага руху. Партыя змагаецца з гэтымі настроямі, як з адным з выразаў **пасыўнасьці,** няверра ва ўласныя сілы, разьлічваньне на дапамогу звонку. Партыя змагаецца з гэтым таксама дзеля таго, што яны аслабляюць пачуцьці лучнасьці нацыянальна-вызваленчай барацьбы на ЗУ і ЗБ з барацьбой пралетарыяту Польшчы і з справаю рэвалюцыі ў Польшчы. Партыя ўрэшце змагаецца з імі дзеля таго, што яны ўтрудняюць адну з важнейшых задач міжнароднага пралетарыяту ў сучасным пэрыядзе — барацьбу супроць імпэрыялістычнай вайны, у абарону СССР.

Тав. Выж. прызнае небясьпечнасьць праваенных настрояў. «Сярод сялян ЗБ — паведамляе ён — наогул існуюць праваенныя настроі, яны чакаюць на рэвалюцыю толькі ў выпадку блізкай вайны з СССР». Тав. В. прабуе давесьці, што гэтыя настроі ня маюць ніякай сувязі з нашымі лёзунгамі ў нацыянальным пытаньні, бо мы-ж ня лічым — пэўна, адкуль-жа! — БССР за гегемона, а лічым толькі пралетарыят Польшчы і ЗБ. Але адчуваючы ма' быць у гэтым пункце хісткі грунт пад нагамі, т. В. «адмахнуўся» ад гэтага пункту вось такім рашучым ударам: «з гэтым трэба змагацца, але **гэта ня зьвязана з нацыянальным пытаньнем».** Паколькі гэта «ня зьвязана з нацыянальным пытаньнем», дык — рэч ясная — гэта ня зьвязана таксама і з нашымі тымі ці іншымі лёзунгамі ў гэтым пытаньні. Але гэтую «адсутнасьць сувязі» т. В. папросту ўжо... задэкрэтаваў, не прабуючы высунуць жаднага аргумэнту.

---

Наша партыя ні ад каго ня тоіць сваіх мэтаў і сваіх сацыялістычных шляхоў. Партыя ня толькі ня ўтойвае, але з усіх сіл прапагандуе на прыкладзе СССР свой погляд, што канчатковае выйсьце з сялянскай нэндзы прынясе толькі сацыялістычная перабудова грамадзтва, між іншым, шляхам дабраахвотнай калектывізацыі сялянскіх гаспадарак. Партыя абвяшчае адкрыта, што пралетарскім ажыцьцяўленьнем самавызначэньня ЗБ аж да аддзяленьня будзе аб'яднаньне яе з БССР. Але і т. В. лічыў-бы, мы думаем, бяз клёпкі ў галаве таго, хто саюз пралетарыяту з сялянствам у Польшчы хацеў-бы абаперці на крытэрый: хто за калектывізацыю, той наш, хто супроць, — той вораг. Няменшай недарэчнасьцю і палітычным шкодніцтвам зьяўляецца стасаваньне (нажаль, часта) у нацыянальна-вызваленчым руху крытэрыю: хто за аб'яднаньне з БССР — той наш, хто супроць — той вораг. Плятформа гэтага саюзу можа быць толькі плятформай **супольнай барацьбы,** а не стопрацэнтнай супольнасьці поглядаў. Плятформаю зьяўляецца гатоўнасьць да актыўнай барацьбы супроць акупацыі, супроць польскага імпэрыялізму, за поўнае зваленьне акупацыі, за права на самавызначэньне аж да аддзяленьня. «Партыя завязвае на грунце гэтага руху (нацыянальна-вызваленчага) баявы саюз пралетарыяту **з усімі элемэнтамі, гатовымі актыўна змагацца супроць польскага імпэрыялізму»** — заяўляе V пленум ЦК КПЗБ. «КПП... рашуча будзе падтрымліваць **усякую сапраўдную барацьбу супроць польскага імпэрыялізму,** польскай акупацыі, за самавызначэньне аж да аддзяленьня ЗУ і ЗБ» — заяўляе III пленум ЦК КПП.

**Паварот** патрабуе перадусім, каб у гэтай справе была поўная яснасьць, грунтоўнае разуменьне ў нашых шэрагах, а потым — каб гэтае зразуменьне знайшло як найхутчэйшы і найбольш поўны выраз ў практычнай дзейнасьці партыі. **Паварот** вымагае, каб у асяродзішчы нацыянальна-вызваленчага руху настала — ня толькі на падставе нашых слоўных дэкляраций, але і на падставе нашых **зьмененых мэтадаў супрацоўніцтва і кіраўніцтва ў нацыянальна-вызваленчым руху,** поўная пэўнасьць, што такім, а не іншым зьяўляецца пазыцыя Камуністычнай партыі, што партыя дае рашучы адпор скрыўляючаму гэтую пазыцыю сэктанцтву.

**Паварот** павінен быць **па ўсёй лініі дзейнасьці партыі,** а значыцца ня толькі ў арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху, але і ў працы кожнай партыйнай арганізацыі, паваротам ад прапагандызму да актыўнай нацыянальнай палітыкі, да барацьбы супроць

канкрэтных праяваў нацыянальнага ўціску. Каб лёзунг самавызначэньне аж да аддзяленьня перастаў быць толькі прапагандысцкім, а каб ён стаў істотным лёзунгам **штодзённай актыўнай барацьбы супроць акупантаў,** ня досыць пазбавіць яго прапагандысцкага дадатку «аб аб'яднаньні» і вярнуць яму першапачатковае ленінскае тлумачэньне. Ён застанецца і надалей толькі прапагандысцкім лёзунгам, калі будзе і далей, як гэта найчасьцей бывае дагэтуль, мэханічна прычэплены ў канцы дамаганьняў і лёзунгаў, у якіх нічога не паказвае, што барацьба вядзецца **ў паняволеным краі.** Партыйныя арганізацыі павінны нарэшце ўразумець, што занядбаньне, мінаньне нацыянальнага моманту ў штодзённых акцыях зьяўляецца дабравольным самаабмежаваньнем у барацьбе, выраканьнем вельмі вострай і эфэктыўнай зброі, якая маецца ў нашым арсэнале. У варунках ЗБ штодзённая акцыя навакол беспасрэдных патрабаваньняў і балячак мас хутчэй і глыбей мабілізуе гэтыя масы, калі мы ўвяжам іх з барацьбой супроць праяваў нацыянальнага ўціску. Арганізацыя выступленьняў супроць нацыянальнага ўціску, супроць палёнізатарскіх загадаў акупантаў, супроць выканаўцаў гэтых загадаў, арганізацыя актыўнага адпору мас супроць фашыстоўскага ўраду, як ураду акупацыі, аж да праганяньня—у адпаведных варунках—зьненавіджаных агентаў акупацыйнай улады, узмацняе размах руху **у шырыню** на рознародныя сацыяльныя элемэнты і гуртуе барацьбу мас у яе рознастайных формах і праявах у магутны народны рух. У гэтым кірунку кожная партыйная ячэйка павінна стварыць **паварот.**

Нарэшце **паварот** патрабуе пераломy ў сучаснай практыцы ў галіне будовы і актывізацыі зьнітаваных **камуністычных фракцый** па лініі нацыянальна-вызваленчага руху. Бо адваротным бокам сэктанцкага ўтожсаменьня нацыянальна - вызваленчага руху з пралетарскіх рухам зьяўляецца тое, што мы губляем нашае ўласнае абліччa ў гэтым руху. «Гэтае замазваньне ўсякай розьніцы паміж клясавым рухам пралетарыяту і нацыянальна-вызваленчым рухам — кажа рэзалюцыя V пленуму — выражаецца таксама ў адваротнай, ня менш небясьпечнай тэндэнцыі распусканьня партыйнай арганізацыі ў нацыянальна-вызваленчай арганізацыі, асабліва-ж у занядбываньні выдзяленьня ў ёй членаў партыі ў арганізаваныя камуністычныя фракцыі».

Ад сацыяльна - рознастайных элемэнтаў, што ўдзельнічаюць у нацыянальна-вызваленчым руху, мы патрабуем актыўнай няпрымірымай барацьбы з польскім імпэрыялізмам. Вось плятформа нашага саюзу з імі, на гэтай плятформе мы будзем іх «весьці на фронт рэвалюцыі», уздымаць і палітычна выхоўваць. Ад **камуністаў** у нацыянальна - вызваленчым руху мы патрабуем, каб яны былі непахістнымі камуністамі, цьвёрдымі інтэрнацыяналістамі, разумеючымі важную ролю нацыянальна-вызваленчага руху ў разьвіцьці рэвалюцыі ў Польшчы, але лічучымі гэты рух, як складовую частку сусьветнага фронту пралетарскай рэвалюцыі. Толькі ў гэтым выпадку і пры моцнай арганізацыйнай згуртаванасьці ў камуністычных фракцыях яны здолеюць быць носьбітамі гегемоніі пралетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху і яго палітычнымі кіраўнікамі.

---

**„ДЭМАСКУЮЧЫ МАНЭЎРЫ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫІ, ПРОЦІСТАЎЛЯЮЧЫ ЯЕ „ЛЕВЫЯ" ФРАЗЫ ЯЕ ЗДРАДНІЦКІМ СПРАВАМ, СЭКЦЫІ КІ ПАВІННЫ НА АСНОВЕ КАНКРЭТНАЙ ПЛЯТФОРМЫ ШТОДЗЁННЫХ ДАМАГАНЬНЯЎ ВЫКРЫВАЦЬ ЗРАЗУМЕЛЫМІ ДЛЯ МАС МЭТОДАМІ КОЖНАЕ АСОБНАЕ ЗДРАДНІЦТВА САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫІ, АРГАНІЗУЮЧЫ АГУЛЬНУЮ БАРАЦЬБУ З САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНЫМІ РАБОЧЫМІ СУПРОЦЬ НАСТУПЛЕНЬНЯ КАПІТАЛУ, СУПРОЦЬ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЫ І ФАШЫСТОЎСКАЙ РЭАКЦЫІ".**

(З рэзалюцыі XI пленуму ІККІ).

**Л. Мадзьяр.**

# Вайна ў Манчжурыі.*)

Японскі імпэрыялізм вядзе наступленьне на Манчжурыю. Другія імпэрыялістычныя драпежнікі стаяць напагатове. Яны ўсе прымаюць удзел у душэньні кітайскай рэвалюцыі. Баі ўжо пачаліся. Тое, што адбываецца ў Манчжурыі, ёсьць сапраўдная імпэрыялістычная вайна. Японскія войска занялі ўсю Паўднёвую Манчжурыю і высадзілі дэсант у Шаньдуне. Японскі флёт ладзіць ваенныя манэўры ў кітайскіх водах. Дулы японскіх гармат наведзены на Кітай. Кітайскія наёмныя войска, палачы-мілітарысты не аказваюць супраціўленьня японскаму імпэрыялізму; яны зложылі зброю. Але кітайскія рабочыя і сяляне, гераічны кітайскі пралетарыят, выступілі супроць драпежнікаў. Калі японскія войска ўвайшлі ў Манчжурыю, рабочыя наладзілі ўсеагульную стачку. Японская ваеншчына адказала на ўсеагульную стачку бамбардыроўкай мукдэнскага арсэналу і гораду Мукдэна. Налічваюцца сотні ахвяр. Рабочыя вугальных капальняў абвяшчаюць усеагульную стачку. Японская ваеншчына распраўляецца з імі зброяй, арыштоўвае і растрэльвае лепшых рэвалюцыянэраў. Японская ваеншчына сарвалася з ланцугу і творыць расправу над кітайскімі і карэйскімі працоўнымі. Японскія войска сарвалі савецкі штандар з савецкага консульства. Правакацыя супроць СССР ужо пачалася. Імпэрыялістычны друк усяго сьвету распаўсюджвае правакацыйныя чуткі аб мабілізацыі атрадаў Чырвонай арміі на Далёкім Усходзе. Ваенная авантура японскага імпэрыялізму на Далёкім Усходзе можа стаць выходным пунктам вялічэзнай сутычкі паміж буйнейшымі імпэрыялістычнымі драпежнікамі. Падзеі ў Манчжурыі, гэта правакацыя з боку японскага імпэрыялізму супроць краіны будуючагася сацыялізму — СССР, супроць кітайскай рэвалюцыі, супроць шматпакутнага карэйскага народу.

---

Японская буржуазія і японскія абшарнікі шукаюць выйсьце з крызысу ў вайне і контррэвалюцыі. Японскі імпэрыялізм загнан ў тупік сваімі ўнутранымі і вонкавымі супярэчнасьцямі. Ён шукаў выйсьце з гэтага тупіку ў наступленьні на японскіх рабочых і працоўных сялян, ва ўзмацненьні эксплёатацыі сваіх калёній; ён шукае яго цяпер ва ўзмацненьні старых і захопе новых пазыцый у Манчжурыі і ва ўсім Кітаі, у правакацыйнай вайне, у падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць СССР.

Імпэрыялізм у Японіі разьвіваўся на грунце паняволеньня і жорсткай эксплёатацыі японскага пралетарыяту. У краіне, дзе пяць трэстаў пануюць над усім гаспадарчым жыцьцём краю, дзе 12 манапалістычных аб'яднаньняў распараджаюцца 60% усяго нацыянальнага даходу, у краіне, дзе маленькая купка абшарнікаў уладае больш чым 40% усяе зямлі, у краіне, якая разьвілася да ўзроўню буйнейшай імпэрыялістычнай краіны, пралетарыят знаходзіцца ў напоўняволеніцкім стане. Японскі імпэрыялізм разьвіваўся за кошт фэадальнага закабаленьня асноўных мас японскага сялянства. Больш паловы ўсіх японскіх сялян арэндуе зямлю на фэадальных умовах у абшарнікаў. Рэшткі фэадальнай сыстэмы адпрацовак, паншчыны, эксплёатацыя праз ліхвярскі гандлёвы капітал, эксплёатацыя праз трэсты і аб'яднаньні, кулацкае засільле, паліцэйская самаволя цяжкім камнем прыціснулі японскі народ. Японія стала буйнай імпэрыялістычнай краінай, а японскі пралетарыят застаўся ў становішчы каленіяльнага кулі, японскія сяляне—бедняк і серадняк—засталіся ў становішчы напалову прыгонных. Фінансавы капітал у саюзе з абшарнікамі зьдзейсьняе ў Японіі сваю дыктатуру праз ваенна-паліцэйскі апарат японскай манархіі. Японія стала буйнай імпэрыялістычнай краінай, але ўлада знаходзіцца ў руках дзяржаўнага апарату манархіі — мікадо, які злучае ў сябе брыдкія рысы панаваньня ваеншчыны, фэадальных абшарнікаў і фінансавага капіталу. Японскі імпэрыялізм ёсьць тыповы ваенна-фэадальны імпэрыялізм.

Дзеля чаго японскі імпэрыялізм імкнецца пашырыць сваю тэрыторыю? Японскі фінансавы капітал вырас у краіне, дзе захавалася напоўняволеніцкае становішча пралетарыята і напоўфэадальнае закабаленьне сялянства. Усё гэта, пэўна, звужвае ўнутраны рынак для

---

*) Перадрукоўваецца з «Коммунистического Интернационала» № 27, 30 верасьня 1931 г.

капітала. Разам з тым вырасшы ў краіне аграмадны вытворчы апарат ня мае адпаведнай сыравіннай базы ў самым краі. Вырасла тэкстыльная прамысловасьць, а ў краі хлапку няма. Вырасла мэталюргія, а ў краі жалезнай руды няма. Вырасла машынабудаўнічая і электратэхнічная прамысловасьць, а ў краі, за выключэньнем медзі, каляровых мэталяў няма. Вырасла аграмадная хэмічная прамысловасьць, а ў краі сыравіны для яе няма. Без адпаведнага ўнутранага рынку, без сыравіннай базы японскі імпэрыялізм стаіць на гліняных нагах. Ваенна-фэадальны імпэрыялізм, фінансавая олігархія, абшарнікі на чале з манархіяй мікадо стварылі лад, у якім вонкавая фармальная лічынка «дэмакратыі» прыкрывае дыктатуру фінансавай олігархіі і палупрыгоншчыкаў-абшарнікаў. Хаця і маецца ўсеагульнае выбарчае права, але парлямэнт зьяўляецца толькі прыкрыцьцём ваенна-паліцэйскай самаволі. Існуе «адказны» урад, але фактычна ўсе справы творацца ў тайным савеце, у габінэтах генэральнага штабу і на паседжаньнях праўленьня трэсту Міцуі і Міцубішы. Японскі імпэрыялізм разгортваў вялікую экспансію. Ён накінуўся ў часе вайны на кітайскі народ і працягваў сваё эканамічнае наступленьне ў Індыі, Усходняй Афрыцы, у Малайскіх штатах, прыкладаючы ўсе стараньні, каб адваяваць для сябе новыя рынкі. Адваёўваючы крыніцы сыравіны ў Кітаі, Карэі, на Фармозе, на Малайскіх выспах, ён адваёўваў гаспадарчыя тэрыторыі дзеля вывазу сваіх капіталаў у Кітай. Аднак звужэньне ўнутранага рынку і ўзмацняючаяся канкурэнцыя паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі ўсё больш паглыбляюць крызыс японскага імпэрыялізму. Шукаючы выйсьця з эканамічнага крызысу, які разьвіваецца на фоне агульнага крызысу капіталізма, буржуазія і абшарнікі накінуліся на японскую рабочую клясу, на японскіх беднякоў і сераднякоў, а ў калёніях і паўкалёніях — на прыгнечаныя народы. Але крызыс усё пашыраецца і паглыбляецца, і японскі імпэрыялізм шукае выйсьце з крызысу ў новай вайне супроць Кітая, у распальваньні новай імпэрыялістычнай вайны на Ціхім акіяне і ў падрыхтоўцы правакацыйнай інтэрвэнцыі супроць СССР.

———

Ваенная авантура японскага імпэрыялізму абвастрае ўсе супярэчнасьці паміж імпэрыялістамі. У першую чаргу, у Манчжурыі сутыкаюцца інтарэсы буйнейшых імпэрыялістычных дзяржаў. ПАЗШ на працягу дзесяцігодзьдзяў ўстанавілі ў адносінах да Манчжурыі прынцып «адкрытых дзьвярэй». Ангельскі капітал нядаўна ўрваў для сябе шэраг канцэсій у Манчжурыі. Францускі фінансавы капітал марыць аб тым, каб перадаць Кітайска-Усходнюю чыгунку Расейска-Азіяцкаму банку, а праз Расейска-Азіяцкі банк—францускім драпежнікам. Нават галяндзкі капітал пробаваў пранікнуць у гэты багацейшы край. Манчжурыя зьяўляецца з пункту погляду міжнароднага імпэрыялізму неадлучнай складовай часткаю яго буйнейшай у сьвеце палукалёніі — Кітая. Як-бы ні быў Кітай бедны вугалем, жалезам, каляровымі мэталямі, як-бы ні была адсталай яго сельская гаспадарка, ён усё-ж зьяўляецца буйнейшым рынкам і крыніцай сыравіны. Як-бы ні дэградавала гаспадарка краю ад эксплёатацыі, ад нацыянальнага ўціску, ад прыгнёту фэадальных і напоўфэадальных адносінаў у вёсцы, ад ліхвярскай кабалы, ад прыгнёту падаткоае грабежы працоўных з боку мілітарыстаў, як-бы драпежніцкі ні гаспадарвалі кітайскія капіталісты і абшарнікі, Кітай усё-ж зьяўляецца буйнейшай гаспадарчай тэрыторыяй на Далёкім Усходзе. У Кітаі, які душыцца ад уціску міжнароднага імпэрыялізму і катаўскага панаваньня Гаміндану, які зьяўляецца аграмадным пастаўшчыком калёніяльнае працы на Далёкім Усходзе, прадстаўнікі доляру, фунта стэрлінгаў, японскай іены і францускага франка вядуць ужо дзесяцігодзьдзямі зацятую барацьбу за сфэры ўплыву, за кожную камандную пазыцыю ў эканамічным і палітычным жыцьці краю, за кожны смачны кавалак калёніяльнага зьверхпрыбытку.

Але Кітай зьяўляецца ў цяперашні час ня толькі месцам барацьбы імпэрыялістычных драпежнікаў, ён стаў месцам вялічэзнай барацьбы паміж імпэрыялістычнай калёніяльнай сыстэмай і нацыянальна-вызваленчым рухам кітайскіх працоўных. Антыімпэрыялістычная і антыфэадальная рэвалюцыя на поўдні Кітая ўжо дасягла найвялікшай вастраты. Там ужо паўсталі саветы. Там у ходзе аграрнай рэвалюцыі, пад кіраўніцтвам пралетарыяту, на чале з кампартыяй, саветы ўжо ахапілі аграмадныя тэрыторыі. Імпэрыялісты і кітайскія мілітарысты наладзілі ўжо тры войны супроць рабоча-сялянскай Чырвонай арміі і супроць савецкіх раёнаў, але яны ў гэтых войнах пацярпелі паражэньне. І супроць трэцяга паходу пачалося пераможнае контрнаступленьне Чырвонай арміі. Кітай паказвае ўсім калёніяльным і напоўкалёніяльным краінам прыклад барацьбы за сваё вызваленьне. Кітай стаў маяком для прыгнечаных народаў калёній і напоўкалёній усяго сьвету. Побач з СССР Кітай зьяўляецца наглядным доказам таго, што барацьба рабочых і сялян пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі можа быць

пераможнай. Міжнародны імпэрыялізм дзеля гэтага напружвае ўсе стараньні, каб задушыць кітайскую рэвалюцыю, але кітайская праблема прадстаўляе сабою буйнейшую частку ўсей ціхаакіянскай праблемы. На Ціхім акіяне сутыкаюцца інтарэсы ўсіх буйных імпэрыялістычных дзяржаў. На Ціхім акіяне разьмешчаны самыя важныя каленіяльныя краіны. На Ціхім акіяне рашаецца лёс важнейшых дамініёнаў брытанскага імпэрыялізму, Аўстраліі і Новай Зеляндыі. На Ціхім акіяне рашаецца лёс Малайскіх краёў, дзе фінансавы капітал дабывае каучук. На Ціхім акіяне рашаецца лёс Інданэзіі, дзе галяндзкі імпэрыялізм дабывае нафту і цукру. На Ціхім акіяне рашаецца лёс Індокітаю, у якім зацікаўлены францускі імпэрыялізм. На Ціхім акіяне — галоўнейшы вучастак фронту барацьбы паміж амэрыканскім і ангельскім імпэрыялізмам. На Ціхім акіяне — важнейшы фронт новай сусьветнай вайны паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі. Вайна ў Манчжурыі прадстаўляе сабою пачатак сутычкі паміж буйнейшымі імпэрыялістычнымі драпежнікамі.

---

Падзеі ў Манчжурыі ёсьць разам з тым правакацыя вайны супроць СССР. Манчжурыя зьяўляецца важнейшым пляцдармам на Далёкім Усходзе ў падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць СССР. Зразумела, галоўны і рашаючы фронт міжнароднага імпэрыялізму ў барацьбе супроць СССР ляжыць на Захадзе. Аднак, каб павесьці вайну супроць СССР на заходнім фронце, імпэрыялізм стварае пабочны фронт і на ўсходзе. Падрыхтоўка арганізацыі ўсходняга фронту вайны супроць СССР праходзіць ужо гарачковым тэмпам. Францускія імпэрыялісты прабуюць узяць за горла кемалісцкую Турцыю, каб прымусіць яе ўключыцца ў антысавецкі фронт. Нацiск на кемалісцкую Турцыю праз зацісканьне пятлі даўгоў, праз спробы зрыву турэцкай валюты, праз арганізацыю контррэвалюцыйных паўстаньняў курдзкіх фэадалаў, зьбіраньне ўсёй манархічнай контррэвалюцыі, якая абапіраецца на ўплывы мусульманскай царквы, праз душэньне руху сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі, спробы арганізацыі новых палітычных партыяў пад кіраўніцтвам францускага імпэрыялізму, — усё гэта—буйнейшае зьвяно ў ланцугу спробаў уключэньня Турцыі ў антысавецкі блёк.

У Пэрсіі брытанскі імпэрыялізм будуе авіяцыйныя базы, прызначаныя на выпадак вайны супроць нафтавых прамыслоў у Баку. Ангельскі і францускі імпэрыялізм усё больш узмацоўваюць свае пазыцыі ў Пэрсіі пры дапамозе абшарнікаў і гандлёва-ліхвярскага капіталу, носьбітам улады якіх зьяўляецца Рыза-шах, імкнучыся выкарыстаць пэрсідзкую буржуазію ў барацьбе супроць СССР. У Арабістане адбываецца чыгуначнае будаўніцтва, будуюцца ваенныя базы ў Хайфе (Палестыня) і ў Сырыі, будуецца авіяцыйная база ў Іраку. Усё гэта служыць мэтам падрыхтоўкі інтэрвэнцыі супроць СССР. Брытанскі імпэрыялізм будуе ваенны пляцдарм супроць савецкіх рэспублік Сярэдняй Азіі. У Афганістане манархія абшарнікаў-фэадалаў і буйнага гандлёва-ліхвярскага капіталу на чале з Надзіршахам стала агентам брытанскага імпэрыялізму. У Сіньцзяне (кітайскі Туркестан) англа-брытанскі імпэрыялізм арганізуе дывэрсыйныя наскокі супроць хлапковых раёнаў СССР. Ён стварае авіяцыйныя базы. У Мангольскай народнай рэспубліцы японскі імпэрыялізм прабуе выклікаць паўстаньне фэллахаў і буддыйскай царквы супроць народнарэвалюцыйнай улады, якая ўвасабляецца рэвалюцыйным урадам бедных аратаў і серадплякоў. Колькі разоў імпэрыялісты і іх гаміндаsucceeded агенты прабавалі ўжо справакаваць СССР на вайну сваімі бандыцкімі нападамі на прадстаўніцтвы СССР у Бейпіне, Цянзіне, Шанхаі, Кантоне, замахамі на консулаў СССР у Фудзяне, Хайлыне, Цыцыкары і г. д., арганізацыяй праз белагвардзейскія банды спробаў дывэрсыйных нападаў на савецкія тэрыторыі, распальваньнем канфліктаў на кітайска-усходняй чыгунцы, бандыцкім захопам кітайска-усходняй чыгункі ў 1929 г. Разрыў дыплёматычных адносінаў паміж СССР і Кітаем зьяўляецца толькі паасобным зьвяном у ланцугу падрыхтоўкі вайны супроць СССР на Далёкім Усходзе. На авнсцэну выступаюць розныя кітайскія генэральскія групы, але за іх сьпіной заўсёды стаяць буйныя імпэрыялістычныя драпежнікі, якія правакуюць гэтыя канфлікты і напады. Кітайскія генэралы адыгрываюць ролю наймітаў розных імпэрыялістычных груп. Вайна ў Манчжурыі зьяўляецца часткай падрыхтоўкі інтэрвэнцыі супроць СССР на Усходзе.

---

Японскі імпэрыялізм, заняўшы Манчжурыю, даў прыклад патаптаньня ўсіх правоў кітайскага народу, прыклад найбольш цынічнага наскоку, найбольш адкрытай грабежніцкай вайны супроць прыгнятаемага народу. Што-ж робяць імпэрыялісты другіх краёў і іх сацыял-фашыстоўская агентура? Сацыялфашысты ўсіх колераў ахвотна выступаюць і дагэтуль пад маскай пацыфістаў і выдаюць Лігу Нацый як прыладу абароны правоў слабых і прыгнечаных народаў. Бо «сацыялісты» усіх колераў пралілі цэлае мора атрамэту для

таго, каб давесьці, што Ліга Нацый пры іх дапамозе адчыніла новую эру ў гісторыі чалавецтва, эру міра, што Ліга Нацый ёсьць і ва ўсё большай меры будзе пры іх дапамозе рабіцца прыладай барацьбы за мір. Бо нудныя героі II інтэрнацыяналу ўжо праз цэлыя гады на гэтым ашукваюць рабочых, сялян і дробную буржуазію. Бо Макдональды, Каўцкія,Вандэрвельдэ, Отто Баўэры і іншыя выбіваліся з сіл, каб давесьці, што імпэрыялістычныя разбойнікі, якія ўваходзяць у Лігу Нацый, гатовы стаць авечкамі. Што-ж мы бачым цяпер? Узброеная да зубоў імпэрыялістычная краіна нападае на абяздоленую краіну, а Ліга Нацый благаслаўляе гэта. З цынічнай адкрытасьцю Ліга Нацый заяўляе, што японскія войска могуць і павінны заставацца там да канца. З бяспрыкладным цынізмам Ліга Нацый узводзіць у прынцып так званага міжнароднага права, што імпэрыялістычныя разбойнікі маюць права нападаць на каленіяльную краіну пад матывам «абароны жыцьця і маемасьці сваіх падданых». Кітай зьяўляецца членам Лігі Нацый, а Японія нават членам рады Лігі Нацый. Японія пачала вайну супроць Кітаю, а Ліга Нацый заяўляе, што напад, зроблены імпэрыялістычнай дзяржавай, ёсьць законны акт, што вайна, пачатая імпэрыялістычнымі рабаўнікамі, ёсьць справядлівая вайна. Прадстаўнікі розных імпэрыялістычных дзяржаў зусім адкрыта заявілі, што вайна не супярэчыць статуту Лігі Нацый. Ліга Нацый ва ўсёй сваёй палітыцы поўнасьцю здэмаскавала сябе як прыладу вайны, як прыладу каленіяльнае грабежы, як сродак падрыхтоўкі новай вайны, а подлыя сацыял-фашысты з балота расейскіх меншавікоў, гэтыя прыслужнікі генэрала Дзенікіна, гэтыя спэцыялісты II інтэрнацыяналу па ўсходніх пытаньнях, гэтыя саветнікі нямецкай сацыял-дэмакратыі, далі ў «Форвертсу» інфармацыю, што па манчжурскаму пытаньню СССР прадстаўляе найбольшую небясьпеку.

Японія вядзе вайну з Кітаем, Ліга Нацый благаслаўляе гэтую вайну, а галоўную небясьпеку, па думцы сацыял-фашыстаў, прадстаўляе СССР! II Інтэрнацыянал яшчэ і яшчэ раз здэмаскаваў сябе як аддзяленьне Лігі Нацый па падрыхтоўцы і правядзеньню контррэвалюцыйных, імпэрыялістычных, грабежніцкіх войнаў.

Тут досыць толькі коратка ўказаць на важнейшыя моманты падрыхтоўкі гэтай вайны. Як быў справакаваны канфлікт у Манчжурыі? Японскія войска ўмяшаліся ў канфлікт у Ван-Баончане паміж кітайскімі абшарнікамі і карэйскімі сялянамі. Японскі імпэрыялізм распальваў і арганізоўваў пагромы ў Карэі. Ахвярамі пагрому палі сотні і тысячы кітайцаў. Японскі імпэрыялізм распальваў генэральскія войны ў Кітаі. Выступленьне Ен Сі-Шана было арганізавана японцамі. Назначэньне старэйшага дыплёмата Учыда старшынёй Паўднёва-Манчжурскай чыгункі, правакацыя так званага забойства капітану японскага генэральнага штабу Накамура, узмацненьне японскіх гарнізонаў у Манчжурыі і ў Карэі, шавіністычная агітацыя ў самой Японіі былі важнейшымі момантамі ў падрыхтоўцы вайны супроць Кітая, у прыватнасьці Манчжурыі, у згодзе з групай імпэрыялістычных дзяржаў. Францускі імпэрыялізм нават ня ўтойваў, што ён падтрымоўвае Японію. Зразумела, паміж японскім і францускім імпэрыялізмам маюцца буйныя супярэчнасьці, але нясумненна, аднак, што ў данным выпадку японскі імпэрыялізм выступіў па згодзе і ухвале францускага імпэрыялізму. Зразумела, паміж ангельскім і японскім імпэрыялізмам маюцца супярэчнасьці ў Кітаі, і ў Манчжурыі ў прыватнасьці. Аднак выступленьне лёрда Сесіля ў Жэневе дае повад думаць, што ў данным выпадку паміж Японіяй і Англіяй ужо адбыўся гандаль. Зразумела, паміж ПАЗШ і Японіяй на Далёкім Усходзе, асабліва ў Кітаі, маюцца буйнейшыя супярэчнасьці. Аднак амэрыканскі імпэрыялізм вытрымлівае пазыцыю чаканьня, разьлічваючы, што аграбленьне Манчжурыі праз Японію будзе кампэнсавана яму аграбленьнем іншых частак Кітая. ПАЗШ спасылаецца на Вашынгтонскі дагавор 1922 г., які быццам гарантуе суверэнітэт і суцэльнасьць Кітая. Усе імпэрыялісты аднадушны ў імкненьні падзяліць Кітай. Аднак ПАЗШ абараняюць не суверэнітэт і суцэльнасьць Кітая, а хочуць ператварыць увесь Кітай у сваю калёнію альбо урваць для сябе як мага больш кавалак з жывога цела Кітая. Усе імпэрыялісты аднадушны ў імкненьні справакаваць вайну супроць СССР і супроць кітайскай рэвалюцыі. Іх інтарэсы сутыкаюцца толькі пры падзеле здабычы.

---

Японскі імпэрыялізм прыкладае ўсе стараньні, каб распальваць генэральскую вайну ў Кітаі. Бо-ж Ен Сі-Шань пры дапамозе японскай ваеншчыны накіраваўся ў правінцыю Шансі, каб там распальваць генэральскую вайну. Японскі ўрад накіраваў сваіх ваенных саветнікаў да Фын Юй-сяну і Ен Сі-шану. Кітайскі генэрал Шы Ю-сян выступіў па загаду сваіх японскіх гаспадароў. У Манчжурыі Чжан Сюэ-лян вядзе перагаворы з японскімі імпэрыялістамі. Цэлы шэраг кітайскіх мілітарыстаў ужо просіцца на ролю сатрапаў у барацьбе супроць кітайскіх працоўных мас

пад абаронай японскіх штыхоў. Бо-ж японская ваеншчына ўжо арганізоўвае новыя ўрады з кітайскіх мілітарыстаў у розных правінцыях Манчжурыі — у Мукдэнскай, Гірынскай, Хайлудзянскай правінцыях. Бо-ж японскія афіцэры ўжо распаўсюджваюць празрыстыя правакацыйныя весткі аб тым, што ў Манчжурыі адбываецца рух за аддзяленьне Манчжурыі ад Кітаю, за «незалежнасьць» Манчжурыі, г. ё. другімі словамі за поўную калёніяльную залежнасьць ад японскай ваеншчыны і ўлады японскіх імпэрыялістаў. Гэтыя правакацыйныя весткі дзівяць сваёй цынічнасьцю. Японская ваенная разьведка сабрала сваіх агентаў сярод кітайскіх мілітарыстаў, зьбірае атрады з расейскіх белагвардыйцаў, узбройвае гэтых агентаў і — абвяшчае рух за незалежнасьць Манчжурыі. Досыць добра вядомы ў Кітаі, сапраўдны бандыт генэрал Чан Цзюн-чан, вядомы сваёй барбарскай жорсткасьцю і грабежніцкай прагавітасьцю нават сярод кітайскіх мілітарыстаў, ужо вызначаецца ў якасьці вярхоўнага кіраўніка Манчжурыі з ласкі японскіх мілітарыстаў. Кітайскія мілітарысты ўдзельнічалі і ўдзельнічаюць у падрыхтоўцы і правядзеньні ваеннай акупацыі Манчжурыі японскімі імпэрыялістамі.

Ваенная акупацыя Манчжурыі здэмаскоўвае безсаромлівую ролю Гаміндану. Мае быць новы падзел Кітаю і Гаміндан зьяўляецца пастаўшчыком кітайскіх працоўных на эксплёатацыю і аграбленьне праз імпэрыялістаў. «Левыя», Вен Цін-вей, Чэн Гун-по, былы міністр замежных спраў нанкінскага ўраду, Юі Жэн-чэн стварылі кантонскі ўрад пры дапамозе ангельскага, а потым японскага і францускага імпэрыялізму. Прадстаўнік кантонскага ўраду Юн Жэн-чэн напярэдадні новай вайны езьдзіў у Токіё на паклон да японскіх імпэрыялістаў. Нанкінскі Гаміндан пасылаў у Японію сваіх прадстаўнікоў. Ці даўно Чан Кай-шы заключыў сакрэтную ўмову з японскім імпэрыялізмам? Саюзьнік нанкінскага Гаміндану Чжан-Сюэ-лян даў загад кітайскім войскам у Манчжурыі зложыць аружжа перад японскімі імпэрыялістамі. Ці не грабежніцкая палітыка Гаміндану вінавата ў тым, што ў цяперашнім часе ў Кітаі 80 мільёнаў чалавек знаходзяцца напярэдадні галоднай сьмерці? Ці не Гаміндан заклікаў замежных імпэрыялістаў прыняць удзел у разгроме кітайскай рэвалюцыі? Ці не Гаміндан капітуляваў перад замежным імпэрыялізмам? Ці не Гаміндан прасіў дапамогі ў Лізе Нацый у момант ваеннай акупацыі, дапамогі ў гэтага аб'яднаньня імпэрыялістычных драпежнікаў? Ці не прадстаўнік Гаміндану згадзіўся з пастановамі Лігі Нацый адносна акупацыі Манчжурыі? Ці не Гаміндан прасіў дапамогі ў Злучаных Штатах, якія ў першы-жа момант акупацыі абвясьцілі, што вайна ў Манчжурыі ня ёсьць ужываньне вайны як сродку нацыянальнай палітыкі? Ці не Гаміндан пачаў перагаворы з японскім імпэрыялізмам у момант ваеннай акупацыі? Ці не Гаміндан арганізаваў і праводзіў баі супроць рабоча-сялянскай Чырвонай арміі кітайскіх працоўных, — адзінай ваеннай сілы, якая сапраўды змагаецца супроць імпэрыялізму? Ці не Гаміндан вядзе вайну супроць саветаў — адзінай сілы, якая здольна весьці барацьбу за нацыянальную незалежнасьць, за аб'яднаньне Кітаю? Ці не Гаміндан растрэльвае рабочых, якія выступаюць з дэманстрацыямі супроць імпэрыялістаў? Ці не Гаміндан нішчыць рэвалюцыйных рабочых, якія арганізоўваюць стачкі пратэсту супроць імпэрыялістычных драпежнікаў? Гаміндан падрыхтаваў і арганізаваў сваімі рукамі ваенную акупацыю.

---

Калі японскія войска ўвайшлі ў Мукдэн, кітайскія рабочыя абвясьцілі ўсеагульную стачку. У Фушуне кітайскія гарнякі таксама абвясьцілі стачку пратэсту супроць японскай акупацыі. У Цзян-дау карэйскія сяляне вядуць партызанскую барацьбу супроць японскіх імпэрыялістаў. У самой Японіі рабочыя арганізоўваюць дэманстрацыі пратэсту супроць ваеннай авантуры японскага фінансавага капіталу Ва ўсіх прамысловых цэнтрах Кітаю ўздымаюцца хвалі рабочых стачак і дэманстрацый супроць новага выступленьня японскага імпэрыялізму. Рабочая кляса Кітаю на чале з камуністычнай партыяй згуртоўвае вакол сябе кітайскіх працоўных на барацьбу з імпэрыялізмам і з яго контррэвалюцыйнай агентурай — з Гаміндан ам. Чырвоная армія кітайскіх працоўных наступае на войска Чан-Кай-шы. Пашыраюцца савецкія раёны, адваёўваючы ўсё новыя і новыя тэрыторыі ад імпэрыялістаў і катаўскага Гаміндану. Узрастае хваля стачак і рэвалюцыйных выступленьняў. Міжнародны пралетарыят абкружае сваім спачуваньнем, сваёй пралетарскай салідарнасьцю кітайскую рэвалюцыю. Імпэрыялісты вядуць вайну супроць кітайскага народу, супроць кітайскіх працоўных. Распальваецца пажар новай сусьветнай імпэрыялістычнай вайны. Падрыхтоўваецца інтэрвэнцыя супроць краіны сацыялізму. Міжнародны пралетарыят павінен быць напагатове.

# МАТАР'ЯЛЫ І ДАКУМЭНТЫ.

## З АБЕЖНІКУ ЦК КПП.

### (Аб «Міжнародным дню селяніна»).

У варунках нарастаючага рэвалюцыйнага крызысу ў Польшчы, асабліва паважнае значэньне набывае барацьба за саюзьнікаў пралетарскай рэвалюцыі, у першую чаргу, шырокія масы працоўнага і прыгнечанага сялянства.

Улічваючы вялізарнае значэньне разгортваньня барацьбы мільённых сялянскіх мас у сучасны пэрыяд магутнага рэвалюцыйнага ўздыму, напярэдадні рашаючых клясавых баёў, ЦК КПП прапануе ўсім партыйным арганізацыям правесьці спэцыяльную кампанію, якая мае на мэце дабіцца рашучага пералому ў галіне арганізацыі і кіраўніцтва барацьбой сялянскіх мас — кампанію **«Міжнароднага Дню Селяніна»**, устанавіўшы яго, па ўзгадненьню з камуністычнымі партыямі Нямеччыны, Чэха-Славакіі, Балгарыі і Югаславіі, на **15 лістапада** бягучага году.

У агітацыі, падрыхтоўцы і правядзеньні данной кампаніі партыйныя арганізацыі павінны выходзіць з наступных момантаў:

1. Высьвятленьне роспачлівага становішча шырокіх мас сялянства ў Польшчы і інш. капіталістычных краінах у процілегласьць магутнаму разьвіцьцю дабрабыту бядняцкіх і серадняцкіх мас у СССР.

2. Арганізацыя барацьбы сялянскіх мас супроць падатковага грабежу, даўгоў, недаімак, прыгонных шарварак шляхам паўсямеснай арганізацыі неплацяжу падаткаў, даўгоў, недаімак, штрафаў, адмаўленьня ад выкананьня шарварак і арганізцыі актыўнага масавага адпору пры спагнаньні іх пад лёзунгам: «Ні граша фашыстоўскаму ўраду — ураду голаду, беспрацоўя, тэрару і вайны». У разгортваньні антыпадатковай барацьбы асаблівую ўвагу неабходна надаць высьвятленьню масам, куды ідуць сьцягнваныя з іх мільярды (арганізацыя вайны супроць СССР, армія паліцэйскіх, шпікоў, чыноўнікаў, экзэкутараў, клеру для душэньня барацьбы мас за іх істотныя патрэбы, для душэньня барацьбы прыгнечаных Польшчай народаў, дапамога фабрыкантам і абшарнікам, пакрыцьцё іх страт пры дэмпінговым экспарце і т. п.).

3. Завастрэньне барацьбы супроць фашыстоўскай зямельнай палітыкі (актыўны адпор камасацыі, ліквідацыі сэрвітутаў, самавольнае карыстаньне сэрвітутамі, захоп дроў і лясных матар'ялаў з абшарніцкіх і дзяржаўных лясоў і т. п.) пад лёзунгам «зямля бяз выкупу сялянам і сельска-гаспадарчым рабочым».

4. Арганізацыя масавай барацьбы за дзяржаўную бясплатную дапамогу беспрацоўным і галадуючым масам пад лёзунгам «канфіскацыя абшарніцкага хлеба і размеркаваньне яго сярод галодных, арганізацыя масавага захопу хлеба з абшарніцкіх клецяў беспрацоўнымі і галадуючымі».

5. Барацьба супроць узмацняючайся абшарніцкай і кулацкай эксплёатацыі шляхам арганізацыі забастовак сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых.

6. Ахоп нашым уплывам стыхійных выбухаў і актаў тэрару і накіраваньне іх у рэчышча масавай арганізаванай барацьбы супроць падатковага грабежу, абшарніцкай эксплёатацыі, за зямлю бяз выкупу, супроць фашыстоўскай дыктатуры, за рабоча-сялянскі ўрад.

7. Стварэньне дружын масавай самаабароны. Арганізацыйны ахоп стыхійнай цягі мас да ўзбраеньня, арганізацыя адпору фашыстоўскаму тэрару, карным экспэдыцыям аж да ўзбройнага супраціўленьня карным атрадам.

8. Стварэньне шырокай сеткі сялянскіх камітэтаў барацьбы (антыпадатковыя, антышарварачныя, па барацьбе з камасацыяй, ліквідацыяй сэрвітутаў, камітэты дапамогі беспрацоўным і галадуючым і інш.), актывізацыя іх, забесьпячэньне кіраўніцтва іх дзейнасьцю з боку партыйных арганізацый, а таксама дапамога арганізаваньню і пашырэньню масавых легальных рэвалюцыйных сялянскіх арганізацый.

9. Узмацненьне барацьбы з фашыстоўскімі, нарадніцка-нацыянал- і сацыял-фашыстоўскімі партыямі і арганізацыямі ў вёсцы, дэмаскаваньне іх здрадніцкай дзейнасьці, разлажэньне іх арганізацый і арганізаваньне ў іх рэвалюцыйных апазыцый.

10. Пашырэньне сеткі партыйных і камсамольскіх ячэяк у вёсцы і падняцьцё актыўнасьці палітычнай ініцыятывы вясковых арганізацый, узьняцьцё актыўнасьці акруговых камітэтаў у справе кіраўніцтва работай вясковых ячэяк.

11. Шырокая папулярызацыя барацьбы сялянскіх мас сярод прамысловага і сельска-гаспадарчага пралетарыяту, арганізацыя актыўных выступленьняў пралетарыяту для падтрыманьня барацьбы сялянскіх мас. Узмацненьне саюзу рабочых і сялян і шырокіх мас прыгнечаных народаў і ўзмацненьне гегемоніі пралетарыяту ў сялянскім нацыянальна-вызваленчым руху.

Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на пасылку рабочых дэлегатаў і прамоўцаў на сялянскія сходы, зьезды і мітынгі, і наадварот, пасылку сялянскіх дэлегатаў і прамоўцаў у прамысловыя цэнтры і фабрыкі, а таксама на ўзаемную пасылку дэлегацый сялян карэннай Польшчы ў ЗБ і ЗУ і наадварот.

**ЦК КПП.**

## КАМУНІКАТ

### Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі Польшчы.

Агалошаны ў «Экспрэсе Паранным» паліцэйскі камунікат, нібы «гектаграфаваныя адозвы, якія падбухторваюць да антыяўрэйскіх выступленьняў» былі «камуністычнай работаю», — гэта подлае ашуканства, разьлічанае на наіўнасьць грамадзтва.

КПП ужо на працягу доўгага часу засьцерагала працоўныя масы перад антысэміцкімі правакацыямі, што праводзіліся рознымі студэнцкімі арганізацыямі, а таксама эндэкамі. У адозве, якую мы выдалі ў гэтай справе два тыдні таму назад, мы пералічвалі канкрэтныя факты. Фашыстоўскі ўрад Пілсудзкага арганізуе цяпер антысэміцкае цкаваньне і рыхтуе яўрэйскія пагромы, каб у такі спосаб адкіраваць увагу працоўных мас ад сапраўдных крыніц сучаснага санацыйнага пекла ў Польшчы. Гэта ёсьць стары, выпрабаваны сродак царскай ахранкі, якая перад рэвалюцыяй, у часе яе, у 1905 годзе арганізоўвала так званыя чорныя сотні. Перад кожнай забастоўкай, да якой рыхтуюцца рабочыя, зьяўляюцца на мурах гарадоў пагромныя адозвы, якія не зрываюцца паліцыяй і расклейваюцца пад яе чуйным вокам. Так было ў Лодзі ў час выбуху забастоўкі рабочых шоўкавых фабрык, так было ў Варшаве ў часе забастоўкі гарадзкіх служачых, у лодзінскай правінцыі ў сувязі з падрыхтоўкаю рабочых тэкстыльшчыкаў да забастоўкі, — усюды выпускаліся пагромныя адозвы.

Працоўныя масы Польшчы добра ведаюць крывавы твар фашыстоўскай дэфэнзывы, палачоў з Луцку, Львову, Пінску і іншых катавальняў, каб паверыць у антысэміцкія правакацыі паліцэйскіх пана Пілсудзкага. Супольная рэвалюцыйная барацьба польскіх, нямецкіх, украінскіх, беларускіх і літоўскіх рабочых і сялян у адных шэрагах з яўрэйскімі рабочымі, зваленьне фашыстоўскай дыктатуры, Польская Рэспубліка Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў — зьнішчыць з паверхні гэтую рэакцыйную ганьбу, якой зьяўляецца антысэмітызм, і забясьпечыць яўрэйскім масам поўнае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне.

## ВІЛЕНСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАВІННА ВЫПРАВІЦЬ СВАЕ ПАМЫЛКІ.

### (З лісту ЦК КПЗБ).

Віленская арганізацыя за апошні час колькасна вырасла і ўзмацавалася сярод польскіх і беларускіх рабочых; правяла некалькі добра арганізаваных акцый, здолела стварыць вакол сябе рэвалюцыйны актыў. Гэта павінна было яшчэ больш узмацніць і ўбаявіць нашу партыйную і камсамольскую арганізацыю. Між тым апошнія падзеі кажуць аб тым, што Віленская арганізацыя ня толькі не пасунулася наперад, але зрабіла крок назад.

Ня гледзячы па наяўнасьць ячэйкі тартачнікаў, мы ўсё-ж ня здолелі стаць на чале забастоўкі і далі магнымасьць Бойку перахапіць у нас кіраўніцтва забастоўкай і здрадзіць яе. Мы нават не змаглі арганізаваць тартачнікаў — партыйцаў дзеля кіраўніцтва гэтай барацьбой, не сумелі абраць агульна-забастовачнага камітэту, хаця забастоўка працягвалася больш двух тыдняў... Ня гледзячы на дзесяткі рашэньняў цэнтральных органаў нашай партыі, Віленская арганізацыя дагэтуль не змагла стварыць самаабарону. 1-га жніўня наша Віленская арганізацыя не змагла вывесьці масы на вуліцу... Нашы таварышы абмежаваліся прапагандыстычнай працай (ды й то толькі сярод рабочых дробных прадпрыемстваў) і распаўсюджваньнем літаратуры.

Усё гэта гаворыць аб тым, што патрэбны тэрміновыя захады дзеля актывізацыі і ўбаявеньня Віленскай арганізацыі, якая павінна стаць у сапраўднасьці перадавой арганізацыяй на ЗБ.

У Віленскай арганізацыі існуе яшчэ вельмі моцна недаацэнка радыкалізацыі мас, няверра ў гатоўнасьць мас змагацца пад нашым сьцягам, супроць фашыстоўскай дыктатуры. Віленская арганізацыя недастаткова змагалася супроць недаацэнкі барацьбы за вуліцу (масавыя выступленьні і дэманстрацыі). Віленская арганізацыя недаацэніла ўсёй неабходнасьці і важнасьці арганізацыі працоўных мас для арганізаванага супраціўленьня фашыстоўскаму тэрару, недаацэніла рэвалюцыйнага значэньня масавых дружын самаабароны. Віленская арганізацыя слаба рэагавала на недапушчальна правую памылку з боку некаторых кіруючых таварышоў, якія па сваёй уласнай ініцыятыве ўвялі рабочых у ББхаўскі саюз, тлумачучы гэта неабходнасьцю «легальных пляцовак». Віленская арганізацыя прайшла моўчкі міма такой праявы крайне правага апартунізму і прафсаюзнага легалізму, не раскрытыкавала гэтых памылак на ячэйках і ў шэрагах рэвалюцыйнага актыву, што аслабіла нашу барацьбу супроць сацыял-фашызму і ББ...

Віленскай арганізацыяй было звернута мала ўвагі на арганізацыйнае ўзмацаваньне ўплыву партыі непасрэдна на прадпрыемствах. Невыстарчальна ўцягнуты ў непасрэднае кіраўніцтва эканамічнымі баямі ячэйкі... Урэшце, арганізацыя ня здолела адпаведным чынам паставіць палітычнае выхаваньне новых членаў партыі. Іх выхоўваньне ішло па лініі прапагандызму, а не па лініі ўцягваньня і актывізацыі ў ходзе штодзённай працы.

Віленская арганізацыя павінна паддаць бальшавіцкай крытыцы ўсе дапушчаныя ёю памылкі, выправіўшы іх у сваёй далейшай практычнай працы.

## ЯК ПРАВЕСЬЦІ ЛЁЗУНГ «РАЎНЯЙЦЕСЯ ПА БЕРАСЬЦЕЙСКАЙ АКРУЗЕ».

### З лісту ЦК КПЗБ да ўсіх АК, РК і вясковых ячэяк.

Для таго, каб зразумець, як правесьці ў жыцьцё лёзунг «раўняйцеся па Берасьцейскай акрузе», трэба ў першую чаргу ведаць, што адбываецца ў Берасьцейскай акрузе і ўлічыць досьлед барацьбы і працы партыйных арганізацый Берасьцейшчыны.

Амаль ва ўсіх раёнах Берасьцейскае акругі сяляне ня плоцяць падаткаў. У шэрагу раёнаў сяляне бастуюць, не выходзяць на шарваркі (Дамачоўскі і шэраг іншых раёнаў); у некаторых мясцох сяляне праводзяць «італьянскія забастоўкі» — на дарогі выходзяць, але там не працуюць. Паасобных сялян, якія выходзяць на шарваркі (пераважна кулацкія элемэнты), лічаць штрайкбрэхерамі і вядуць супроць іх барацьбу. Па ўсей акрузе і ў розных раёнах адбываюцца забастоўкі сэзоньнікаў, зацятыя баі з абшарнікамі і паліцыяй за сэрвітуты, за зямлю, баі з сэквэстратарамі. Сяляне ня плоцяць падаткаў, штрафаў і працэнтаў з даўгоў, выдадзеных у сувязі з камасацыяй і т. п.

З усяго гэтага відаць, што вясковыя партарганізацыі Берасьцейшчыны, узмацніўшы сваё кіраўніцтва, сумелі падняць барацьбу сялянскіх мас за іх штодзённыя патрэбы, сумелі на гэтым грунце вывесьці ў бой шырачэзныя масы сялян, стаць на чале іх барацьбы з фашыстоўскай дыктатурай. Гэтаму павінны навучыцца ад Берасьцейскай арганізацыі ўсе вясковыя арганізацыі нашай партыі.

Па прыкладу Берасьцейскае акругі ўсе вясковыя арганізацыі павінны прыступіць да разгортваньня шырокіх масавых кампаній вакол неплацяжу падаткаў...

Нашы арганізацыі павінны памятаць, што масавы неплацёж падаткаў, баявы адпор з боку сялян трэба арганізаваць. Трэба сумець прыцягнуць аколічныя вёскі на дапамогу той вёсцы, якая змагаецца. Трэба памятаць, што арганізацыя неплацяжу падаткаў не вычэрпываецца адпаразовым адмаўленьнем сэквэстратару, што барацьба з паліцэйскімі бандамі зьяўляецца працяжнай, што яна можа быць пераможнай толькі пры правільнай яе арганізацыі. Таму ў кожнай вёсцы неабходна выбіраць з сялянскай масы баявы ворган — сялянскі камітэт барацьбы, які кіраваў-бы штодзённай барацьбой мас, трэба падрыхтаваць самаабарону, трэба ўстанавіць сувязь з батракамі, з аколічнымі вёскамі (праз чырвоных ганцоў), больш шырокія сувязі з фабрыкамі ў горадзе.

Побач з кампаніяй неплацяжу падаткаў партыя арганізоўвае масы на невыкананьне ваенна-кабальных шарварак, супроць ліквідацыі сэрвітутаў.

У кожнай паасобнай вёсцы партыя арганізоўвае масы вакол пытаньняў, якія асабліва набалелі для даннай вёскі...

## УЗНЯЦЬ НА АДПАВЕДНУЮ ВЫШЫНЮ МЯСЦОВЫЯ ВЫДАНЬНІ.

### З лісту ЦК мясцовым арганізацыям.

Аграмаднейшае значэньне ў перажываемы намі момант мае адпаведная пастаноўка выдавецкай працы на мясцох. Мясцовыя арганізацыі павінны навучыцца самастойна і неадкладна рэагаваць добрай адозвай на ўсё тое, што дзеецца ў іх акрузе, раёне, горадзе, вёсцы, альбо фабрыцы. Асабліва гэта датычыць ячэяк, якія адстаюць у гэтых адносінах. Бо можа-ж здарыцца (і да гэтага трэба рыхтавацца), што мясцовыя арганізацыі могуць быць адарваны ад гораду, а ячэйкі могуць быць на некаторы час адарваны ад сваіх арганізацыяў і павінны будуць самастойна дзейнічаць...

Каб адозва, альбо лістоўка адпавядала свайму прызначэньню і была добрай, неабходна перадусім, каб яна была **канкрэтнай**. Не ўдаваючыся ў высокую палітыку, трэба адразу браць быка за рогі. З першых-жа слоў павінна быць ясна, аб чым будзе гаварыць данная лістоўка, якое пытаньне яна закране.

Далей, у залежнасьці ад таго, для каго яна прызначана (акруга, раён, фабрыка, галіна прамысловасьці, рабочыя, сяляне, салдаты і г.д.), яна павінна апісаць становішча тых атрадаў працоўных, да якіх яна зварочваецца, паказаць, як крызыс уплывае на іх варункі працы і жыцьця. Вельмі важна даваць канкрэтныя факты з іх варункаў працы, а таксама канкрэтныя факты здрадніцтва сацыял- і нацыянал-фашыстаў на данным вучастку, увязваючы гэта з агульнай барацьбой працоўных мас і агульнай палітыкай фашызму. Трэба заўсёды ў лістоўках канкрэтна ўказваць, што павінны рабіць рабочыя і сяляне, каб знайсьці выхад з свайго цяжкага становішча. Лёзунгі і заклікі, якія мы даём у лістоўцы не павінны быць штучна прычэплены, але павінны лёгічна вынікаць са зьместу ўсяе адозвы, прычым ня трэба імі перагружаць лістоўкі, а даваць тыя лёзунгі, якія найбольш адпавядаюць зьместу лістоўкі і найбольш адпавядаюць даннай сытуацыі. Лістоўка павінна быць напісана на такой мове, каб кожны, прачытаўшы яе, адчуваў, што яна напісіна чалавекам, блізкім, добра ведаючым яго патрэбы і варункі жыцьця. Каб лістоўка выканала сваё прызначэньне, яна ні ў якім выпадку не павінна быць доўгай; трэба навучыцца ў нямногіх словах укладваць як мага больш зьместу...

Апрача лістовак, неабходна энэргічна ўзяцца **за справу выданьня фабрычных і фальваравачных газэтак** альбо-ж газэтак па галінах прамысловасьці, падобна да «Віленскага Гутніка», які быў выдадзены ў Вільні камітэтам акцыі ў часе забастоўкі гутнікаў. Такія газэты маюць аграмаднае палітычнае значэньне: 1) яны мабілізуюць вакол сябе вялікую частку рабочых, 2) мабілізуюць думку фабрыкі вакол канкрэтных пытаньняў, якія блізка датычаць рабочых, 3) палітычна выхоўваюць рабочых, 4) даюць магчымасьць уцягнуць у нашы шэрагі найбольш актыўных рабочых, якія напэўна ў першую чаргу будуць прымаць у ёй удзел, 5) даюць матар'ял з жыцьця і барацьбы рабочых на данным вучастку.

Такія фабрычныя газэты з усіх пунктаў гледжаньня дапамогуць нам у нашай агульнай працы. Як іх арганізаваць і паставіць?

Перадусім трэба прытрымлівацца наступных асноўных палажэньняў: па-першае, такая газэтка павінна складацца з карэспандэнцый рабочых даннай фабрыкі або заводу; астатняе месца трэба адводзіць невялічкім стачкам альбо нататкам аб становішчы і барацьбе іншых рабочых даннага месца, барацьбе сялян як у ЗБ, гэтак і ў Польшчы. У такой газэтцы трэба даваць таксама кароценькія нататкі аб барацьбе пралетарыяту і сялянства іншых краёў, інфармацыю аб СССР, аб посьпехах рабочых Савецкай краіны (пажадана таксама з той галіны прамысловасьці, якая па вытворчасьці блізка да фабрыцы, што выдае гэтую газэтку). Газэтка павінна ўказваць на баявы прыклад барацьбы іншых рабочых. Але галоўнае—яна павінна жыва **рэагаваць на кожны факт з жыцьця рабочых даннай фабрыкі.** З тэхнічнага боку яна павінна быць невялікай, лепей больш часта яе выдаваць; вонкава яна павінна быць як мага больш жыва аформлена.

Каб выдаваць газэту, выдаваць добрую адозву, складаць добрыя справаздачы з месц, неабходна наладзіць адпаведным чынам мясцовую інфармацыю. Невыстарчальна, калі мы будзем абмяжоўвацца ў гэтай галіне стараньнямі адных толькі членаў партыі. **Мы павінны ўцягнуць у нашу выдавецкую працу самы шырокі рабоча-сялянскі актыў, стварыць сетку рабоча-сялянскіх карэспандэнтаў...** Кожная ячэйка павінна вылучыць з свайго асяродзьдзя аднаго тавáрыша, адказнага за інфармацыю аб жыцьці, варунках працы і барацьбе рабочых альбо сялян. Кожная ячэйка павінна паставіць сабе задачай завербаваць некалькі беспартыйных карэспандэнтаў, якія-б пісалі ў наш друк. Трэба памагаць ім і вучыць іх гэтай справе... Пісаць карэспандэнцыі неабходна не наогул, а аб канкрэтных фактах з жыцьця і барацьбы працоўных мас...

Неабходна зьвярнуць вялікую ўвагу, каб тое, што мы выдаем, дайшло да найбольш шырокіх мас. Вельмі важным зьяўляецца арганізацыя груп, якія-б распаўсюджвалі і чыталі нашу літаратуру...

Як прыступіць да такой працы? Яе можна распачаць з таго, што, пагаварыўшы з некаторымі найбольш энэргічнымі беспартыйнымі рабочымі, сабраць іх разам і разам абгаварыць, як паставіць справу распаўсюджваньня нашых выданьняў. Трэба прытрымлівацца наступных асноўных палажэньняў: наша літаратура павінна даходзіць да рабочых і сялян не выпадкова, а сыстэматычна і арганізавана; атрымліваць яе павінны як мага больш шырокія масы, яна павінна перахадзіць з рук у рукі. Трэба зацікавіць ёю рабоча-сялянскія масы; зрабіць так, каб яны самі дамагаліся ад нас і чакалі нашых выданьняў... Трэба арганізоўваць грашовы збор на рабоча-сялянскую прэсу. Трэба таксама арганізоўваць групы чытачоў нашай прэсы...

## ЯК ЗМАГАЦЦА З КАРНЫМІ ЭКСПЭДЫЦЫЯМІ?

Барацьба сялян Берасьцейскае акругі дае шэраг прыкладаў арганізаванай барацьбы з карнымі экспэдыцыямі.

Ліст ЦК КПЗБ прыводзіць шэраг прыкладаў гэтай барацьбы.

...У Волчынскім раёне, у выніку карнай экспэдыцыі, было арыштавана 90 чалавек. Шмат сялян і партыйцаў уцяклі ў лес. Але на заклік партыі яны неадкладна зьвярнуліся і разгарнулі масавую працу. Правялі шэраг масовак, на якіх прынялі рашэньне аб байкоце канфідэнтаў, ад неплацяжу падаткаў, аб выбары камітэтаў барацьбы...

Волчынскі факт і іншыя кажуць аб вялікім уплыве і гнуткасьці нашай партыйнай арганізацыі, якая назаўтра-ж пасьля карнай экспэдыцыі змагла разгарнуць масавую кампанію. Але адначасова шэраг іншых фактаў гаворыць аб няўменьні арганізаваным чынам супроцьпаставіцца карным атрадам, у першую чаргу з-прычыны адсутнасьці баявых дружын масавай самаабароны. Гэта часта на сваім карку адчуваюць змагаючыяся сяляне. Некаторыя з іх, ня ведаючы як стварыць дружыны масавай самаабароны, не атрымоўваючы адпаведных указаньняў ад партыйных арганізацый, адыходзяць у бок, каб рабіць па-свойму. Такія зьявішчы мы мелі ў Дамачоўскім раёне...

Стварэньне дружын масавай самаабароны мае аграмаднае значэньне ня толькі для Берасьцейскай акругі, але і для ўсёй ЗБ. Паўсюды неабходна неадкладна прыступіць да іх арганізацыі. Дружыны павінны, выходзячы з досьледу першых-жа сутычак з паліцыяй, распрацаваць плян акцыі, плян абароны сялянскіх мас ад нападу, улічваючы неабходнасьць уцягваньня ў актыўную барацьбу ў часе прыходу карнай экспэдыцыі і паліцэйскіх атрадаў усей масы працоўных сялян, як у даннай вёсцы, гэтак і ў ваколічных вёсках.

Арганізацыя сеткі баявых дружын масавай самаабароны—вось другое галоўнае, чаму вучыць досьлед Берасьцейскае акругі, што павінна быць усьведамлена ўсімі арганізацыямі ЗБ.

## ЗЬМЕСТ:

